



# Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

23 ЧЭРВЕНЯ 2000г. № 25/4057 КОШТ 85 РУБ.


## СВЯТЛО ЗГАСЛАЙ ЗОРКІ

***Яўген РАГІН: “Развітваемся з Веткай. Развітваемся з сённяшняй, бо наша колішняя — пастаянна з намі. Мы едзем дахаты. Ветка ўжо дзесьці недасягальна далёка. Старая Ветка, дзе колісь не прызнавалі ўладу, ратавалі душу, вучылі і вучыліся глядзець праўдзе ў вочы. Няма яе, стараверскай, раскольніцкай. Ці хопіць сіл дачакацца “новаверскай”?***

**5**

## ЧАБОР ПАЭЗІІ

***Да 95-годдзя з дня нараджэння народнага паэта Беларусі Петруся БРОЎКІ***

**7, 14—15**

## З РОЗНЫХ ГАДОЎ

***Вершы Сяргея ГРАХОЎСКАГА***

**8**

## СУТОННЕ АСЕННЯГА ДНЯ

***Апавяданне Адольфа ВАРАНОВІЧА***

**9, 14—15**

## ПЕРШЫ — ЁН ЧАСТА І ГАЛОЎНЫ

***Раман ЯРОХІН: “Пераглядаючы свой хатні архіў, наткнуўся я на рукапіс-рэцэнзію Кандрата Крапівы на першую поўнаметражную п’есу Андрэя Макаёнка “На досвітку”. Рэцэнзія, як тады казалі, “закрытая”, напісана для выдавецтва, якое мела намер даць твору “пуцёўку ў жыццё”. З таго часу прайшло амаль паўстагоддзя...”***

**13**

## БУДЗЬМА РАЗАМ!

*Шаноўныя чытачы! Ідзе падпіска на “ЛіМ” на другое паўгоддзе 2000 года. Аформіць падпіску можна ў любым паштовым аддзяленні. Кошт індывідуальнай падпіскі на адзін месяц — **400** рублёў, на квартал — **1 200** рублёў і на паўгоддзе — **2 400** рублёў. Кошт ведамаснай падпіскі на месяц — **1 250** рублёў, на квартал — **3 750** рублёў і на паўгоддзе — **7 500** рублёў.*

**Наш індэкс — 63856.**



“Чалавек — гэта цэлы свет” — у гэтых словах увесь Кузьма Чорны, творчасць якога сёння ўспрымаецца эпапеяй народнага жыцця, глыбінна-засяроджаным роздумам аб падзеях, сведкам якіх быў сам пісьменнік, а таксама тых, што адбываліся раней. А яшчэ яна — імклівы позірк у дзень заўтрашні, у той дзень, у якім жыць нашым наступнікам. Аднак ім будзе жыць значна цяжэй і складаней, калі яны не прымуць пад увагу вопыт папярэднікаў, старанным чынам не засвояць лепшае і не паставяцца крытычна да таго, што падлягае пераасэнсаванню. Так і беларускай літаратуры сёння немагчыма плённа развівацца, не засвоіўшы належным чынам урокі Кузьмы Чорнага. Яго вопыт — цудоўнага апавядальніка і выдатнейшага раманіста — аб’ядноўваецца ў, здавалася б, простым і разам з тым надзіва аб’ёмным вызначэнні — чалавеказнаўства. А мацуецца яно на чорнаўскай упэўненасці і перакананасці, што, зразумеўшы як мага лепш чалавека, убачыўшы ў ім сам свет, можна спасцігнуць і глыбінныя працэсы, што аб’ядноўваюць дзень учарашні і сённяшні з будучыняй.

Заўтра спаўняецца 100 гадоў з дня нараджэння Мікалая Карлавіча. Першыя сто гадоў з той вечнасці, якая наканавана яго неўміручым творам, што даўно сталі класікай нацыянальнай літаратуры. З вечнасці, да якой далучыўся і іх аўтар — адзін з самых выдатных беларускіх пісьменнікаў.

*Артыкул М. Тычыны да юбілею Кузьмы Чорнага — на стар. 6—7.*



## КОЛА ДЗЁН

***Просты люд сёння заклапочаны няспынным, амаль з дня ў дзень ростам цэн на розныя паслугі, тавары і прадукты, у тым ліку на гарэлку, затрымкамі з выплатай мізэрнай зарплаты, недарэчнымі катаклізмамі ў прыродзе, якія пагражаюць і без таго кволым сёлета пасевам. Высокія ж, як кажуць, матэрыі, напрыклад, замежныя паездкі прэзідэнтаў, мала цікавяць людзей, прытым, выдае, па абодва бакі празрыстай мяжы. Куды ўжо тут да ўзаемнай увагі! Расіянам мала справы да таго, што робіцца ў Беларусі, а беларусы ўсё больш трацяць інтарэс да таго, што дзеецца "на шырокіх расійскіх прасторах". Нам даўно пара засяродзіцца на ўласных праблемах, якіх за нас ніхто не вырашыць. А бедных "сваячкоў" не любіць ні Захад, ні Усход...***

### ЦІШЫНЯ ТЫДНЯ

"Народная газета" за 20 чэрвеня змясціла да болю сумную інфармацыю пра дэмаграфічную сітуацыю ў Драгічынскім раёне. У 50-ці вёсках (са 133-х) летась не святкавалі народзін. Насельніцтва не проста старэе — яно катастрафічна змяншаецца. У мінулым годзе памерла 866 чалавек, нарадзілася — 587. Сярод памерлых кожны восьмы ва ўзросце ад 20 да 50 гадоў, мужчын памірае ў чатыры разы больш, чым жанчын... Пасля ўсяго гэтага застаецца толькі цяжка ўздыхнуць, напаследак спытаўшы: а дзе, у якіх раёнах сітуацыя лепшая? А над Беларуссю, між тым, "звіняць цымбалы і гармонік" і віхурыць полька ад Чачэрска на ўвесь свет...

### ПАЛЁТ ТЫДНЯ

Ці не ўсе газеты абышло паведамленне аб трагічным здарэнні ў вёсцы Корнадзь Свіслацкага раёна. Там загінуў, падняўшыся ў неба на зробленым уласнымі рукамі самалёціку, калгасны слесар Уладзімір Маргун. Цікавы быў чалавек. Самародак. Мясцовы Кулібін. Майстар на ўсе рукі. І вось — газеты напісалі пра яго тады, калі ён загінуў. Такія мы, беларусы. Гэта ўжо нешта горшае, чым простыя лянота і нецікаўнасць. Гэта наша абыякавасць...

### ПРАЕКТ ТЫДНЯ

Пінск стане першым райцэнтрам Беларусі, дзе будзе ўзведзены лядовы палац. Будаўніцтва яго прадугледжана праектам рэканструкцыі мясцовага каледжа. Палац, як і ўсе раней пабудаваныя ў краіне, прызначаны для правядзення хакейных матчаў, заняткаў фігурным катаннем, а таксама яго можна будзе трансфармаваць у канцэртную залу. Багатыя мы, браткі-беларусы! Па лядовых палацах наперадзе ўжо, бадай, усіх краін СНД, а там, глядзім, і розныя Швецыі разам з Галандыямі абставім...

### ПАПЯРЭДЖАННЕ ТЫДНЯ

З набліжэннем сезона збору ягад і грыбоў спецыялісты папярэджваюць аб неабходнасці радыелагічнай праверкі дарункаў лесу. 30—40 працэнтаў даследаваных проб даюць перавышэнне ўзроўню ўтрымання радыенуклідаў у ягадах, а яшчэ больш — у грыбах. Таму трэба насельніцтву ўважліва кантраляваць радыяцыйныя параметры лясных дарункаў, прычым не толькі на Гомельшчыне. Колькі яшчэ наперадзе ў нас будзе такіх летаў і такіх папярэджанняў? І ці ўсюды ёсць і будзе магчымасць ажыццяўляць гэты кантроль?

### РЭКОРД ТЫДНЯ

Найбольшыя сярод краін СНД выдаткі на адукацыю і прафесійную падрыхтоўку ў 1999 годзе былі ў Беларусі. Калі верыць статыстыцы, вядома. У нас яны склалі 6,4 працэнта ад ВУП, у той час як у Азербайджане, Казахстане, Кіргізіі і Малдове — 3,9—4,8 працэнта, на Украіне — 3,7, у Расіі — 3,3, Таджыкістане — 2,1, Арменіі — 1,9 працэнта. Значыць, нам ёсць чым ганарыцца? Гонару было б куды больш, калі б гэтыя выдаткі ішлі на сапраўды нацыянальную, як у іншых краінах, адукацыю...

### АЎТОБУС ТЫДНЯ

Учора на МАЗе сышоў з канвеера 1000-ы аўтобус. Зусім нядаўна, здаецца, мы запыняліся, убачыўшы на вуліцы першыя сімпатычныя аўтобусы айчыннай вытворчасці, прыдзіўляючыся параўноўвалі іх са звычнымі расійскімі, украінскімі, венгерскімі машынамі. І радаваліся: аказваецца, умеем, можам, нічым не горшыя нашы за замежныя аналагі, а ў сім-тым нават і лепшыя. І вось — тысячная машына! Аднак жа разам з радасцю прыходзіць і непакой: супрацоўніцтва з нямецкім "Неапланам" будзе шчаслівейшае, чым з амерыканскім "Фордам"?..

### КАНСТАТАЦЫЯ ТЫДНЯ

Беластоцкая "Ніва" ў нумары за 11 чэрвеня апублікавала нататкі свайго карэспандэнта Я. Мі558 Міраноўіча з нашай сталіцы. Нататкі маюць загаловак: "Русский город Минск". Я. Мірановіч апошні раз быў у Мінску два гады назад. І зараз, пахадзіўшы па ім, робіць такую выснову: "Пасля двух гадоў адсутнасці заўважаецца, што працэс русіфікацыі сталіцы Беларусі ідзе маланкава". І што на гэта сказаць? Спрачацца, на жаль, не выпадае. Тым больш, што збоку, як кажуць, відней...

### РАМОНТ ТЫДНЯ

У Брэсцкай крэпасці пачата рэканструкцыя — самая маштабная і капітальная за ўвесь час пасля стварэння тут мемарыяльнага комплексу. Шэры бетон плошчы — а гэта 12 тысяч квадратных метраў — будзе заменены чырвонай пліткай высокай моцы і даўгавечнасці. Сродкі на гэта паступілі з бюджэтаў Беларусі, Расіі, Казахстана, ад урадаў Масквы і Разанскай вобласці. Крэпасць у Брэсце — святое месца, і яе руіны, апаленыя агнём і палітыя крывёю, павінны падтрымлівацца ў належным стане. Аднак жа тут руіны ні пры чым. Тут — 12 тысяч квадратных метраў чырвонай пліткі. Чамусьці сумнавата робіцца ад такіх усё яшчэ савецкіх размахаў і маштабаў...

### ЦЫТАТА ТЫДНЯ

"Я асабіста ўскладаю свае надзеі на апазіцыйнасць нашай гуманітарнай інтэлігенцыі. Ёй належыць выконваць тую ж высакародную ролю, якая выпала на яе долю ў савецкія часы...

Я думаю, што наша інтэлігенцыя, нягледзячы ні на што, прачнецца і пачне ўжо сёння адстойваць інтарэсы слабых, тых, хто мае патрэбу ў абароне ад ліберальных памкненняў новага прэзідэнта. Тым больш што мы, прадстаўнікі савецкай гуманітарнай інтэлігенцыі, нясем асноўную адказнасць і за тое, што наша дэмакратычныя рэвалюцыя дала вельмі мала простым людзям, якія гэтак шмат заплацілі за наша права гаварыць усё, што мы думаем.

Вядома, і мы — людзі, і мы стаміліся ад сваёй вечнай апазіцыйнасці да ўлады. Адчуваю гэта па сабе. Надта ж вялікая спакуса стаць побач з уладай і пазіраць спакойна і раўнадушна на ўсё, што яна робіць. Але — нельга. Ніхто не зробіць таго, што яшчэ ў стане зрабіць расійская гуманітарная інтэлігенцыя. Гэтага не зробяць ні левыя масы, ні алігархі".

***(Аляксандр Цыпко, "Ніша апазіцыі вакантная". "Литературная газета", N 24(5793), 14—30 чэрвеня 2000 г.).***

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

Непадалёк ад вёскі Бяларучы Лагойскага раёна размясціўся летнік Мінскага завода медыцынскіх прыбораў. Сярод яго выхаванцаў сёлета госця з Латвіі — пісьменніца Людміла Межыньш. Менавіта яна стала ініцыятарам запрашэння да дзяцей пісьменнікаў. І вось гасцямі школьнікаў сталі Навум Гальпяровіч, Міхась Зарэмба, Эдуард Акулін.

Госці распавялі пра дзейнасць творчага саюза, чыталі вершы, падаравалі кнігі выдавецтва "Юнацтва", а Эдуард Акулін паказаў лялечны тэатр "Батлейка", дзе ён рэжысёр, пастаноўшчык і выканаўца.

**Н. К.**

●

На святкаванне 201-й гадавіны з дня нараджэння А. Пушкіна ля помніка паэту, што ўстаноўлены ў адным з самых прыгожых куткоў нашага горада, побач з праспектам Машэрава, сабраліся прадстаўнікі грамадскасці, сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў, супрацоўнікі выдавецтваў. Перад прысутнымі выступілі старшыня рускага таварыства Міхаіл Ткачоў, старшыня культурна-асветніцкага цэнтра Міхаіл Пячонка, паэт Яўген Хвалей, празаік Анатоль Сульянаў. Выступоўцы падкрэслілі ролю вялікага сына Расіі — грамадзяніна і патрыёта — у справе агульнаславянскай еднасці, духоўнага адраджэння народаў, лучнасці памкненняў і лёсаў. У кожнага свой Пушкін, сваё ўяўленне і ўспрыманне паэта. У дзяцінстве ён прыходзіць да нас ласкавымі радкамі: "У лукоморья дуб зеленый...", у юнацтве захапляе дзёрзкае і задзірыстае: "Мой дядя, самых честных правил...", у сталым узросце іншы раз па-філасофску-разважліва ўздыхаем: "Привычка свыше нам дана...", але яго праменістыя словы заўсёды застаюцца з намі, кранаюць і хвалююць у любых абставінах. На Беларусі шмат робіцца для ўшанавання памяці паэта, але багата яшчэ трэба зрабіць, шырэй прыцягваць моладзь — вучняў, студэнтаў, навучэнцаў — да гэтай вынакароднай справы. Як адзначылі Яўген Хвалей і Анатоль Сульянаў, празрыстыя крыніцы пушкінскай паэзіі робяць нашых сучаснікаў мудрэйшымі і шчаслівейшымі, адухоўленымі і натхнёнымі. Прысутныя ўсклалі кветкі да помніка, а Міхаіл Ткачоў і Міхаіл Пячонка паклалі зямлю, што прывезлі з Міхайлаўскага.

Увечары свята працягвалася ў Нацыянальнай бібліятэцы, дзе адбылася размова пра значэнне асобы і творчасці паэта для сусветнай культуры, прагучалі рамансы на вершы А. Пушкіна.

**М. Р.**



СВЯТЫ

# Кірмашовае Іўе ў Траецкім

***Пад дэвізам "Іўеўскі карагод" у Мінску ў Траецкім прадмесці адбыўся кірмаш майстроў народнай творчасці Іўеўскага раёна. На ўзбярэжжы Свіслачы раскінуўся горад майстроў "Фарбы роднай зямлі".***



*Салістка ансамбля "Чырвоная каліна" Таццяна Сакалоўская.*

Хаты-майстэрні "Саламяны цуд", "Гліняныя пасвісцёлы", "Узоры пляцення лазы", "Мелодыі дрэва" гасцінна запрашалі людзей завітаць, паглядзець, падзівіцца і набыць мастацкія вырабы майстроў Прынёманскага краю. Ахвотна дзяліліся сваімі сакрэтамі Таццяна Рынгель, Ніна Семяняка, Зося Старасціна (вырабы з саломкі), Марына Панюзка, Марыя Зінкевіч, Валянціна Завацкая, Рэгіна Рэкець (вышыўка, карункапляценне, ткацтва), майстры іншых відаў народнага мастацтва.

Нядаўні выпускнік Мсціслаўскага мастацкага вучылішча Аляксандр Смірноў з в. Бакшты прыемна ўразіў як жывапісец і разьбяр. Высветлілася, што ён распісвае мясцовую царкву і ўсё гэта робіць не за грошы, а для ўласнага задавальнення. Выстаўка "Адвечная песня ручніка" выклікала роздум. А "Свет дзіцячых захапленняў" гаварыў пра пераемнасць традыцый народнага ўмельства, а ўдзельнікі літаб'яднання лашчылі слых роснымі словамі.



*У сонечнай вёсцы Траецкага прадмесця масквічу Алёшу Ролю прымярае іўеўскі капялюш мінскі настаўнік Іван Адамовіч.*

Смакату беларускай кухні ветліва запрашаў адведаць "Іўеўскі шынок". На кірмашы можна было паласаваць прысмакі татарскай кухні. У гаспадарскім кутку "Дары Прынямоння" красавалася выстаўка-продаж дароў прыроды і вырабаў раённай прамысловасці.

Усё гэта на высокім мастацкім узроўні ўпрыгожвалася мастацкай самадзейнасцю раёна, кірмашовымі гульнямі, забавамі, тэатралізаваным прадстаўленнем у выкананні мясцовых артыстаў-аматараў.

**Яўген АДАМОВІЧ**
*Фота Ул. КРУКА*



КОНКУРСЫ

# "Скарына ў маім уяўленні"

22 мая, на першай сесіі III Міжнароднага кангрэса беларусістаў, у часе пленарнага паседжання, было ўручана дванаццаць ганаровых прызоў пераможцам конкурсу вучнёўскіх і студэнцкіх твораў на тэму "Скарына ў маім уяўленні". Конкурс праводзіўся Нацыянальным навукова-асветным цэнтрам імя Ф. Скарыны. Прызы для пераможцаў набыў амерыканскі асветнік Дональд Кодар.

Кампетэнтнае журы вылучыла дванаццаць лепшых прац (сем з іх — літаратурныя, а пяць — выяўленча-мастацкія). Пры ацэнцы творчых работ удзельнікаў конкурсу ў першую чаргу ўлічваліся: выразная мастацкая мова твора, яркасць і вобразнасць тэксту ці жывапіснай кампазіцыі, творчая індывідуальнасць аўтара.

Як паказалі вынікі конкурсу, маладыя таленты рэспублікі інтэрпрэтавалі конкурсную тэму шчыра, з пяшчотаю. Так, Каваленка Яніна, вучаніца Баравухскай школы-гімназіі N 15, метафарычна параўнала "рознакаляровыя літары", якія прыдумаў Ф. Скарына, з "мілагучнай лістотаю восеньскіх дрэваў", каб скласці з гэтых "лісцейкаў-літараў" сваё конкурснае сачыненне — "Славуты сын Полацкай зямлі".

Як наватарскую, хочацца адзначыць графічную кампазіцыю ("Вялікі Суайчыннік") Арсеня Данэліі, навучэнца Мінскай мастацкай школы пры БелАМ. Па-першае, гэта сінтэтычна-колеравая графіка і па-другое, вобраз Ф. Скарыны інтэрпрэтуецца індывідуальна — як вобраз эпічна-трагедыйны.

Уразіла Гвоздзева Даша, вучаніца пятага класа Азерскай школы, якая праілюстравала вядомы тэкст Ф. Скарыны "Понеже от прирожения" вясёлымі вобразна-колеравымі формамі: перламутравымі рыбкамі, жаўцюткімі тыгрыкамі ды інш.

Увогуле, літаратурныя і выяўленча-жывапісныя творы конкурсантаў можна ўпадобіць таму "маляванаму храму", пра які сказала Паўлава Алеся, вучаніца дзесятага класа з Полацка, у вершы "Сафійскаму сабору прысвячаецца":

*Я малявала Храмаднойчы,*
*каб жыў заўжды*
*ў бліскучай раме,*
*каб захапляў людскія вочы*
*крыжом, званамі, купаламі...*

Сапраўды, конкурс творцаў існаваў у вымярэнні таго духоўнага храма, што стварылі яны самі. Дык далучымся да гэтага свята талентаў, запалім свечку Скарынавага слова ў сваіх душах і павіншуем пераможцаў: Ярашэвіч Кацю за верш "Спатканне"; Паўлаву Алесю, Глебку Паўла, Смалякова Кірыла за фотапаэтычную кампазіцыю "І мудрасці яго адбітак"; Макуцэню Наталлю за лепшае апавяданне "Беларуская Біблія"; Каваленку Яніну за лепшае эсэ "Славуты сын Полацкай зямлі"; Алену Рыбік за лепшае літаратурнае эсэ "Натхненне імем Маргарыта"; Гілевіч Вольгу за лепшы літаратурна-крытычны твор "Шэсць стагоддзяў"; Шыдлоўскую Наталлю за лепшы літаратурна-крытычны твор "Палачанін Францыск Скарына"; Волкава Антона, Белавусаву Вікторыю, Шураўку Вікторыю, Саковіч Насцю за серыю жывапісных малюнкаў (Мастацкая дзіцячая школа г. Крычава); Данэлію Арсеня за твор "Вялікі суайчыннік" у серыі графічных малюнкаў; Гвоздзеву Дашу за лепшую ілюстрацыю да паэтычных слоў Ф. Скарыны "Понеже от прирожения"; Бярнадскую Наталлю за метафарычную выцінанку; Мазіеву Ангеліну, Купрыянаву Веру, Садоўскага Ілью, Нікіценка Алену, Казлова Вячаслава за калекцыю жывапісных малюнкаў (Бабруйская студыя "Вясёлка").

**Алена ІГНАЦЮК**

ВІНШУЕМ!

# Пяць гадоў — гэта сур'ёзна...

Споўнілася 5 гадоў з дня выхаду ў свет першага нумара інфармацыйна-аналітычнага штотыднёвіка — газеты "Книжный мир".

Яе заснавалі Мінскае гарадское прадпрыемства "Белсаюздрук", Асацыяцыя кнігавыдаўцоў і кнігараспаўсюджвальнікаў і Таварыства "Завігар". З'яўленне газеты стала знакавай падзеяй для работнікаў кніжнага гандлю і "Белсаюздруку", бібліятэкараў, словам, усіх, хто любіць кнігу, працуе з кнігай. Яна карысная і патрэбная ўсім катэгорыям чытачоў ад першакласніка і студэнта да акадэміка. У пэўным сэнсе сярод мноства перыядычных выданняў "Книжный мир" — унікальная газета. Па-першае, гэта адзінае выданне, якое змяшчае на сваіх старонках інфармацыю пра кніжныя навінкі — "Сігнальны экземпляр". Акрамя таго, у ёй друкуецца праграма тэлеперадач 8 каналаў, тэатральная афіша, мноства другой цікавай і карыснай інфармацыі пра кнігу і кніжнікаў. З ёй актыўна супрацоўнічаюць пісьменнікі.


КНИЖНЫЙ МИР

ДЗЯКУЙ

«КНИЖНОМУ МИРУ» — 5 ЛЕТ

ЯШЧЭ АДЗІН — «Кніжны свет»

Рэдакцыя штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва" шчыра віншуе сваіх калег са святам. Плёну вам, сябры!

ВАНДРОЎКІ

# "Толькі б не было дажджу..."

Дождж можа нашкодзіць не толькі на жніве, але і... у мастацтве. Такую выснову няцяжка было зрабіць, пагутарыўшы з маэстра Францэска Прывітэрам падчас яго сёлетняга візіту ў Мінск — з нагоды падрыхтоўкі Нацыянальнага акадэмічнага тэатра оперы да фестывальнага турнэ.

Гэты вядомы оперны рэжысёр, энергічны няўрымслівы сіцыліец, які ажыццяўляе свае творчыя праекты на розных кантынентах, мастацкі кіраўнік Міжнароднага цэнтра кангрэсаў у Берліне і арганізатар оперных імпрэзаў у ФРГ, быў задаволены і ўзрадаваны поспехам беларускіх артыстаў на леташнім фестывалі. Таму сёлета даверыў нашаму тэатру асноўны "рэпертуарны груз" ужо двух фэстаў. Яго прыемна ўразілі высокая працаздольнасць і дысцыплінаванасць хору, аркестра, творчая форма салістаў, а таксама дзелавыя вартасці мастацкага кіраўніка Нацыянальнага тэатра оперы Беларусі — Сяргея Картэса. Будзем спадзявацца, што Ф. Прывітэра, ганараваны на сваёй радзіме за вялікія заслугі ў галіне распаўсюджвання італьянскай культуры ў замежжы ордэнам "Cavaliere Ufficiale", а ў ФРГ — урадавым "Крыжам за заслугі", не расчаруецца ў сваіх новых творчых партнёрах і сёлета. Як вядома, іх візіт у Германію ўжо ў разгары.

Пра тое, **што** падрыхтаваў да гастрольнага лета наш тэатр, чытач ведае з мінулых публікацый "ЛіМа". Цяпер — колькі арганізацыйных дэталяў, пра якія паведаміў сп. Прывітэра.

Адкуль з'явіўся ў праекце другі фестываль? Буйны германскі выдавец Георг Вайс, штодзённы наклад разнастайных газет якога дасягае 8 млн. асобнікаў, вырашыў наладзіць оперны фестываль у старадаўнім, сярэднявечным горадзе Маншау. Чаму? Таму, што там размешчана галаўное прадпрыемства выдавецкага канцэрна сп. Вайса, і, робячы высакародны мецэнацкі жэст, ён ушаноўвае сваё імя, нібы закладвае ўласны помнік. У якасці кіраўніка гэтага мастацкага праекта ён запрасіў Ф. Прывітэру. А той, як да галоўнага чынніка, звярнуўся да беларускага опернага тэатра (зразумела, у праекце ўдзельнічаюць і салісты з сусветнымі імёнамі — прадстаўнікі розных краін).

Сп. Вайс шмат зрабіў для рэкламы новага фестывалю ў Маншау, у выніку большая частка білетаў была прададзена ўжо да пачатку вясны. Дамова наконт удзелу нашага тэатра ў гэтым фестывалі падпісана да 2006 (!) года, і калі ўсё пройдзе паспяхова, яна можа быць прадоўжана да 2011 г.

Але галоўны фестываль, з якога і пачался вандроўка беларускіх артыстаў, — у Кірнбургу. Само свята пачынаецца ў маі, уключае паказ разнастайных канцэртных праграм, драматычных спектакляў. Для оперы вылучаны свой час, робіцца адмысловая рэклама... А гасцям з Мінска, дарэчы, ствараюцца асаблівыя, спрыяльныя ўмовы.

Так, паміж Беларуссю і Германіяй заключана пагадненне аб культурным супрацоўніцтве. Наладзілася сапраўднае паразуменне пасольстваў абедзвюх дзяржаў. І дзякуючы ўсебаковай дапамозе, віза для нашых артыстаў аказалася бясплатнай — гэта, пры нашым фінансавым становішчы, істотна. А галоўнае — наш тэатр вызвалены ад падаткаў у Германіі, бо інакш ён проста не змог бы прыехаць на фестываль.

Чаму? А вось мяркуйце.

Германія клапоціцца пра сваіх грамадзян, дбае пра іх дабрабыт — у тым ліку і пра дабрабыт людзей мастацтва. Абодва фестывалі, куды запрошаны артысты з Беларусі, унесены ў банк інфармацыі Сусветнай турыстычнай біржы ў Берліне. Спецыяльныя агенты оптам скупляюць білеты і займаюцца іх распаўсюджваннем. Дзякуючы ранняй рэкламе, ужо да Каляды прадаецца 40 працэнтаў білетаў на летнія фестывалі. Кошт — ад 50 да 150 марак. Дорага? Але ж кошту білетаў адпавядаюць высокія выдаткі, звязаныя з арганізацыяй і правядзеннем фэстаў. Прытым, нямала ад іх забірае ў свой даход і дзяржава — **дзеля сваіх грамадзян.**

Ці чулі вы пра падатак на іншаземца? У ФРГ ён высокі. Для замежнага саліста тут амаль няма



магчымасці зарабіць. Дзяржава абараняе ад іншаземцаў сваіх дзеячаў мастацтва! Артыст, які не мае сталага месца жыхарства ў Германіі, мусіць плаціць падатак — 41 працэнт ад ганарару. З гэтай прычыны сам Лучана Паваroцці доўгі час не мог прыехаць сюды: толькі заплаціўшы падатак у 3 млн. марак атрымаў магчымасць выступіць у ФРГ.

Што да нас... Беларускі оперны "адпрацоўвае" фестывалі фактычна за сутачныя, якія не абкладаюцца падаткам. Аплата яго праезду і знаходжанне на гастролях можа дасягнуць 1 млн. марак і не кампенсавацца для гаспадароў свята даходам ад продажу білетаў. Сп. Прывітэра заўважыў: калі ўсё пройдзе, як запланавана, прыбытак ад беларуска-германскага праекта складзе "плюс-мінус нуль", але мастацкі вынік зробіць яскравае ўражанне і забяспечыць добры розгалас. А вось калі будзе залева — чакай велізарных страт.

Вядома, фестывальныя спектаклі разгортваюцца пад адкрытым небам, у атачэнні маляўнічага горнага ландшафту і старажытных замкавых пабудоў. Летась пашанцавала: дажджы здараліся толькі падчас рэпетыцый. Але надвор'е — істота капрызлівая. Напэўна, і зараз паўтараюць чыннікі опернага свята, як замову: "Толькі б не было дажджу!"

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*На здымку: Францэска ПРЫВІТЭРА*

## Усе гімны да Купалавага падножжа

28 чэрвеня 1942 года не стала Янкі Купалы. Трагічна абарвалася жыццё народнага паэта. Але памяць народная і сёння свята захоўвае ўсё да драбніц пра свайго Песняра.

Саюз беларускіх пісьменнікаў і Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы запрашаюць усіх жадаючых у гэты дзень, 28 чэрвеня, далучыцца да акцыі ўшанавання памяці Янкі Купалы.

У гэты дзень у 9 гадзін у Чырвоным касцёле святых Сымона і Алены адбудзецца Імша, а ў 12 гадзін запрашаем ушанаваць памяць Янкі Купалы каля надмагільнага помніка на Вайсковых могілках (вул. Казлова).

**Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы**
**Саюз беларускіх пісьменнікаў**

## "Беларускі гістарычны раман"

Так называецца новая кніжная серыя, якую распрацавала і рыхтуе да выдання выдавецтва Беларускага літаратурнага фонда "Беллітфонд". Серыю складуць раманы беларускіх пісьменнікаў на гістарычную тэму. У іх праз мастацкія вобразы раскрываецца ўся тысячагадовая гісторыя Беларусі.

Адрасавана серыя ў першую чаргу моладзі, а таксама ўсім, хто хоча ведаць далёкую і блізкую мінуўшчыну Бацькаўшчыны, слаўныя дзеі нашых продкаў.

Першыя кнігі серыі ў прыгожым афармленні лепшымі мастакамі чытач атрымае ўжо ў гэтым годзе. Адкрые гэтую унікальную кніжную серыю раман Уладзіміра Караткевіча "Хрыстос прызямліўся ў Гародні".

Запрашаем усіх зацікаўленых да супрацоўніцтва!

**Кастусь ЦВІРКА, галоўны рэдактар выдавецтва "Беллітфонд"**

АБСЯГІ

### ГОМЕЛЬШЧЫНА...

## "Беларуская полька"

У Чачэрску прайшоў чацвёрты рэспубліканскі фестываль "Беларуская полька". У ім прымалі ўдзел дзіцячыя і маладзёжныя калектывы народнага танца, фальклорныя гурты, асобныя выканаўцы, інструментальныя і сямейныя ансамблі.

Праводзіўся конкурс танцораў-салістаў, выканаўцаў народнай музыкі. Журы конкурсу ўзначальвала прафесар кафедры харэаграфіі Расійскай дзяржаўнай акадэміі славянскай культуры Эмілія Шумілава. Фестываль, у якім таксама бралі ўдзел танцавальныя гурты з Расіі і Украіны, закончыўся святам у вёсцы Залессе.

## Чарговыя гастролі

У чарговы раз у Гомель завітаў Гродзенскі абласны драмтэатр. У час гастроляў былі паказаны лепшыя спектаклі: "Паўдурак Журдэн" М. Булгакава, "Рамантыкі" Э. Растэна, "Па зялёных узгорках акіяна" С. Казлова.

## Помнікі знакамітасцям

Летась у Гомелі быў адкрыты помнік кампазітару Чайкоўскаму. А гэтымі днямі ў абласным цэнтры ўстаноўлены бронзавы бюст Пушкіна. Аўтар — беларускі скульптар Генадзь Гарбанёў. Зараз аб'яўлены конкурс на помнік выдатнаму беларускаму асветніку Кірылу Тураўскаму, які таксама будзе ўстаноўлены ў Гомелі.

## "Вясёлка надзеі"

У абласным цэнтры адкрыўся другі рэспубліканскі пленэр юных мастакоў "Вясёлка надзеі". Яго арганізатарам стала грамадскае аб'яднанне "Беларуская асацыяцыя клубаў ЮНЕСКА".

Дзеці малявалі, пабывалі ў майстэрнях вядомых мастакоў, наведалі філіял Веткаўскага музея народнай творчасці. Частку сваіх работ юныя мастакі падаравалі абласному дзіцячаму санаторыю "Жывіца".

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

### МАГІЛЁЎШЧЫНА...

## Крок у наступнае стагоддзе

У выставачнай зале абласнога аддзялення Саюза мастакоў прайшла персанальная выстава "Крок у XXI стагоддзе" графічных работ Ірыны Рапей. На выставе, арганізаванай пры падтрымцы асацыяцыі "Кола сяброў", прадстаўлены як новыя работы, створаныя сёлета, так і леташнія. Графіка Ірыны Рапей трактуецца адвольна. Аўтарка дае магчымасць гледачам убачыць у сваіх малюнках нешта сваё, асабістае.

## Каляндар на "Экспа-2000"

У германскім горадзе Гановер праходзіць сусветная выстава "Экспа-2000" пад дэвізам "Чалавек — прырода — тэхніка: узнікненне новага свету". Прадстаўлена на выставе каля 200 краін. Сярод друкаванай прадукцыі ў экспазіцыі прадстаўлены і дзіцячы каляндар. Адной з ілюстрацый яго з'яўляецца малюнак юнай бабруйчанкі Ані Пількевіч са студыі "Вясёлка". Яе малюнак быў выбраны з 10 тысяч работ, дасланых з 47 краін свету.

## Асвечана капліца

Пад Магілёвам архіепіскап Магілёўскі і Мсціслаўскі Максім асвяціў новую капліцу побач са славутай Палыкавіцкай крыніцай. Нанова адбудаваная капліца атрымала сваю даўнюю назву: імя пакутніцы Параскевы. Будынак узведзены на грошы нямецкіх фундатараў і беларускіх вернікаў. Дарэчы, абразы іканастаса выраблены магілёўскімі майстрамі.

**Алесь ПЯТРОВІЧ**

### ВІЦЕБШЧЫНА...

## Дзень літаратуры

У межах пятага міжнароднага фестывалю народнай музыкі "Звіняць цымбалы і гармонік" у Паставах прайшоў Дзень літаратуры, у якім прынялі ўдзел Франц Сіўко, Алесь Жыгуноў, Аркадзь Нафрановіч, Ігар Пракаповіч, Янусь Малец. Пастаўскай дзіцячай бібліятэцы нададзена імя знакамітага земляка Уладзіміра Дубоўкі, стагоддзе з дня нараджэння якога зараз адзначаецца.

Пісьменнікі ўспаміналі славутага паэта, які нарадзіўся ў вёсцы Агароднікі. Адбылася і прэзентацыя альманаха "Дзвіна. Віцебшчына літаратурная", які толькі што пабачыў свет.

## "Святая Еўфрасіння"

У цэнтральнай бібліятэчнай сістэме Віцебска прайшла прэзентацыя кнігі Алеся Марціновіча "Святая Еўфрасіння". Мерапрыемствы рыхтавалі супрацоўнікі бібліятэкі N 20, якія імкнуцца, каб іх установе было нададзена імя знакамітай асветніцы.

## "Дняпроўскія галасы"

У Дуброўне прайшло свята народнай музыкі "Дняпроўскія галасы", якое мясцовыя ўлады ладзяць ужо сёмы год запар. Пастаянны ўдзельнік фестывалю — Дзяржаўны хор імя Цітовіча. Ва ўрачыстым шэсці па вуліцах горада ўдзельнічалі мастацкія калектывы з Віцебскай, Гомельскай, Магілёўскай, Чарнігаўскай і Смаленскай абласцей.

**Святлана ГУК**

### МІНШЧЫНА...

## Першыя дыпломы нямецкай мовы

5 чэрвеня рэферэнт па пытаннях культуры амбасады ФРГ у Беларусі Штэфан Дэльфс уручыў дыпломы нямецкай мовы 34-ём выпускнікам Мінскага лінгвістычнага каледжа N 24 і школы N 73. Дыпломы зацверджаны камітэтам Канферэнцыі міністраў адукацыі і культуры земляў ФРГ. Экзамен, які вытрымалі вучні, ацэнены па нямецкіх стандартах. Дыплом пацвярджае веданне нямецкай мовы, прызнаецца ва ўсім свеце і дазваляе вучыцца ў нямецкіх ВНУ. Такія экзамены праводзяцца на працягу 25 гадоў у 43 краінах свету. У вышэйназваных мінскіх школах ён адбыўся ўпершыню.

**НАШ КАР.**

## Габелен, кераміка, іканапіс...

12 чэрвеня ў выставачнай зале абласнога цэнтра народнай творчасці адкрылася чарговая выстава. На працягу трох тыдняў жадаючыя могуць азнаёміцца з работамі народнай студыі выяўленчага мастацтва Барысаўскага гарадскога Палаца культуры. Кіруе студыяй Людміла Макеева. Сярод экспанатаў — габелены, жывапіс, кераміка, выцінанкі, іканапісныя работы. Народнай студыі сёлета спаўняецца 20 гадоў. Займаецца ў ёй каля 70 чалавек.

**Галіна НОВІКАВА**



ЧАСАПІС

## Вершы знішчыць нельга



**Кожная творчая вечарына паэтаў мае сваё непаўторнае аблічча, гэтак жа, як і іх паэзія. Але рэдка калі ўдаецца стварыць такую цёплую атмасферу ў зале, такое ўзаемаразуменне выступоўца і слухача, асаблівы, лірычна-ўзнёслы настрой, як было 7 чэрвеня ў дольнай зале Чырвонага касцёла, дзе месціцца сцэнічная пляцоўка беларускага паэтычнага тэатра аднаго акцёра "Зьніч". У гэты вечар там адбылася сустрэча з паэтам-бардам Эдуардам Акуліным пад назвай "Анёл з адным крылом". На ўвазе меласа "гітарнае крыло", дзякуючы якому песні Эдуарда лунаюць над Беларуссю. Вечарына была задумана яшчэ і як прэзентацыя новай кнігі вершаў паэта "Радно" і новага магнітаальбома "Як яна і я..."**

**Паэтычны зборнік Эдуарда Акуліна быў аддрукаваны на сродкі спонсараў у прыватнай друкарні. Аўтар атрымаў першыя дзесяць экземпляраў накладу. Але калі прыехаў па астатнія кнігі, яму паведамілі, што яны пушчаны пад нож — некага надта напалохалі вершы зборніка, напоўненыя пачуццём любові да Радзімы і болем за яе лёс. Але, як сцвярджалі многія выступоўцы, такі факт — прыкраса біяграфіі паэта. Не кажучы пра тое, што зборнік "Радно" адразу зрабіўся бібліяграфічнай рэдкасцю. Адзін з дзесяці ацалелых экземпляраў быў падчас вечарыны пушчаны "з малатка" на імправізаваным аўкцыёне, які бліскуча, з гумарам правёў вядучы вечарыны паэт Міхась Скобла. Міхась, дарэчы, адгукнуўся на падзею вершам "Рэквіем па сябравай кнізе". На вечарыне гучала шмат вершаў са зборніка "Радно", і ў выкананні аўтара, і ў выкананні мастацкага кіраўніка тэатра "Зьніч" актрысы Галіны Дзягілевай.**

**Зачаравалі залу песні з новага магнітаальбома паэта-барда, а таксама добра вядомыя, любімыя слухачамі песні. Мімаволі думаецца і пра тое, што пры адпаведнай "раскрутцы" гэтыя песні былі б годнай заменай тым бессэнсоўным аднадзёнкам, якімі нас "радуе" айчынная эстрада.**

**На вечарыне выступіў народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч. Менавіта верш, прысвечаны яму, быў адным з "крамольных" твораў знішчанага зборніка. У вечарыне бралі ўдзел паэты Сяргей Законнікаў, Мікола Мятліцкі, Антаніна Хатэнка, Алесь Пашкевіч, барды Алесь Камоцкі і Алесь Герасіменка.**

**Н. К.**

## Максімава свята

**Штогадовае паэтычнае свята, прысвечанае Максіму Багдановічу, адбылося ў вёсцы Ракуцёўшчына, што недалёка ад мястэчка Краснае. У невялічкай сядзібе сярод маляўнічых узгоркаў Маладзечаншчыны, дзе ў 1911 годзе паэт правёў колькі месяцаў па запрашэнні братоў І. і А. Луцкевічаў, былі напісаны вершы і паэмы, якія зрабіліся неацэнным скарбам нашай літаратуры. У аднаўленым фальварку — цяпер гэта літаратурны музей, экспазіцыя якога ўпершыню разгарнулася 17 гадоў таму, а сёння няўхільна папаўняецца і пашыраецца намаганнямі супрацоўнікаў музея і аматараў паэзіі — можна ўбачыць перыядычныя выданні і дакументы пачатку XX стагоддзя, шматлікія прадметы хатняга ўжытку і сялянскага побыту таго часу, разнастайныя прылады вясковай гаспадаркі.**

**Урачыстае вiдовішча разгортвалася на ўскрайку лесу, ля празрыстай крыніцы гучалі вершы Багдановіча, паэтычныя творы, прысвечныя выдатнаму сыну Беларусі. Перад прысутнымі выступілі супрацоўніца музея Л. Бязмен, намеснік старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў Н. Гальпяровіч, галоўны рэдактар часопіса "Наша слова" М. Шавыркін, намеснік старшыні Беларускага фонду культуры Л. Касяк, дырэктар рэспубліканскага музея Максіма Багдановіча М. Трус, намеснік галоўнага рэдактара часопіса "Вожык" М. Пазнякоў, што 19 гадоў таму браў удзел у стварэнні ракуцёўскага музея, паэты Л. Рублеўская, А. Хатэнка, В. Шніп, М. Скобла, Н. Дзябольская з Масквы, дзядзька якой Тэадор Дзябольскі доўгі час вёў дзённік, пакінуў цікавыя ўспаміны пра славутага паэта. Максім Багдановіч — вялікая неразгаданая наша таямніца, зорка і душа роднага краю, падкрэсліў прамоўца. Жыццядайнае Максімава слова асвятляла шлях беларусаў у будучыню, абуджала сілы і свядомасць народа.**

**Гасцей і ўдзельнікаў свята віталі таксама вядомыя барды Э. Акулін і А. Галіч, самадзейныя артысты Красненскага Дома культуры, спявачка і даследчыца сучаснага фальклору Н. Матыліцкая, ансамбль "Святліца", фальклорны гурт вёскі Мазалі.**

**Марыя РУДОВІЧ**

ПАДЗЕІ

# Вяртанне да прашчураў

Нядаўна ў Нясвіжы адбылася неардынарная для Беларусі падзея: упершыню пасля таго, як у Заходняй Беларусі ў 1939 годзе ўсталявалася савецкая ўлада, у Нясвіжы сабраліся нашчадкі аднаго з наймагутных магнацкіх родаў Еўропы, князёў Радзівілаў. Сабраліся не проста так, а з нагоды пахавання ў сямейнай усыпальніцы праху князя Антонія, які памёр летась у Лондане яшчэ ў нестарым узросце ад невылечнай хваробы — раку. Няхай сабе і пасля смерці, але адзін з Радзівілаў ужо ў наш час назаўсёды "прапісаўся" там, дзе пачынаўся і канчаўся шлях Радзівілаў, слава пра якіх ішла калісь па свеце.

Зразумела, што пахаванне такой асобы і ў такім месцы — справа няпростая. Залагоджванню ўсіх фармальна-пратакольных момантаў актыўна спрыяў колішні амбасадар Беларусі ў Вялікабрытаніі Уладзімір Шчасны, дыпламатычны тэрмін службы якога ў гэтай краіне нядаўна скончыўся і ён ужо заступіў на адказную працу ў Мінску ў Міністэрстве замежных спраў. І хоць абсяг ягонай цяперашняй дзейнасці не звязаны з Англіяй, аднак (што зразумела) менавіта ён і быў адказнай ад улады асобай падчас правядзення гэтай урачыста-жалобнай цырымоніі.

Сваяцтва Радзівілаў прыляцела на сваім самалёце на лётнішча "Мінск-2" і адразу ж, перасеўшы ў легкавыя машыны, рушыла ў сваю колішнюю некаранаваную сталіцу. Прысутнымі на жалобе былі: удава Радзівіла Антонія Ружана, а таксама два яе сыны з нявесткамі. З іншых найперш варта назваць блізкага сваяка, графа Цеханавецкага, вядомага яшчэ і як навукоўца, адна з кніг якога па-беларуску некалькі гадоў таму была выдадзена ў Мінску. У першы ж дзень спадарыня Радзівіл перадала ў дарунак Беларусі сямейную рэліквію — унікальную карту нашай краіны, зробленую напрыканцы XVI стагоддзя паводле волі князя Радзівіла Сіроткі.

Нельга сказаць, што апошнім часам не назіраецца абуджэння ўвагі творцаў і навукоўцаў да роду Радзівілаў. З апошніх цікавых фактаў назаву п'есу Аляксея Дударава "Чорная панна Нясвіжа". А некалькімі гадамі раней з'явілася драматычная паэма Раісы Баравіковай "Барбара Радзівіл", якая дасюль з нязменным поспехам ідзе ў тэатры "Вольная сцэна".

Аднак гэта, мяркую, толькі пачатак, бо гісторыя роду Радзівілаў — гэта і гісторыя Беларусі адначасова, увасобленая ў надзвычай каларытных і адметных характарах. А таму і пра ўжо згаданага Радзівіла Сіротку, і пра Радзівіла Чорнага, і пра Радзівіла Рыбаньку, і пра княгіню Магдалену Радзівіл, якая на пачатку нашага стагоддзя фундавала беларускі нацыянальны рух, у прыватнасці давала грошы на выданне "Нашай Нівы" — можна майстрам пяра пісаць цікавыя, нават займальныя творы, бо жыццё гэтых людзей было напоўнена вялікім гістарычным сэнсам, драмамі, трагедыямі, а часамі і авантурамі. Сваё слова, спадзяюся, яшчэ скажуць і гісторыкі-навукоўцы.

Калі ж казаць пра Радзівілаў у днях сённяшніх, то мы амаль нічога не ведаем — колькі іх, дзе яны жывуць і кім працуюць...

Згаданыя моманты і паспрыялі таму, што 8 чэрвеня ў Нясвіжы сабралася вельмі шмат і навакольнага і прыезджага люду — прасторнае памяшканне Фарнага касцёла, дзе адбылося адпяванне, было запоўнена.

Служба, за выключэннем некалькіх слоў па-беларуску, вялася на лацінскай і польскай мовах. Той, хто бываў у Нясвіжскім касцёле пару гадоў назад, дзе правіў ксёндз Генрык Акалатовіч, ведае, што беларускасць там была ў вялікай пашане. Але на месца яго прыслалі ксяндза з Латвіі, які беларускай мовай зусім не паслугоўваецца. А жаль. Бо Нясвіж і ягоны Фарны касцёл — гэта асноўныя кропкі духоўнай і турыстычнай Беларусі, адна з нашых візітна-рэпрэзэнтатыўных картак. І хіба ж мы не зацікаўлены ў тым, каб тыя ж Радзівілы зразумелі і адчулі, на зямлі якога народа іх продкі здабылі сваю неўміручую славу?!.

Каля трох гадзін доўжылася жалобная імша, пасля якой прах Антонія быў перанесены ў крыпту Радзівілаў пад касцельнымі скляпеннямі.

Урачыстасць завяршылася канцэртам-рэквіемам славутага ансамбля салістаў "Класік-Авангард" пад кіраўніцтвам Уладзіміра Байдава. Гучала высокая ўрачыста-жалобная класічная музыка, у тым ліку і створаная некалькімі стагоддзямі назад продкамі спачыўшага Антонія.

Ягоныя прах і душа вярнуліся на спрадвечную Бацькаўшчыну, да сваіх славутых прашчураў. Хочацца спадзявацца, што Радзівілы будуць прыязджаць сюды не толькі ў часы жалобнай нагоды, што думка пра Беларусь, пра іх родавае гняздо Нясвіж пакліча іх на добрыя справы ў імя зямлі, якая нараджала, узгадоўвала і вяла да вячыстай славы гэты знакаміты род.

**Яўген ЛЕЦКА**

ДУША

# Вазьму твой боль, Чарнобыль



*Ойча наш Нябесны!*
*Свяціся імя Твае,*
*Станься Воля Твая,*
*Прыдзі Валадарства Твае...*

Прыгожа гучыць малітва ў выкананні сусветна вядомага спевака, былога саліста Беларускай дзяржаўнай оперы Вячаслава Полазава на сустрэчы прадстаўнікоў амбасады РБ у ЗША і сяброў амерыканскага камітэта "Дзеці Чарнобыля". Музыку да гэтай малітвы напісаў у 1935 годзе амерыканскі кампазітар Альберт Малотэ ў даволі высокай цісітуры — мала хто са спевакоў яе "пацягне". Але ж Слава Полазаў выканаў яе бліскуча. Слёзы на вачах у слухачоў, доўгія апладысменты знакамітаму салісту, які добраахвотна пагадзіўся прыняць удзел у справе дапамогі беларускім дзеткам з чарнобыльскай зоны.

Сустрэча гэта адбылася ў Царкве Хрыста, што ў Александрыі.

Старадаўні горад Александрыя — за некалькі міль ад Вашынгтона. Кажуць, калі сталіцы яшчэ не было, Александрыя ўжо існавала. Прыгожая, нешматпавярховая, рознакаляровая, зялёная-зялёная, чыстая, уся ў кветках. А ў самым яе сэрцы — Царква Хрыста, якой сталася... 225 гадоў!

Тут маліліся і спавядаліся першы Прэзідэнт ЗША Джордж Вашынгтон і галоўнакамандуючы войскамі канфедэратаў у Грамадзянскую вайну генерал Роберт Лі. Кожны нававыбраны Прэзідэнт ЗША лічыць за гонар прыйсці і пакланіцца старажытнай Царкве. Ейныя сцены бачылі і чулі шмат чаго. І з пакалення ў пакаленне перадае яна свае традыцыі, сваю павагу да Бога...

Жывуць у Александрыі пераважна тыя людзі, якія працуюць у Вашынгтоне і някепска зарабляюць. Што асабліва прыемна, менавіта яны, гэтыя людзі, прыхаджане Царквы Хрыста, узялі на сябе клопат аб аздараўленні беларускіх дзетак — ахвяраў Чарнобыля.

І вось — сустрэча. На ёй прысутнічае пасол Беларусі ў ЗША Валеры Цапкала з жонкай Веранікай.

Я пытаюся ў спадара пасла:

— Як сталася, што амбасада Беларусі і Царква Хрыста аб'ядналі свае намаганні ў дапамозе нашым дзецям?

Ён адказвае, што ініцыятыва ішла ад мясцовых жыхароў, аб'яднаных вакол Царквы. Яны самі пачалі запрашаць нашых дзяцей. Сёлета ўжо 90 беларускіх чарнобыльскіх дзетак прыедуць у ЗША на аздараўленне. Размешчаны будуць у амерыканскіх сем'ях. Іх чакае экалагічна чыстая ежа, добры актыўны адпачынак. Традыцыя была падтрымана амбасадай. Пачалі наладжвацца агульныя мерапрыемствы накшталт сённяшняга. Своеасаблівая форма ўдзячнасці тым прыхаджанам царквы, якія неабыякавыя да лёсу далёкай ад іх Беларусі.

Пытаюся ў дарадніка амбасады РБ спадара Леаніда Сеннікава:

— Чым адрозніваецца сённяшняя сустрэча ад папярэдняй?

— Па-першае, павялічылася колькасць удзельнікаў гэтай праграмы. Па-другое, сёння спявае вядомы спявак, былы саліст беларускай оперы Вячаслаў Полазаў. І гэта вельмі нечаканы і прыемны падарунак для нашых амерыканскіх сяброў. Па-трэцяе, сёння ўсіх чакае латарэя, дзе будуць разыгрывацца беларускія сувеніры, кніжкі, беларуская гарэлка... Усё гэта карыстаецца вялікай папулярнасцю сярод амерыканцаў. Наладжана і фотавыстава беларускага карэспандэнта Юрыя Іванова "Беларусь — Чарнобыльская зона". Здымкі зроблены ў беларускіх клініках, дзе лечацца хворыя дзеці...

Угледзаемся ў здымкі. Маленькая дзяўчынка з сумнымі вочкамі. А гэта — хворае маленькае дзіцятка і каля яго — матка. Слёзы на ейных вачах. Лысыя дзеткі... Адзінокая старэнькая цененькая бабулька... Цяжарная жанчына на чарговым здымку глядзіцца неяк ненатуральна... Дом. Лялечкі на вакенцах. А каля электрычныя правадоў — невялічкае дрэўца, а на ім... яшчэ адно дрэўца! Нешта сталася з гэтым светам! Хіба ж можна быць абыякавым да ўсяго гэтага?

У час урачыстасцяў Лінда Кадэга, дзяўчынка 9-10 гадоў, "сястрычка" гасцей-дзетак, якія прыедуць з Беларусі, памалілася Богу, папрасіла яго дапамагчы тым хворым, што цярпяць ад чарнобыльскай навалы, асабліва дзецям Беларусі.

Пасол уручыў "патрыярху" чарнобыльскай праграмы Джо Бэйлі сведчанне ўдзячнасці ад беларускай амбасады за актыўны ўдзел у рэалізацыі гэтай праграмы.

Спадар Лу Кадэга расказаў пра працу амерыканскага камітэта:

— Дзеці прыедуць у чэрвені, будуць гасціць цэлае лета, ад'едуць у жніўні. Мы шмат працавалі дзеля гэтага з рознымі цэрквамі. Усё падрыхтавана для прыезду. Чакаюць урачы, перакладчыкі. Дарэчы, адзін з перакладчыкаў ніяк не можа зразумець, чаму дзеткі хутка вывучваюць слова "марожанае" і ніяк не засвоюць выраз "час класціся ў ложак"?.. Нашу праграму цалкам падтрымлівае беларуская амбасада. І вельмі шкада, што спадар Сеннікаў ад'язджае сёлета ў Беларусь.

Амерыканец Пол Куксі, адвакат, працуе ў Капітоліі ў Вашынгтоне, гасцінны "бацька" беларускіх дзетак:

— Разам з жонкай Эмілі маем чацвёра сваіх дзетак, летась узялі чатырох беларускіх. І сёлета чакаем іх зноў. Гэта, ведаеце, вялікая радасць — мець такі дзіцячы "калгас".

Сціў Гамфры:

— Я прыхаджанін Царквы Хрыста. Я быў побач з Джо Бэйлі з самага пачатку. Працую ў Вашынгтоне. Займаюся сельскагаспадарчым экспартам. Сустракаўся з гандлёвым прадстаўніком Беларусі спадаром Дзідзенкам. Я фінансава падтрымліваю праграму. Мая сям'я брала двух хлопчыкаў. І ў гэтым годзе гасцінна запрашаем дзетак з Беларусі ў нашу хату.

Узрушаны і спявак Полазаў:

— Сёння я адчуваю асаблівую духоўную ўзнёсласць. Мне здаецца, што нейкі час я быццам спаў, а вось цяпер — прачнуўся і адкрыў вочы. Колькі навокал прыгожых душ і сэрцаў! Я адчуваю Беларусь. Мне так хочацца, каб яна акрыяла, каб яе хворыя дзеці паздаравелі. Таму, можа, першым нумарам свайго канцэрта я абраў "Світанак". Я прысвяціў яго Беларусі.

Жонка Славы Полазава — Алена, канцэртмайстар:

— Прыемна бачыць, як ладзіцца дружба паміж амерыканцамі і беларусамі дзеля дапамогі чарнобыльскім ахвярам. І ў сэрцы ўсяго і ўсіх — Бог, Царква Хрыста.

А сямігадовая дачушка Полазавых — Наталінка (ужо народжаная тут) прашчабятала на матчынай мове:

— І я буду клапаціцца і маліцца за тых, хто прыедзе. І за тых (паказвае ручкай у бок фотавыставы), хто — там! Я іх ужо люблю і аддам усе свае цацкі. Я іх чакаю...

**Вацлава ВЯРБОЎСКАЯ**

*ЗША. Вашынгтон*

ВАРУНКІ

# Святло згаслай зоркі

*— Ты — не таго, — быццам апраўдваючыся, сказаў Грынь Паківан. — Ты не бойся. Ніхто не выдасць... Вылечым... Пажывеш, ды і пойдзеш у скіты, на Ветку... Там збеглых многа. Стараверы не выдадуць, бо лічаць, што ўлада — ад д'ябла.*

**Уладзімір Караткевіч. "Каласы пад сярпом тваім".**

Даруйце, паважаныя, але я зноў пра забытае і мройлівае. Пра жаданае і ўяўнае. Пра радзіму, якая не стала дзяржавай. Пра дзяржаву, якая пакуль няздольная звацца радзімай. Пра Мінск, Ветку і ўласнае жыццё. Так (гучыць банальна!), пра жыццё, якое стамляе і падбадзёрвае, падманвае і абнадзейвае, здзекуецца і натхняе, вярэдзіць і ацаляе. Словам, вымушае адпавядаць чалавечаму прызначэнню, сэнс якога з гадамі ўсё больш няўцямней. "Не дзяўбі гняздо — шчаміся ў гатовае", — казала мая веткаўская цётка. А дзе яно, тое гатовае? Няўжо толькі ў роднай Ветцы і засталося? Мо й сапраўды беды нашыя ад таго, што жывём мы не там, дзе нарадзіліся? Няма першароднага Палесся; накінуўшы на плечы чарнобыльскую світку, амаль усё яно знялося з наседжанага гнездаўя, перасялілася са стогнам-енкам на Віцебшчыну, Брэстчыну,Міншчыну, пачало жыццё з нуля. Ці ж упершыню беларусу вось так, з голага калена, ўсё распачынаць. І няўжо толькі для таго, каб зноўку ўсё згубіць і зноўку на ўсё забыцца. "Шчаміся ў гатовае, — злуецца сябра-перасяленец. — Калі б не Чарнобыль, ці б пахадзілі мы з табой па мінскім асфальце?! Галоўнае — з народа выйсці, а вяртацца ў яго — які сэнс?" Аргумент жалезны. Спрачацца — ніякай ахвоты. Неяк не да твару нам, сталічным жыхарам, час на пустое марнатравіць. У горадзе — пыл, спякота і мітуслівая бездапаможнасць местачковай сталічнасці. Цікава, а як там у Ветцы?

На выгаралым поплаве Кастрычніцкага пляца вытыркнулася Беларусь гэткім ганарлівым "пупам" — пачаткам усіх нашых дарог. І пазначана на ім для аматараў вандроўных дакладнасцяў: да Гомеля — 315 кіламетраў, да Веткі — 330. І адпаведны лацінскі дэвіз — "Yia est vita", маўляў, дарога і ёсць жыццё. Мелі грэкі цяму, мелі. Згодна іх выснове і ладжу сваё сённяшняе існаванне. Са стрыечным братам і на ягоным легкавіку едзем у Ветку.

З Мінска ў Ветку адпраўляцца трэба раніцай. Каб сонца ў вочы не сляпіла. Каб дарога карацей была. Самае месца для глыбакадумных разваг над сэнсам спалучэння "дарога да радзімы". Даўжынёй у пяць гадзін ці ва ўсё жыццё? Аб'язная, напрасткі, укатаная ў бубенбрук упартымі папярэднікамі ці ўвогуле дабітая ды непраезная? Якая розніца! Галоўнае, што дарога. Галоўнае, што да радзімы. На нашай з Воўкам свае законы. Едзем сабе, разважаем салідна пра "індэкс валавога ўнутранага прадукту", пра "высокі тэмп яго росту". Мо для таго, каб хоць крыху нам вылюднець, і не трэба, каб ён, сабака, так нахабна ды няўхільна рос?! Эканамічную тэму недзе побач з Пухавічамі лагічна працягвае жвавенькі даішнік, які выскоквае з прыхаванага ў прыдарожным хмызняку цывільнага легкавіка, як Піліп з канапель. Хуценька і з веданнем справы штрафуе за перавышэнне хуткасці. Пару "дзяжурных" Воўкавых долараў забірае, натуральна, без квітанцыі. У яго таксама дзеці. Да дарожнай сітуацыі падыходзім па-філасофску: час збіраць грошы, час іх губляць. Тут, спадарове, хто на што вучыўся: хто з народзінаў прызвычаіўся красці, а хто проста яшчэ не паспеў навучыцца. А для нас, вандроўнікаў, выснова адна: дарога на радзіму не мучыць, а жыць вучыць, і прынцып "хоць бокам каціся" тут не праходзіць — сабе даражэй.

Едзем, назіраючы за травеньскімі сухавеямі, якія перамятаюць шашу шчыльнымі завесамі пылу. Яшчэ не здагадваемся пра будучыя бязлітасныя замаразкі, яшчэ не ведаем пра шчодрыя чэрвеньскія ліўні, сумуем па хмарах і разважаем "за жыццё", а дакладней — супраць.

— Вунь глянь, на левы бок — фермерская гаспадарка, — ківае галавой Воўка. — Які ўжо год гэты бядак за сваё змагаецца, па дабраволі бульбу вырошчвае. Глядзі: катушкоў на падвор'і паболела, два камбайны з'явіліся. Як думаеш, выб'ецца ў людзі ці не дадуць?

Дадуць, калі дагоняць. А потым яшчэ раз дадуць. Жыгучкай падаткаў, інструкцый і загадаў па мазалях і хлебаробскай душы. Калі Расія — радзіма сланоў, дык Беларусь — матухна несапраўдных калгасаў і несапраўдных фермераў. Ці ж замала наўкола прыкладаў? Ініцыятыва саматужнасці на Беларусі агульнавыгодным выкананнем не караецца. Таму ў бульбянай дзяржаве ад летніх цэнаў на гэты першасны прадукт звар'яцець можна...

Час ідзе — дарога ўецца. Вось і Гомель. Узбоч шашы хімкамбінат з гурбамі адходаў, якія памятаю яшчэ з дзяцінства. Не вялікае дзіва, што па вытворчасці хімічных тукаў Беларусь — на першым месцы ў свеце. Можна сказаць, па шыю ў гэтых угнаеннях. У спалучэнні з высокім індэксам валавога ўнутранага прадукту — адно замілаванне ад уежных перспектыў. Адна праблема — не зважаць на вось гэтых, шэрых і невыразных "ворагаў працоўнага народа", якія з зацятасцю прафесійных грыбнікоў вышукваюць на гомельскіх газонах пустую шклатару. У гэтым Гомель ад Мінска не адрозніваецца. Вяртанне да жыцця і радзімы адсунута на другарадны план. "Ад сумы не заракайся!" — пагражаю сам сабе і працягваю ламаць галаву над таямніцамі беларускай фантомнай эканомікі. Амаль не зважаю, як наш легкавік мінае Гомель, сутаргава перасмыкаецца на чыгуначным пераездзе, з палёгкай імчыцца далей. "Прудок, Пакалюбічы, Ветка..." — пісаў веткаўскі паэт Дзмітрый Кавалёў, разбіваючы на прыпынкі сваю ўласную дарогу да радзімы. Здаецца, дзесьці тут сяркоўскія "мы з Санькам у тыле ворага" змагаліся з фрыцамі за сваё шчаслівае дзяцінства. Дзесьці тут на ўзбярэжжы Сожа гадоў трыццаць таму здымаўся фільм па быкаўскай "Трэцяй ракеце"... Да Веткі — кіламетраў васемнаццаць. Воўка вяртае да жыцця, працягваючы павучальную экскурсію:

— Звярні ўвагу, журналіст! Лецішчы абапал дарогі. На левы бок — фанерныя дачкі-прыбіральні (калі спаць стоячы — месца хопіць і на вілы з граблямі), а на правы бок — двухпавярховыя цагляныя муры. Дык дзе жыве-шыкуе народ, а дзе туляцца-бядуюць ягоныя слугі?

І па-марксісцка-ленінску падводзіць вынікі "лекцыі": "Мір хацінам, вайна палацам!"

З братавай напышлівасцю згодны. Гэта вам не лядашчая інтэлектуальная літаратура. Голае жыццё! Публіцыстыка высокага кшталту з поўным наборам жарсцяў і антаганізмаў. Два светы — два лады жыцця. "Лысагорскія" дачнікі-жабракі. Постсавецкія зялёна-чырвоныя "дэмакраты"-міраеды. І магутны ў сваёй бездапаможнасці незлічоны сярэдні клас аматараў пустой шклатары...

Мост праз Сож. За ім — Ветка. Раптам і адразу. Маленькая, ледзь не кішэнная, утульная і зялёная, родная да шчымлівага болю, заснаваная раскольнікамі аж у 1685 годзе. Дык дзе вы, веткаўскія стараверы? Ярыя працаўнікі любога ўціску асобы. Штукары і мудрагельцы, якія ўвобмірг выправілі фальшывы пашпарт збегламу Ямельку Пугачову, абвясціўшы яго "цудам уцалелым царом Пятром III". Стараверы з доўгімі барадамі, святымі абразамі і пажоўклымі старадрукамі. Стараверы, якія не выдадуць, бо лічаць, што любая ўлада — ад д'ябла. Стараверы, якія, плюнуўшы на Маскву, узбудавалі ў Ветцы Красную плошчу, наскрозь абеларусіліся, захаваўшы і ўзбагаціўшы самабытнасць культуры. Дзе вы, мастакі, кавалі, разьбяры, музыкі, купцы-карабелы? Не гучыць урачыстая музыка. І дзяўчаты з самотнымі заплаканымі вачамі не выходзяць сарамліва насустрач. І час не спыняецца напалохана. І стараверы ўсе на стараверскіх могілках. І толькі мясцовыя музейшчыкі здольныя расшыфраваць таямнічыя паганскія знакі-ўзоры на тутэйшых ручніках і строях. І амаль не засталося карэнных веткаўчан у Ветцы. Змянілася ўсё. Змяніўся і я. І не ведаю, чаго жадаю. І адчуваю, што праз пару дзён пацягне мяне зноў у Мінск. А ў Мінску буду мроіць пра Ветку...

Мы кідаем легкавік у цёткі, разбягаемся па справах. У кожнага з нас — свая Ветка. І кожнаму трэба паспець надыхацца сваёй. Вы, напрыклад, памятаеце, чым пахне юнацтва? Я, да сораму, пачаў забывацца... Для мяне Ветка, як згаслая зорка. Яе, менавіта маёй, колішняй, ужо няма, але святло, звязаўшы промнямі сваімі дзяцінства са сталасцю, жыве, працягвае лашчыць і грэць азяблую душу. Калі я, хворы ад зла і абыякавасці, прымушаю сябе не думаць пра кепскае — тады абавязкова прыгадваю сваю Ветку. У ёй процьма цікавых людзей, мудрых і не вельмі, шмат неверагодных выпадкаў, пароўну слёз і смеху. Усяго, да самых драбніц — пароўну. Ёсць вуліцы Пралетарская, Савецкая, Кастрычніцкая і Карла Маркса. Курацца пылам (асфальт будзе, але пасля Чарнобыля) вуліцы Беларуская, Янкі Купалы, Якуба Коласа і Дзмітрыя Кавалёва. Ёсць школа руская і беларуская. Ёсць бандзюганска-цыганская слабодка і прыстойная па-местачковаму Красная плошча з абавязковым Леніным. Ёсць таямнічы піўны чапок у засені яшчэ цэлага, не высечанага старога сквера і не менш таямнічая бібліятэка, дзе да "дарослых" кніг мяне яшчэ не падпускаюць. Ёсць дзядзька Франц — сябра маіх бацькоў-настаўнікаў, дырэктар нашай самай беларускай школы. Менавіта да яго, Франца Паўлавіча, я, шасцігадовы, па-сваяцку і без папярэджванняў заглядваю на "перакур". Дзядзька Франц паліць нязменны "беламор", дастаючы яго з шыкоўнай лакавай папяросніцы, засяроджана займаецца папяровымі дырэктарскімі справамі, калі вельмі пашанцуе — грае на скрыпцы. Цяпер я ўжо ведаю, кім стаў, пасталеўшы, коласаўскі Сымон-музыка...

Ёсць у маёй Ветцы і Грышка Захараў — анархіст, вальнадумец, мацюглівец і вольны мастак. Пастаянна п'яны і вясёлы. Душа нараспхрыст. "Дзеўкі, — крычыць ён праз усю вуліцу сястры з сяброўкамі, — якія вы прыгожыя, толькі няма вам чаго даць!" І праз хвілю, памацаўшы кішэні: "Не! Ёсць што даць, няма ў што загарнуць!" А карціны Грышкавы — амаль у кожнай гарадской канторы.

Ёсць і дзядзька Раман, здаецца, са старавераў, бо жыве непадалёк ад прыстані, у "маскальскім" раёне. Заўзяты рыбак. Ягоныя чоўны — лепшыя, бо цесля ад Бога. З паўсотні веткаўскіх дамоў упрыгожыў ён ліштвамі і аканіцамі. Ніводзін узор не паўтараецца! Ну якое беларускае мястэчка можа гэтым выхваліцца? А ў Ветцы — пяць стыляў ліштвы: з геаметрычнымі ўзорамі, з узорамі, якія нагадваюць жывёльны або раслінны свет, класічныя, стараверскія. А ў Ветцы — дзядзька Раман, які нарадзіўся тут, як мог, аздобіў уласны горад, і вызваляў яго ад фашыстаў, і памёр, гледзячы праз вакно на ўласны сад і майстэрню. І ўпершыню я дапамагаў састарэлым бабулькам абмываць нябожчыка. Ступень сталасці чалавека вызначаецца, відаць, яшчэ й колькасцю памерлых сваякоў і блізкіх. Дакладная арыфметыка смерці і няўцямная непрадказальнасць жыцця крочаць побач... Не разумею, чаму іншым разам блізкія нябожчыкаў так любяць фатаграфаваць хаўтуры?! Каб доўжыць бясконца жалобную часіну? Бацьку памятаю жывым. Не ведаю, хто жыве зараз у нашай хаце. Ніякага жадання заходзіць. Няма майго клёна ў двары, ссечаны таполі перад вокнамі. У маёй Ветцы і бацька, і клён, і таполі, і наша хата — жывыя...

У маёй Ветцы — усё як мае быць. На 90-ы год звыш 10 тысяч насельніцтва. Натуральна, 90 працэнтаў — беларусы. 167 украінцаў, 48 яўрэяў, 51 цыган, два татарыны, 14 палякаў. Яшчэ не дадзены міласцівы сігнал на масавае адсяленне. Яшчэ ўсе мы — побач, яшчэ ўсе мы — жывыя. Амаль першымі, услед за яўрэямі, "эмігруюць" нямаведама куды не менш хітрыя і разумныя веткаўскія цыганы на чале з мясцовым баронам Кузьмом — райвыканкамаўскім шафёрам. А потым і мы патонем у калаўроце вялікага перасялення...

Я хаджу па сваёй колішняй Ветцы. Але чужая, сённяшняя перашкаджае:

— Дзядзька, ці не будзе папаліць? — спыняе на вуліцы бандзюкаваты дзяцюк гадоў пад пяцьдзесят.

Палім і знаёмімся. Спрэс постчарнобыльская экзотыка на веткаўскай глебе. Цыган Коля з Алма-Аты. Некалькі год як у Беларусі. Радыяцыі не баіцца: "Колькі ў бальнічцы ні правяраўся — кажуць: няма нічога!" Сядзеў калісьці за "хуліганку". Працоўнай кніжкі не мае. Прыпрацоўвае там-сям. Ветка падабаецца: "Ціха тут, калі моладзь не чапаць..."

— А шмат яшчэ цыганоў у Ветцы?

— Не, некалькі сем'яў з Алма-Аты...

— А што, там кепска жылося?

Коля махае рукамі, пыхкае "беламорынай" і мацюгаецца. Словам, ад адказу ўхіляецца...

Радыяцыйная Ветка, некалькі разоў адселеная і некалькі разоў зноў заселеная — рэч унікальная. Зараз тут амаль 8 тысяч гараджан. Як сцвярджае ў друку старшыня Веткаўскага райсавета дэпутатаў Яўген Чаванькоў, "агульная смяротнасць у раёне ў 2,5 раза перавышае нараджальнасць, адсюль — натуральная страта насельніцтва". А "за 1998 і 1999 гады паказчык анкалагічных захворванняў склаў адпаведна 415 і 451 выпадак на 100 тысяч насельніцтва. Гэта адзін з самых высокіх паказчыкаў у рэспубліцы".

Дзяржава-бядачка за 14 чарнобыльскіх гадоў так і не вызначылася, ці можна жыць людзям на тэрыторыі з узроўнем радыяцыйнай забруджанасці ў 15-40 кюры на квадратны кіламетр. Па словах старшыні Гомельскага аблвыканкама Мікалая Вайцянкова, у вобласці звыш 25 тысяч чалавек пражываюць у гэтай зоне...

Можна бясконца гаварыць пра заніжаныя нормы дозавага абпраменьвання, пра ўпартыя спробы гомельскіх навукоўцаў наладзіць больш-менш надзейную радыяцыйную ахову насельніцтва, пра стронцый, цэзій і амерыцый, пра "чыстыя" малако і збажыну, пра хранічнае невыкананне чарнобыльскай праграмы. Можна гаварыць. Бясконца і безвынікова. Усё адно што даводзіць дурню, што ён дурань. Мне, прафесійнаму чарнобыльцу-перасяленцу, на гэта ўжо бракуе сіл. І фізічных, і маральных. Я проста "жыву" ў сваёй Ветцы, хоць дзесяць год як перасяліўся ў Мінск. Жывём, як умеем, кажа знаёмы творца. А умеем, спадары, ох як пагана. Дый што з нас, ленаватых, узяць?! Еўропа ўжо Сарбонай выхвалялася, а пад нашымі занядбанымі весніцамі татары з манголамі свавольнічалі. Маем тое, што жадаем...

Дык вось, у Ветцы на сёння амаль 8 тысяч гараджан. Але разбіўкі па нацыянальнасцях, даруйце, не ведаю. Мясцовае статупраўленне альбо не валодае звесткамі, альбо людзям пабочным і выпадковым іх проста так не выдае.

— Цюбецеек у нас зашмат! — скардзіцца на нейкую экспансію адзін з нямногіх сустрэтых мною карэнных веткаўчан. — І ў райбальніцы гэтых асоб невядомай нацыянальнасці хапае, і ў іншых гарадскіх арганізацыях. Ім — і пасады, і кватэры. Хабар, браце, хабар! Са сваіх, мясцовых, страшна цягнуць (дый колькі там ужо сваіх!), а з чужых — калі ласка...

Што за "чужыя"! Што за шавінізм! Цыганы, узбекі, таджыкі, як і мы, таксама шукаюць месца пад сонцам, няхай і радыяцыйным. Шукаюць і не знаходзяць. Якая экспансія? Нармальнае беларускае суіснаванне. Як у Гомелі, як у Мінску, Брагіне, Нароўлі... Мінскі сусед расказваў, як на адным з нашых рынкаў каўказскія гандляркі літаральна ні за што адлупцавалі калегу-беларуса. Пры агульнай маўклівасці і згодзе. Ды каб жа нам, небаракам, дацяміць, хто ў хаце гаспадар? Хто б пераканаў урэшце, што пакуль беларусы не стануць беларусамі, вакантныя месцы пад беларускім сонцам будуць надоўга занятыя.

Не. Досыць. Надакучыла. Я лепей пра добрае. У радыяцыі — ні паху, ні колеру. Таму дыхаецца, як п'ецца. Важна шпацырую па веткаўскіх вуліцах і завулках. Дзіцячы садок, адкуль збягаў да бацькоў у школу... Школа, адкуль збягаў на ставок з таямнічай выспай... Прышкольны ставок, дзе прайшло дзяцінства, і адкуль бы ніколі не збег, калі б не сыны ды не стронцый з цэзіем... Хаты даўніх сяброў, якіх таксама раскідала па свеце. Колькі ўжо гадоў не адчыняў гэтыя дзверы. Пасівелі мы, змаршчынелі ўшчэнт бацькі таварышаў. А хатні пах застаўся ранейшым. Пах ад печы (у кожнай хаце, натуральна, свой, непаўторны), пах ежы і кветак, ладу жыцця і працы, дабрыні і шчодрасці. Водар дзяцінства, утульнасці і спакою. Я адчуваю, з якой сілай цягне сюды. Каб наталіць смагу па печы (галоўнае, чаго не хапае ў нашых катухах-кватэрах), каб не спяшацца і выжываць, а думаць і жыць, каб слухаць, як у цёмным пакоі радуецца жыццю цвыркун і клапатліва скрабуцца мышы ў падполлі, каб пісаць вершы, касіць атаву і расціць дзяцей, каб есці сапраўдны печаны хлеб і запіваць яго сапраўдным малаком. Наша гора ў тым, што мы жывём не там, дзе нарадзіліся...

Вы тэлефанавалі калі-небудзь па "мабільніку"? Мне шкада вас! Мне пашэнціла, і я адчуў сябе разбэшчаным панам. І мне захацелася, разняволена абапёршыся на іншамарку, кіраваць лёсамі, дзяржавамі і планетамі. Дагадзіў Санька — колішні аднакласнік, які, пабадзяўшыся па свеце, так і не кінуў роднай Веткі, заняўся тут не без поспеху прыбытковай аўтасервіснай справай. "Мабільнік" для яго (у адрозненне ад мяне) — рэч звычайная. Шкада, да лёсаў, дзяржаў і планет справа так і не даходзіць. Проста хуценька звязваемся з яшчэ адным сябруком-аднакласнікам — таксама Санькам, які завітаў да адзінокай маці з-пад Брэста. Звязваемся і сустракаемся. Уражанняў ад такіх выпадковых, але жаданых сустрэч — на некалькі гадоў. Свята душы! Вось так утрох і вяртаемся ў юнацтва. Як і калісь, да знямогласці парымся ў лазні. Як і калісь, гаворым пра неабавязковае (вышэйшая асалода зносін!), гаворым ні пра што. А як прыемна памаўчаць, седзячы за сяброўскім сталом паміж шчаслівымі і вясёлымі Санькамі! Мы такія, як і раней, жыццё іншае, а мы — усё такія ж. П'ём мінскую гарэлку. Гомельскую, спадарове (хто разбіраецца!), у губу не ўзяць — паскудства. Але п'ём і гомельскую, шчодра адкавяльваючы і сала, і хатнюю каўбасу. А на душы — спакой і злагада. І гэты стан абавязкова трэба захаваць, давезці, не згубіўшы, да Мінска, даглядаць і песціць там як след, каб падаўжэй захаваўся і грэў, не кволіўся, а супакойваў і натхняў...

Вакол стаўка — вярбовыя зараснікі. Калісьці тут з бацькам мы не давалі бэсціцца залатым, пузатым карасям. Лавілі дый карані ў смятане на патэльні. Вербы плачуць, нягледзячы на спякоту. І слёзы гэтыя і радасныя, і самотныя...

Заўтра — 9 траўня, радаўніца. Дата незвычайная і памятная. І не толькі таму, што дзень Перамогі, а таму яшчэ, што і дзень нараджэння майго дзеда Сцяпана. За ягоным круглым дубовым сталом збіраліся калісьці ўсім родам. А непадалёк, на гарадской плошчы, роў праз клубаўскія ўзмацняльнікі хрыпаты, паўафіцыйна забаронены, магнітафонны Высоцкі. Пра сыноў, якія ідуць у бой, пра брацкія могілкі, на якіх не ставяць крыжоў — роў на ўсю Ветку. І мы паважалі яго, неўтаймаванага і праўдзівага. І магло такое адбывацца толькі ў маім вольналюбівым горадзе...

Я прыбраў магілкі. І дзедаву, і бацькаву. Пабываў на магілках у дзядзькоў Піліпа, Іллі, Рамана... Мне сёння сказалі, што я стаў вельмі падобным на бацьку. Я ўжо даўно лаўлю ў сваім голасе ягоныя інтанацыі, ва ўласных учынках — ягоныя звычкі і характар. Ён жыве ўва мне, а дакладней, я жывы, дзякуючы яму. Ці паўтаруся я ў сваіх сынах? Калі пашчасціць — не стаміцца б ад жыцця.

Тут, на могілках, успомніўся і Віця Стрыжак. Хоць і спіць ён у сваёй Заспе, але ў маёй Ветцы — ён жывы. Незразумелы для многіх. Добры, мудры і шалапутны. І наша рэдакцыя не ў былым райкаме, як зараз, а ў яшчэ жывым дарэвалюцыйным двухпавярховым дамку купца Грошыкава. І мы, стомленыя, не ідзём на абед, а ядзім "іржавае" сала прама ў нашым сельгасаддзелаўскім кабінеце. Салам "паэта і журналіста" забяспечвае мая маці. Пад'еўшы, паэт чытае вершы, а журналіст слухае адкрыўшы рот... Цяперашняя Ветка згубіла паэта-беларуса. Але ў тым доме, дзе жыў Віця, зараз жыве паэтка Ларыса Раманава. Прырода любіць раўнавагу. Прырода любіць паэтаў...

9 траўня — дзень жалобны і парадны. Святочнае ветэранскае шэсце ў Ветцы (амаль няма знаёмых твараў!), ваенны парад у Мінску. Наведаўшы могілкі, збіраемся з Воўкам у дарогу. Развітваемся з Веткай. Развітваемся з сённяшняй, бо наша колішняя пастаянна з намі. Не, сапраўды, ужо цягне ў Мінск. Там сям'я, праца, сённяшняе жыццёвае месца — а значыць і радзіма. Мы так і не прызвычаіліся шчаміцца ў гатовае. Птушкі без гнёздаў. Мы едзем дахаты. Сож, Хальч, Пакалюбічы, Гомель. Ветка ўжо дзесьці недасягальна далёка. Старая Ветка, дзе калісь не прызнавалі ўладу, ратавалі душы, вучылі і вучыліся глядзець праўдзе ў вочы. Няма яе, стараверскай, раскольніцкай. Ці хопіць сіл дачакацца "нававерскай"? Мы едзем з радзімы на радзіму. Дарога — даўжынёй у непражытае жыццё.

**Яўген РАГІН**



## ЧАСАПІС

### “Рэкі і азёры ў паэзіі Р. Барадуліна”



**Творчасць народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна такая, што чым больш далучаешся да яе, тым часцей з'яўляецца жаданне па-новаму асэнсаваць пэўныя моманты. Таму і невыпадкова напісанае Рыгорам Іванавічам пастаянна ў полі зроку даследчыкаў. Неаднаразова пісаў пра Р. Барадуліна і Алесь Карлюкевіч. А вынік яго ўважлівага стаўлення да творчасці майстра — кніга “Рэкі і азёры ў паэзіі Рыгора Барадуліна”, якая толькі што пабачыла свет у недзяржаўным выдавецтве “Пейто”. Аўтар яе па сутнасці працягвае думку, што прагучала ў дапаможніку для настаўнікаў “Свет ад траў да зор”, напісаным Алесем Бельскім: “З вобразам ракі паэты заўсёды звязвалі хуткацечны бег часу, імклівы рух жыцця, глыбіню і чысціню духоўных памкненняў чалавека. Плынь магутных рэк і невялікіх рачулак неаднойчы жывіла паэтычную думку, скіроўвала да быційна-філасофскіх роздумаў-развагаў. Менавіта такой ракой для А. Куляшова стала Бесядзь, для У. Караткевіча — Дняпро, для А. Астрэйкі, Л. Геніюш, Д. Бічэль-Загнетавай — Нёман, для П. Броўкі — Ушачка, для Я. Янішчыц — Ясельда... Напэўна, няма ў беларускай літаратуры паэта, які б не апеў родную раку”. Р. Барадулін, як сведчыць А. Карлюкевіч, “з першай сваёй кнігі — уважлівы, чуйны да роднай старонкі”: “Родны край Рыгора Барадуліна, крыніца яго паэзіі — азёрная Ушаччына, адна з самых цікавейшых старонак сінявокай Беларусі. З успамінаў паэта пра сустрэчу з вялікім мастаком сучаснасці Барысам Заборавым: “Дакляраваў я Барысу, калі здарыцца яму быць на Беларусі, звазіць на Ушаччыну, каб зноў пачуў ён голас нашых лясоў, якія яшчэ дзе-нідзе ацалелі ад прагрэсу, зноў убачыў азёры мае радзімы, а іх у нас — усе 250 і яшчэ адно”. Даследчык запрашае чытача зазірнуць ва “ушацкую блакітную энцыклапедыю”, згадвае шматлікія рэкі і азёры, назвы якіх гучаць у сэрцы Р. Барадуліна змалку. Да месца прыгадваецца верш “Рэкі маёй зямлі”, з якога відавочна, што паэтаў клопат і пра зберажэнне ўсёй гэтай непаўторнасці, на якую, на жаль, замахнулася рука меліяратараў: “Р. Барадулін пазірае на свой азёрны край як чалавек і мастак нераўнадушны, аглядае сваю Ушацкую планету ўсю разам. Чытаючы выкрынічаныя Ушацкай вадою вершы, разумееш і боль паэта, і яго непахіснае жаданне занатаваць паэтычным словам час, праілюстраваць сапраўднае з нашай эпохі”. Кніга пабудавана так, што кожную сваю выснову А. Карлюкевіч падмацоўвае яркімі прыкладамі з твораў Р. Барадуліна. Аднак разам з тым прыслухоўваецца і да меркаванняў іншых даследчыкаў, каб быць яшчэ больш пераканаўчым. Сведчанне таму — гаворка пра цудоўны барадулінскі верш “Вясновая замалёўка на беразе Ваўчэнскага возера”:**

*Возера стаіць, не зварухнецца,*
*Бо агеньчыкам надкручнай хаты*
*Аж да дна, нібы цвіком, прыбіта, —*
*Каб не ссунулася анікуды.*

*Быццам купінка з сухой іглiцы,*
*Недаверлівы спяшае вожык,*
*Чмыхае лычком сваім кірпатым,*
*Нюхае — ці не прайшла палёўка?..*

**І тут жа прыводзіцца меркаванне літаратуразнаўцы Л. Гарэлік: “Сведчаннем непаўторнасці... таленту з'яўляецца перш за ўсё тое, што вершы паэта незвычайна шчодрыя на гукапіс, багатыя музычнай інструментоўкай радка. Шматлікія асанансы, алітэрацыі, унутраныя рыфмы выклікаюць слыхавыя асацыяцыі”. І далей Л. Гарэлік звяртаецца непасрэдна да верша “Вясновая замалёўка...” Завяршаецца ж кніга А. Карлюкевіча высновай, да якой варта прыслухацца: “...даўно наспела патрэба ў стварэнні асаблівага роду хрэстаматыі — “Рэкі і азёры Айчыны ў беларускай паэзіі”. Няма ніякіх сумненняў, што анталогія падобнага кшталту акажацца запатрабаванай не толькі ў школе, але і ў інстытуце. З практычным прыцэлам звернуць увагу на гэты своеасаблівы вопыт і краязнаўцы Беларусі. Мо следам за кнігай пойдуць яны да стварэння краёвых хрэстаматый беларускай літаратуры, хрэстаматый, здольных сканцэнтравана распавесці пра той ці іншы куточак Айчыны?.. Ды і хрэстаматый, здольных прыняць удзел у сістэмным выхаванні любві да Радзімы”.**

**Юрась ВАЙСЁНАК**




# Партрэт мастака ў інтэр'еры эпохі

### ДА 100-годдзя Кузьмы ЧОРНАГА

ГОД 2000-ны — год вялікіх юбілеяў: Антуан дэ Сент-Экзюперы, Хорхе Луіс Борхес, Наталі Сарот, Кузьма Чорны, Уладзімір Жылка, Андрэй Платонаў, Уладзімір Дубоўка... Раскоша для лічбаманаў, паслядоўнікаў кабалы, а для сур'ёзных навукоўцаў — стымул для роздуму.

Са смерцю Францішка Багушэвіча ў 1900 годзе для беларусаў завяршылася эпоха “пачынальнікаў”. З нараджэннем у гэтым жа годзе Кузьмы Чорнага, Уладзіміра Дубоўкі, Уладзіміра Жылкі (а за год да іх нарадзіўся і Адам Бабарэка), будучых “узвышанцаў”, пачалося новае літаратурнае стагоддзе. На вяршыні беларускага Парнаса (“парнаснікі” — адна з саманазваў “нашаніўцаў”, “адраджэнцаў”) адбыўся “выбух”, у выніку якога нарадзілася нацыянальная класіка, узнік “вялікі стыль” Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, які сёння адназначна ацэньваецца як “беларускі класічны стыль”, сфармавалася беларуская літаратурная мова, “беларускі рух” набыў імпэт.

Кузьма Чорны называў свой час “эпохай войнаў і рэвалюцый”, усведамляў яго “катастрафічны”, “апакаліптычны” характар і разам са сваімі сябрамі-“ўзвышаўцамі” марыў пра стварэнне літаратуры, якую “ўбачаць вякі і народы”. Стваральнікамі такой літаратуры ён бачыў Купалу, Коласа, Багдановіча, якім прысвяціў асобныя артыкулы. Яго ўласны творчы пошук адбываўся ў рэчышчы беларускай класікі. У лёсе і творах Купалы яго захапляла знітаванасць з лёсам народа, бунтарныя настроі і імкненне “ад імя народа “на свет цэлы” гаварыць мовай гэтага народа — прыгожай, багатай беларускай мовай”. Сярод вобразаў, створаных Коласам, ён заўсёды вылучаў трагічны вобраз Міхала, напісаў нават вялікае даследаванне пра паэта, якое згарэла ў першыя дні вайны: у вобразах Леапольда Гушкі, Міхала Тварыцкага, Максіма Астаповіча “коласаўскае” навідавоку. У Багдановіча Чорнага ўражвала тое, што ён “ад самых пачаткаў сваё творчасці быў у абсягу перадавых агульначалавечых ідэй, у якіх ён знаходзіў месца беларускай нацыянальнай думцы”. У глыбіні чорнаўскай маштабнай задумы — “напісаць мастацкую гісторыю беларускага народа ад часоў паншчыны і да нашых дзён” — прысутнічае настальгія па класічным эпасе, які не мог быць створаны ў яго час, неспрыяльны наогул для творчасці.

Ідэі, характары, сюжэты, мова — усюды Чорны пакінуў свой выразны і глыбокі след. У сферы ідэй, дзе асабліва цяжка быць арыгінальным пасля класікаў, ён цалкам самастойны, бо за яго плячамі — унікальная гісторыя беларусаў. Ён і пасля Фёдара Дастаеўскага, якога не толькі любіў, але і ўважліва чытаў, здолеў сказаць сваё непаўторнае слова пра Вялікага Інквізітара, перасяліўшы яго з сярэднявечча ў эпоху XX стагоддзя (“У кожнага века ёсць сваё сярэднявечча”, — іранізаваў Станіслаў Лем) і надзяліўшы яго рысамі “фашыста-тэарэтыка” Генрыха Тоўхарта. Ён на свой лад, па-чорнаўску, прачытаў біблейскую Кнігу Іова, адзначыўшы тое, што не заўважыў і яго вялікі папярэднік Дастаеўскі, які таксама любіў менавіта гэту Кнігу (“Чытаю кнігу Іова, і яна выклікае ў мяне хваравітае захапленне”). Антон Цвірка, герой рамана “Вялікі дзень”, на вачах якога загінуў сын, абураецца страшнай няпраўдай, якую пачуў у казані ксяндза пра Іова, як Бог вярнуў яму за цвёрдасць у веры ўсё, “і здароўе, і сілу, і маёмасць, і багацце”, і ў доме новым, яшчэ лепшым, чым раней, ён пачаў жыць, і жывёлы меў больш і жонку лепшую ўзяў, як была тая, што памерла, і дзеці ў яго другія нарадзіліся, якраз гэтулькі, колькі было тых, што памерлі. І гэта ж тысячы год гаворыцца людзям, і няўжо ніхто не падумаў ні разу, што няможна так гаварыць чалавеку, бо гэта вялікая няпраўда... Божа мой, Божа мой...” Аднак пра дачыненні Чорнага з Дастаеўскім выдатна ў свой час пісаў Алесь Адамовіч.

Шмат у чорназнаўстве сказана і напісана пра рэдкае майстэрства празаіка ствараць, “ляпіць”, як таленавіты дойлід, вобразы і характары. Сапраўды, у каго з беларускіх і наогул сусветных празаікаў можна адшукаць столькі каларытных народных тыпаў — беларускае сялянства займела ў Чорным свайго выдатнага жывапісца, маляўнічыя фарбы якога льга параўнаць хіба толькі з багатай палітрай фламандцаў. Па-першае, гэта манументальныя вобразы мужыка-беларуса, якія набылі жыццё пад пяром Купалы і Коласа, а ў Чорнага ператварыліся ў канкрэтна-рэалістычных Міхалку Сляпенькага, старога Тамаша, дзядзьку Язэпа, Лявона Бушмара, Леапольда Гушку, Міхала Тварыцкага, Юрася Няваду, Сымона Ракуцьку, Максіма Астаповіча, Марціна Прыбыткоўскага і інш. Па-другое, гэта шматлікія вобразы інтэлігенцыі, “шчырых беларусаў”, можна сказаць, зусім незаўважаных і належна неацэненых крытыкай, такіх, як Віктар Зеніч, Ваця Браніславец, Коля Высоцкі, Уладзімір Ярмаліцкі, Максім Хадыка, Мікалай Сямага, Уладзімір Вялічка, Кастусь Прыбыткоўскі... Вось як па-народнаму, напрыклад, сказана пра Кастуся Прыбыткоўскага, героя незавершанай аповесці “Скіп'ёўскі лес”: “Гэты Прыбыткоўшчык вельмі здацен на слова. Я страх які лёгкі раблюся на ногі ў той бок, дзе добрую лухту вярзуць. Дык колькі разоў я бегаў на другі канец вуліцы рагатаць, як Прыбыткоўшчык прастарэкуе. А зялёненькі ж яшчэ. Губа яшчэ голая, як шкло на дажджы. Калі камар сядзе, дык за вярсту з губы відзён”. Асобна варта было б узгадаць умельства Чорнага ствараць жаночыя вобразы, якіх багата ў яго творах розных перыядаў і розных жанраў.

Сюжэт як літаратурная катэгорыя ў прозе Чорнага з займальнага, анекдатычнага, дэтэктыўнага ператварыўся ў магутны сродак мастацкага выказвання сваіх назіранняў над людской псіхалогіяй і філасофскага роздуму пра лёс народа і чалавецтва ў XX стагоддзі. Яго раманы “Сястра” і “Зямля” плывуць, як паўнаводная рака напрадвесні, раз-пораз нагадваючы пра славутую школу “плыні свядомасці”, а яго раманы “Бацькаўшчына” і “Трыццаць год” сталі прадвесцем сучаснай гістарычнай прозы. Пра чорнаўскія “ваенныя раманы” (“Пошукі будучыні”, “Вялікі лес”, “Млечны шлях”) можна сказаць, выкарыстоўваючы тэрміналогію рускіх фармалістаў 20-х гадоў, што яны выдатна “зроблены”, па-майстэрску “пабудаваны”, што ў іх пабудове (“архітэктуры”) вельмі дакладна і вельмі глыбока ўвасоблена вялікая філасофская думка пра сучасную цывілізацыю і пра месца беларусаў “сярод іншых еўрапейскіх народаў”. Па сутнасці, гэта першыя філасофскія раманы ў беларускай прозе, у якіх Чорны, зусім не ведаючы пра тое, рухаўся “паралельна” з Альберам Камю, аўтарам “Чумы”, і Томасам Манам, аўтарам “Доктара Фаустуса”: кожны з іх, паасобку, даваў рэльефны “злепак” з эпохі. У незавершаных раманах-хроніках, якія Чорны распачаў у апошнія гады жыцця, вымалёўваюцца новыя, не вядомыя нашай прозе, “мадэлі” жанру.

І нарэшце, мова Кузьмы Чорнага, унікальная, такой у беларускай літаратуры больш ні ў кога няма. І паўтарэнне яго моўнага феномена проста немагчыма, бо яго слова — жыве, гаворыць, перадае самыя тонкія нюансы інтанацыі аўтара і яго герояў. Нейкі водгук чорнаўскіх інтанацый чуецца ў голасе празаікаў-случакоў Яна Скрыгана, Міколы Лобана, Аркадзя Чарнышэвіча, Алеся Жука, але толькі водгук. Можна нават сказаць, што сёння Чорны цікавы найперш як выдатны стыліст — сваёй мовай. Часам здаецца, што не ён шчодра і ахвотна выкарыстоўвае моўныя залежырадовішчы беларускай прасодыі, а сама старажытная беларуская мова гаворыць вуснамі гэтага празаіка. Чорнага можна чытаць толькі дзеля таго, каб адчуць асалоду піць і піць з чыстай крыніцы беларускай мовы, сапраўды, адной з самых багатых, самых мілагучных, самых старажытных у славянстве. Тады застаюцца па-за ўвагай кан'юнктурныя ацэнкі і “партыйныя” адносіны да напісанага ім, бо ў яго творах шмат “перападаў” у праўдзівасці гучання, у вобразнай пераканаўчасці яго інтанацыі, у самім падыходзе да многіх з'яў сучаснасці. Тады не вельмі цікава, як ён сябе паводзіў у сярэдзіне 1930 года, калі было наладжана судзілішча над яго лепшым і любімым творам — суполкай і часопісам “Узвышша”, што ён пісаў пра “тарашкевіцу” ў сваіх артыкулах 30-х гадоў і ў чым прызнаваўся, калі верыць “нкусаўскім” пратаколам і “данясенням” у час арышту і следства ў згаданай ім пазней у дзённіку “яжоўскай турме” 1938—1939 гадоў. Дакладней, не тое, што “не цікава”, а вельмі сумна, што ў нас былі такія часы, калі чалавека даводзілі да стану самаадмаўлення, анігіляцыі, бо калі размова ідзе аб знішчэнні, ліквідацыі мільёнаў людзей, тады дзіўна гучаць усякія бяздумныя развагі пра “маральна-немаральна”. Гэта ўжо нешта метафізічнае, незямное, пазачалавечае. Чорнаўскія творы ваеннага часу — гэта яго перамога над кашмарам і абсурдам эпохі.

Чорнаўская мастакоўская сіла і чорнаўская ідэалагічная непаслядоўнасць, творчыя дасягненні і творчыя выдаткі пісьменніка ў вялікай ступені вызначаюцца станам, узростам і прасадычнымі асаблівасцямі беларускай мовы. Нельга не ўлічваць, што на гэтай старажытнай мове, дзе столькі “слядоў” часоў паганства, “метак” ад агрэсіўнага наступу іншых моўных стыхій, дзе гучыць голас самой беларускай прыроды-пароды, стваралася вельмі маладая па гістарычным ўзросце літаратура. Вялікае дзіва, што гэта літаратура так хутка загаварыла на поўны голас, па сутнасці, “на роўных” з больш развітымі літаратурамі. І найперш у творчасці Кузьмы Чорнага: нездарма яго ў пачатку 20-х гадоў крытыка ахрысціла “беларускі Дастаеўскі”, як бы памятаючы пра словы Максіма Гарэцкага, які марыў аб прыходзе “ўсясветнага пісьменніка-беларуса”. Беларускае слова, у параўнанні з сям'ёй “аналітычных” германскіх моў, хутчэй сінтэтычнае, паэтычна-абагульненае, схільнае да эпічнай усеабдымнасці, якая так бліскуча выявілася ў “Новай зямлі” Коласа, у Чорнага дэманструе сваю рэдкую прадметнасць, рэчыўнасць, канкрэтнасць, “заземленасць”. Чорны, увесь час як бы азіраючыся на нацыянальны коласаўскі эпас, не мог не ўлічваць разам з тым рэалій еўрапейскай літаратуры і атмасферу трагічнага разлому свету на дзве часткі пасля рэвалюцыі (у Аркадзя Куляшова: “мы атам старога свету ў семнаццатым расшчапілі”). Беларускае слова ў яго раманах наблізілася да еўрапейскага аналітычнага пісьма.



*К. Чорны з дачкой Ірынай, 1938 г.*

У выніку такой творчай трансфармацыі мовы ў ёй адкрыліся невядомыя магчымасці, якія маніфестуюць глыбінныя з'явы беларускай псіхікі, паўзабытыя пласты гістарычнай свядомасці і г.д. Як гэта канкрэтна адбываецца, можна ілюстраваць бясконца, узяўшы амаль наўгад чорнаўскія фразы, сінтагмы, моўныя канструкцыі. У яго нават відавочныя дыялектызмы, за якія яго моцна дакаралі пры жыцці, ды і пасля смерці (кагадзе, дзындра, ветліца, ка'а, аблубіца, мажджыр, абрынданая, плішчыцца, чамярахнуць, злыгацца, гаматны, гала, рышток, лямоўка, ванзэлкі, доба, заперына), успрымаюцца як знакі нейкай таямнічай, вышэйшай мовы паганскіх багоў, якую здольны разумець толькі жыхары гэтай зямлі. Ужо самыя першыя назвы апавяданняў “На граніцы” і “На варце”, якія працяглы час ацэньваліся адназначна, як паказчык лаяльнасці савецкай уладзе і камуністычнай ідэалогіі (“на граніцы двух варожых светаў”, “на варце рабоча-сялянскай дзяржавы”), на самай справе могуць

чытацца інакш, убіраючы ў сябе як навуковы ("на мяжы граніцы пачуццяў і думак"), так і быційна-экзістэнцыяльны сэнс ("пагранічная сітуацыя", "начная варта"). Усё, пра што апавядае Чорны, мае, па меншай меры, два планы: побытавы і быційны (у літаратурнай навуцы пра гэта шмат у свой час пісаў Ю. М. Тынянаў). Асабліва шмат адпаведных прыкладаў у яго філасофскай прозе. Вялікае Скрыжаванне, Пошукі Роднай Зямлі, Вялікі Злодзей, Сястра, Зямля, Бацькаўшчына, Трэцяе пакаленне, Пошукі будучыні, Вялікі дзень, Млечны Шлях, Заўтрашні дзень, Ноч пры дарозе, Па дарозе, Вецер і пыл, Вясна — усё гэта ўтрымлівае ў сабе, акрамя канкрэтыкі жыцця, і сімволіку.

З аднаго боку, у творах Чорнага выразна чуецца "голас народа". Дзеля параўнання можна прыгадаць рускую класіку, дзе "народныя вобразы", калі з'яўляюцца, то спарадычна, і на "другіх" ролях. Гэта бачна амаль на ўсёй прасторы XIX стагоддзя — ад Пушкіна да Талстога. Толькі ў Чэхава ("Мужыкі", "У яры") ды ў Буніна ("Вёска") упершыню ў цэнтры сюжэта паўстала руская вёска, сялянства, убачаныя, аднак жа, вачыма "чалавека збоку", прадстаўніка іншага сацыяльнага асяроддзя, што непазбежна выявілася ў змесце. Само слова "народ", скажам, у Дастаеўскага гучыць як адзін з сінонімаў "натоўпу", "масы" ("дрянь народ"). У Чорнага "народ" — аб'ект увагі і любові, за якой столькі асабістага, шчымліваінтымнага. Адсюль яго схільнасць да паказу "масавых сцэн" (яна і ў Дастаеўскага ёсць, што адзначана А. Адамовічам, але гаворка ў яго не пра "народ"): "палюдзець", "пагамаініць", "пацерція" ў людскім натоўпе для чорнаўскіх герояў найвялікшая з магчымых асалод ("не наслухаўся ўволю, як пеўні спяваюць, як людзі па-людску гавораць"). Чорны паказвае "народ" спачатку "агульным планам", як гэта пазней сталі рабіць у кіно, затым вылучае, "выхоплівае" асобныя каларытныя постаці. Той жа Міхалка Сляпенькі, трапіўшы на вясковы сход, хутка ўключаецца ў агульную нястройную гаману і паводзіць сябе так, быццам без яго "дзела не робіцца": "Шмыгаючы ў грамадзе, падлазячы мужчынам пад локці, усім замінаючы, ён стараўся ўсіх перашчабятаць, паўтараючы за кожным словам сваю звычайную прыказку — "тым часам, браткі мае". Гэта ён, вечны гарапашнік, трапятун, мужык-беларус, "пан сахі і касы", адчуў сябе народам, і гаваркі ён, і часам непрыемна балбатлівы таму, што яго галасам загаварыла яшчэ нядаўна без'языкая, асуджаная каланіяльнай сістэмай на маўчанне шматмільённая сялянская маса.

З другога боку, у творах Чорнага прысутнічае сусветная літаратура. Чорны і пра свайго любімага мужыка расказвае з такой ахвотай таму, што памятае пра абыякава-зняважлівы позірк усёй сусветнай традыцыі на чалавека "народнай большасці" (выраз Ф. М. Дастаеўскага). Чорны раней, чым многія, зразумеў, што, пакуль гэта "большасць" не адчуе сваю чалавечую годнасць, датуль на свеце будзе адбывацца калатнеча ("войны, рэвалюцыі ўсякія"). Ён умеў паэтычна намаляваць "зямны рай", які могуць стварыць сабе яго "сумлічане" Волечка Нявадавых і Кастусь Лукашэвіч, а таксама героі "Скіп'ёўскага лесу" Марцін і Кастусь Прыбыткоўскія. У рамане "Зямля", дзе паказана дакалгасная вёска, а сяляне працуюць на падзеленай пасля рэвалюцыі "па душах" зямлі, якраз і выяўлена "замілаванне да роднай зямлі, да прыроды, хараство народных звычаяў і вобразаў, хараство беларускіх простых людзей" (чорнаўскія словы). Дарэчы, Дастаеўскі, "гарадскі пісьменнік", адчуў глыбінны змест паняцця "зямля", як яго ўспрымае сам народ: "У нас ёсць і дасюль ацалеў у народзе адзін прынцып і менавіта той, што зямля для яго ўсё, што ён выводзіць з зямлі і ад зямлі, а ўжо з зямлі ў яго і ўсё астатняе, гэта значыць, і свабода, і жыццё, і гонар, і сям'я, і дзеткі, і парадак, і царква..." Вядома, паняцце "зямля" і ў Дастаеўскага, і ў Коласа ("зямля — аснова ўсёй айчыны"), і ў Чорнага асэнсоўваецца ў філасофска-паэтычным плане.

Творчая спадчына Кузьмы Чорнага такая багатая, што размову можна працягваць і далей, і весці чытача ў любы бок свету, а ўсё роўна будзе цікава і павучальна. Чорнаўскае слова, аналітычна-напружанае, інтэлектуальна-насычанае, чорнаўская фраза, эмацыянальна-ацэначная, лаканічна-рэльефная, чорнаўскія дзеясловы, пры дапамозе якіх ён стварае ілюзію прысутнасці, адначасовасці дзеі і яе апісання, чорнаўскія скупыя азначэнні-эпітэты ("каржакаватых хвоі", "вечназялёнае багавінне"), назоўнікі, якія дакладна ўзнаўляюць матэрыяльны свет, чорнаўскія маналогі, адначасова споведзі і пропаведзі, — усяму гэтаму суджана вялікая будучыня ў беларускай літаратуры XXI стагоддзя. Паўнаводная рака беларускай мовы, якая бурна, шыракаплынна мкне з стагоддзя ў стагоддзе, няма сумнення, лёгка адолее мяжу паміж XX і XXI стагоддзямі і пакліча да жыцця пісьменнікаў, здольных здзейсніць чорнаўскі запавет-малітву, звернуты ў апошні дзень яго жыцця да самога Бога.

**Міхась ТЫЧЫНА**

# Чабор паэзіі

## ДА 95-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ Петруся БРОЎКІ

Пятрусь Усцінавіч быў ганараваны не толькі высокім званнем народнага паэта Беларусі. Ён удастойваўся Ленінскай прэміі, з'яўляўся Героем Сацыялістычнай Працы. І ён жа яшчэ пры жыцці атрымаў дазвол (а такое пытанне без усемагутнага ЦК Кампартыі Беларусі на той час не вырашалася) на выпуск Збору твораў ажно ў сямі тамах, чым ніхто з іншых, жывых тады пісьменнікаў, пахваліцца не мог. А ўслед за гэтым выданнем — у 1987—1992 гадах — з'явілася яшчэ больш поўнае, у 9 тамах. Гэтым разам як выкананне пастановы таго ж ЦК аб увекавечанні памяці Творцы (памёр П. Броўка ў 1980 годзе).

Ужо прадчуваю скептычную ўсмешку тых, хто паспеў за гады, якія мінулі з дня смерці Петруся Усцінавіча, "прайсціся" па ім і па яго творчасці. Разумею, што колькасць далёка не заўсёды пераходзіць у якасць. Аднак упэўнены і ў тым, што ні ў якім разе нельга ставіцца да мастака слова з такім падыходам, калі абавязкова прысутнічае ўпэўненасць, што чым менш напісана тым ці іншым аўтарам, тым яно бездакорна вышэйшай мастакоўскай пробы. Ды і ўвогуле, у каго з літаратараў усё, што з'явілася з-пад пяра, можа быць раўназначным? А ў такім разе атрымліваецца, што П. Броўка такі, як і "усе". Канечне, з шэрагу роўных яму — таксама ганараваных рознымі званнямі, удастоеных шматлікіх прэмій і гэтаксама звязаных сваім жыццём і творчасцю з часам, якіх многія гатовы адмаўляць цалкам...


П. Броўка ў рабочым кабінеце.

Але ж час — не нешта аморфнае і застылае. І чалавек, асабліва калі ён па-сапраўднаму таленавіты, у чым П. Броўку не адмовіш, з гадамі мяняецца, як мяняецца ў многім яго светапогляд, як іншым становіцца стаўленне да свету і людзей. А каб упэўніцца ў гэтым, дастаткова супаставіць самы вядомы верш Петруся Усцінавіча — той, які даўно стаў хрэстаматыйным — з адным з ранніх.

Спачатку — хрэстаматыйны:

***Хіба на вечар той можна забыцца?***
***...Сонца за борам жар-птушкай садзіцца,***
***Штосьці спявае пяшчотнае бор,***
***Пахне чабор,***
***Пахне чабор...***

***Лёгкія крокі на вузкай сцяжынцы,***
***Дзеўчына ў белай іскрыстай хусцінцы,***
***Быццам абсыпана промнямі зор,***
***Пахне чабор,***
***Пахне чабор...***

***Выйсці б насустрач, стаць і прызнацца,***
***Вось яно — блізкае, яснае шчасце,***
***Клікнуць хацелася — голас замёр...***
***Пахне чабор,***
***Пахне чабор...***

Канешне ж, гэта броўкаўскі "Пахне чабор". "Пра што гэты верш? — задамо пытанне разам з найбольш глыбокім даследчыкам паэзіі П. Броўкі Міхасём Ярошам. — Пра цёплы жнівеньскі вечар, калі так пахне чабор? Ці пра нясмеласць першага кахання? А можа, тут выявілася журба паэта, які ўжо даўно расстаўся з юнацкімі захапленнямі?". І разам з М. Ярошам адкажам: "Так, ён і пра жнівеньскі вечар, і пра каханне, і пра настрой, адчуванне. Мова лірыкі багацейшая, ярчэйшая, больш шматгранная, чым мова логікі. У лірыцы важна не толькі тое, пра што апавядае паэт, але і тое, як ён апавядае, яго інтанацыя, настрой, тон, усё, што стварае падтэкст паэтавай думкі. Падтэкст верша "Пахне чабор" даносіць да чытача глыбокую паэтычнасць твора, аўтарскую ўлюбёнасць у маладосць, красу, жыццё". А на першым плане — каханне. Каханне, як магутнае, вечна загадкавае пачуццё. Каханне, што прыходзіць да чалавека ў любым узросце, калі ён не развучыўся па-сапраўднаму радавацца жыццю і здзіўляцца яму, калі ў яго душы ёсць месца захапленню прыгожым, пакланенню прыгожаму.


П. Броўка, М. Ціханаў, 1975 г.

Цяпер давайце прыгадаем той твор П. Броўкі, з якім і хочацца супаставіць "Пахне чабор". А дзеля гэтага якраз і трэба зазірнуць у Збор твораў паэта і знайсці старонку, на якой змешчаны верш "Калі пачынаю з пачуццямі спрэчкі". Адзін з ранніх твораў паэта, таму назвай характэрны для свайго часу, калі ў памкненнях пабудаваць новы свет хацелася цалкам адмовіцца ад многага, што было раней. Яно адкідвалася, як старое, непатрэбнае. Лішнім успрымалася і каханне:

***Я гэтай рамантыкі***
***вырасту вышай,***
***мне трэба, каб слова***
***падносіла цэглу,***
***а вершы ў альбом***
***і другія напішуць.***


П. Броўка сярод выбаршчыкаў, г. Ліда.

Ад адмаўлення кахання да ўслаўлення яго — і такі шлях трэба было прайсці. І не аднаму П. Броўку, а і, бадай, кожнаму паэту, хто пачынаў свой жыццёвы і творчы шлях, акрылены зменамі ў жыцці грамадства. І гэтаксама не аднаму П. Броўку спатрэбілася шмат часу, каб разабрацца ў ілюзорнасці многага, што напачатку ўспрымалася не падлягаючым сумніву. А ў нечым ён, як і іншыя, не надта спяшаўся да пераацэнкі. Яна і непатрэбная была, бо той час, у якім жыў Пятрусь Усцінавіч, даў яму ўсё. Сфарміраваў яго і чалавекам, і грамадзянінам, і творцам.

"Усім сэрцам адразу адчуў сапраўдную волю" — прызнаваўся П. Броўка ў аўтабіяграфіі, згадваючы кастрычніцкія падзеі. А там, дзе воля, там і жаданне працаваць — актыўна, на поўныя сілы. Перапісчык у Вяліка-Долецкім валасным камісарыяце, справавод валаснога выканкама, рахункавод у саўгасе, старшыня сельсавета, загадчык аддзела ў Полацкім акруговым камітэце камсамола — толькі першыя вехі яго жыццёвага шляху, але якія выразныя яны і, нельга не адзначыць, лёсавызначальныя. З падобнай біяграфіяй адкрываліся вялікія перспектывы. А паколькі сам час выбраў П. Броўку, ён і працаваў на гэты час. Працаваў адказным сакратаром акруговай газеты


П. Броўка і Р. Барадулін сярод школьнікаў вёскі Пуцілкавічы, 1975 г.

(Працяг на стар. 14—15)

# "Гісторыя кнігадрукавання Беларусі..."

**Кніга Наталлі Бярозкінай "Гісторыя кнігадрукавання Беларусі (XVI — пачатак XX ст.)", выпушчаная выдавецтвам "Беларуская навука", дапушчана Міністэрствам асветы Рэспублікі Беларусь у якасці вучэбнага дапаможніка для студэнтаў гістарычных і філалагічных спецыяльнасцей вышэйшых навучальных устаноў. Аднак няма сумнення, што прынясе яна карысць і ўсім, хто па-сапраўднаму цікавіцца гісторыяй духоўнай культуры Беларусі. Ва "Уступе"**




**аўтар сцісла, але інфармацыйна насычана падае звесткі, што тычацца з'яўлення кнігі, кідаючы позірк у VIII стагоддзе, калі "ў Кітаі пачалі друкавацца газеты, амулеты, малітвы на асобных аркушах, затым і кнігі. Самай старажытнай кнігай многія даследчыкі лічаць індыйскі твор "Алмазная Сутра" (868) у перакладзе на кітайскую мову. Прыблізна ў той жа час у Японіі ўзнік ксілаграфічны друк. Вопыты друкавання тэкстаў з наборнай формы рабіліся рознымі людзьмі ў Карэі, Нідэрландах, Бельгіі, Італіі, Францыі". Але, як вядома, паваротным у гісторыі чалавецтва стаў 1447 год, калі Іаган Гутэнберг на вынайдзеным ім друкарскім станку "распачаў рэгулярны выпуск кніг у нямецкім горадзе Майнцы". Н. Бярозкіна расказвае і пра зараджэнне кнігадрукавання ў славян: "першыя кнігі на кірыліцы — "Актоіх" і "Часаслоў" — выдадзены ў 1490—1491 гг. у Кракаве Швайпольтам Фіолем, які па праву лічыцца пачынальнікам славянскага кнігадрукавання". З "Уступу" можна пачэрпнуць і іншыя пазнавальныя звесткі з гісторыі кнігадрукавання, у тым ліку і на тэрыторыі Беларусі. Аднак асноўная гаворка, зразумела, вядзецца ў самастойных раздзелах і сярод іх найбольш разгорнуты і грунтоўны "Францыск Скарына — беларускі гуманіст, асветнік, першадрукар". Н. Бярозкіна паказвае Скарыну, як "славутага дзеяча беларускай, славянскай і сусветнай культуры, асветніка, гуманіста, вучонага, пісьменніка, мысліцеля, творчасць якога аказала вялікае ўздзеянне на развіццё беларускай мовы, літаратуры, кнігадрукавання, усіх галін духоўнага жыцця беларускага і ў першай ступені ўсіх усходнеславянскіх народаў". Вядома, асноўная ўвага запыняецца на яго кнігавыдавецкай, друкарскай дзейнасці, гаворыцца пра тое, як Скарына, з'яўляючыся першадрукаром, у многім ступаў па цаліку, але рабіў гэта так упэўнена, што яго напрацоўкі спатрэбіліся прадаўжальнікам. Дарэчы, наступны раздел так і называецца — "Паслядоўнікі славутага Скарыны" і мае падзагаловак "Развіццё кнігадрукавання ў другой палове XVI — першай палове XVII ст.". Можна даведацца як пра дзейнасць асобных руплаўцаў у справе кнігадрукавання (Сымон Будны, Васіль Цяпінскі, Спірыдон Собаль, Іван Фёдараў, Пётр Мсціславец і іншыя), так і друкарняў: Заблудаўская, Любчанская, братоў Мамонічаў... Аўтар кнігі не абыходзіць увагай і вострых момантаў у гэтай важнай справе, імкнучыся аб'ектыўна ўзнавіць і перадаць умовы, у якіх даводзілася працаваць тым, хто бачыў у кнізе важны сродак адукацыі народа, яго асветы: "Ад паланізацыі да русіфікацыі. Кнігадрукаванне на Беларусі ў другой палове XVII—XVIII ст.", "Пад прыгнётам царскай цэнзуры. Развіццё кнігадрукавання Беларусі ў першай палове XIX ст.". Цікавымі атрымаліся раздзелы "Уздым прыватнага кнігадрукавання. Выдавецкая дзейнасць на Беларусі ў 1861—1900 гг." і "І зноў загучала родная мова. Развіццё кнігадрукавання Беларусі ў пачатку XX ст." Н. Бярозкіна прыходзіць да высновы, што "выдавецкая прадукцыя Беларусі, створаная ў дарэвалюцыйны перыяд, розная па сваім змесце, аб'ёме, мове, мэтавым прызначэнні, паліграфічным выкананні, як неад'емная частка навуковага і культурнага прагрэсу садзейнічала духоўнаму развіццю беларускага народа, адыграла вялікую ролю ў распаўсюджанні адукацыі, культуры, навукі".**

**Юрась ВАЙСЁНАК**

ПАЭЗІЯ

Сяргей ГРАХОЎСКІ



# З розных гадоў

## Адліга

*Пра сонечныя першыя адлігі*
*На прызбе зазванілі капяжы,*
*Набраклыя патрушчаныя крыгі*
*Пабліскваюць на кожным віражы.*

*За бэзавай празрыстаю смугою*
*Паволі асядае мокры снег,*
*Ільдзінкі, нібы бомы пад дугою,*
*Зрываюцца і падаюць са стрэх.*

*Забулькалі на ўзгорках ручаінкі,*
*Нібы хаваючыся ў цень,*
*І мяты леташняй чаінкі*
*У хвалях ловіць вузенькі прамень.*

*Іскрылася, звінела, булькатала*
*Чаканая адліга за акном,*
*Сімфонію вясны з ліста чытала,*
*І роўны рытм адлічваў метраном.*

*Іскрынкі хваляў плавалі па столі —*
*Знікалі і з'яўляліся яны,*
*А сэрца прагла цеплыні і волі*
*Чароўнае блакітнае вясны.*

*На золку раптам страціла адліга*
*Іскрынкі сакавіцкага святла,*
*У змроку недачытаная кніга*
*Упала на падлогу са стала...*

*Я прычакаю ўсё-такі адлігі*
*І першае вільготнай баразны,*
*Няскончаную дачытаю кнігу*
*І дагукаюся вясны.*
*1997*

## Дваістасць

*Рыфмую часам для сябе*
*З уласнай біяграфіі цытаты,*
*Нязводны боль душу дзяўбе*
*У змрочны дзень і ў дзень стракаты.*
*Пра што я сніў, чаго не сніў,*
*Пра што часамі мару і не мару,*
*Анёл неспадзявана пазваніў*
*І голас мне падаў з-за хмары.*
*Дапытваўся, як мы жывем,*
*Ці сэрцам і душой багаты.*
*Я ж застаюся глух і нем,*
*Маўчу, нібы Хрыстос распяты.*
*Ну, што яму я адкажу?*
*Не па напісанай паперцы*
*Казаць, што лёс праклаў мяжу*
*Праз нашы змораныя сэрцы.*
*За ёй — трывога і любоў,*
*Сустрэчы, горкія разлукі,*
*След пацалункаў і зубоў*
*Ад радасці і доўгай мукі.*
*Усё змяшалася ў жыцці, —*
*Салодкі хмель і горкі солад,*
*Не разбяру — куды ісці,*
*Як наталіць душэўны голад.*
*Дваістасць за мяжой і без мяжы*
*Спрачаюцца з сабою — вочы ў вочы:*
*То блізкі я, то сам сабе чужы...*
*Што ж мне анёлу адказаць уночы?*
*Спрачаецца са мной мая душа —*
*То я на ўзлёце, то ў падзенні,*
*Чаргуецца з праклёнамі імша,*
*Як з новым старасвецкае адзенне.*
*Усё разгадаць спрабую давідна*
*У часе красавання і нягоды,*
*Каб у мяне была душа адна,*
*Адкрытая і чыстая заўсёды.*
*10/V—99*

# Паводле народнага

## Люба

*Азавіся, дарагая,*
*Не таіся, не маўчы,*
*Бо сустрэнецца другая*
*Надвячоркам ці ўначы.*
*Спыніцца і ўсміхнецца,*
*Паглядзіць і не міне,*
*Скажа, як яна завецца*
*І спытае у мяне.*
*А ты ж — Люба, Любачка,*
*Любая галубачка,*
*У цябе палаюць вочы,*
*Нібы зоркі сярод ночы,*
*Бачаць кожнага наскрозь,*
*Толькі сэрца не марозь.*
*Пойдзем удваіх паволі,*
*Абдыму твой тонкі стан,*
*Нас укрые ў жытнім полі*
*Срэбным вэлюмам туман.*
*А у Любы-Любачкі,*
*Як суніцы, губачкі,*
*Спелыя, салодкія,*
*А вечары кароткія.*
*Каб зрабіліся даўжэй,*
*Стала б Люба даражэй.*
*Ой, як шкода, што світае.*
*Поўна ў жыце спарышоў.*
*Побач Люба, як святая,*
*І святы цябе знайшоў.*
*1996*

## Любая мая

*Што ж ты выстудзіла хату,*
*Любая мая?*
*Хоць сягоння і не свята,*
*Завітаю я.*
*Не скакалі і не пелі*
*Мы з табой даўно.*
*А каб дзверы не рыпелі,*
*Адчыні акно.*
*Мы скакаць і пець не будзем,*
*Божа барані,*
*Тату з мамай не разбудзім,*
*Толькі адчыні.*
*Нештачка скажу на вушка,*
*І дамоў пайду,*
*А захочаш спаць, падушку*
*Ціха падкладу.*
*Хоць сцюдзёна ў хаце будзе,*
*Я не задрыжу,*
*Покуль певень не разбудзіць,*
*Ціха паляжу...*
*Пеўні тройчы пелі ў згодзе*
*Пра любоў сваю.*
*Я ж, як пудзіла ў гародзе,*
*Пад акном стаю.*
*1996*

## Развядзёнка

*Белы тонкі кужаль*
*На вячорках пралі.*
*І я мела мужа...*
*Як жа яго звалі?!*

*Я цвіла, як ружа,*
*Як рабіны гронка.*
*Не ўтрымала мужа,*
*Стала развядзёнка.*

*Мужа я паклічу,*
*Бо даўней любіла,*
*Толькі вось аблічча*
*І як зваць забыла.*

*Мы хадзілі пешкі*
*У зялёным жыце.*
*Вы яго да сцежкі*
*Клікнуць памажыце.*

*Тая сцежка стала*
*Бітаю дарогай.*
*Я гукаць прыстала,*
*Лепш знайду другога.*
*1996*

#Назіранні

**НАРОДНАЙ АРТЫСТЦЫ ЛІЛІІ ДАВІДОВІЧ**

*І Ліля — белая лілея*
*Ўжо дарасла да юбілею.*
*Над Вамі не ўладарыць час,*
*А калі ўсходзіцца завея,*
*Святло з цяплом ідуць ад Вас.*

**УЛАДЗІМІРУ СКАРЫНКІНУ НА КОЖНЫ ДЗЕНЬ**

*Нікому не адкрыю навіны,*
*Што ты — нашчадак Скарыны:*
*У кожнай кнізе, ў кожным томе*
*Ёсць чутае у вечным нашым доме.*
*Не выйдзе толькі камерсанта*
*З палоннага і Байрана, і Дантэ.*

●

*Таленавітых лаюць і караюць,*
*Пакуль яны не паўміраюць,*
*А як труну зямлёй заваляць,*
*Магчыма, ўспомняць і пахваляць.*

●

*Адзін дзівак камісію усю*
*Хацеў перакАнаць, узяўшы слова,*
*Што непатрэбен помнік Кастусю,*
*Паставіць лепей Мураўёву.*

●

*І той пакутуе, хто ведае, што хлусіць,*
*Хоць і маніць не хочацца, а мусіць,*
*Каб мець ікру, бананы і мачанку,*
*За абяцанкай сыпле абяцанку,*
*Бо дбае аб выгодах і зарплаце,*
*А загадаюць, — адрачэцца маці.*

●

*Шукаюць мафію з надзеяй*
*Знайсці у "хазах" ці ў буфетах,*
*Але ж няўлоўныя зладзеі*
*Сядзяць у цёплых кабінетах.*

●

*Грошы — самы страшны вораг,*
*Асабліва не свае,*
*Імі пахне нават порах,*
*Што і роднага заб'е.*

●

*Ты — не прарок і не святы,*
*Каб думалі усе, як ты.*

## Попавая музыка

*Не пачую людскай песні, —*
*Толькі вэрхал без'языкі.*
*Барабан бадай што трэсне,*
*І пападаюць музыкі.*

●

*Ты чаму баішся праўды,*
*Разгадаць святар не змог?*
*Вінаваты ты ці праў ты,*
*Скажуць людзі, скажа Бог.*

●

*Хто ведае, чыя віна,*
*Што кожны дзень расце цана.*
*Страйнеем мы і маладзеем,*
*Бо ўсе штодзённа багацеем.*
*Здаецца, рынак стаў шалёны,*
*Што лічыць толькі на мільёны,*
*А як закрэслілі нулі,*
*Ізноў заселі на мялі.*

●

*Памаліцеся д'яблу ці Богу,*
*Каб ніколі не гнуцца ў дугу,*
*А таму не хадзіце не ў ногу,*
*Крочце толькі, як я, у нагу.*

●

*На плошы Коласа да рання*
*Юнацтва шэпча пра каханне,*
*А я, нібы жывыя мошчы,*
*Ад зайздрасці ўцякаю з плошчы.*

●

*Я гавару, як перад смерцю,*
*У сталыя свае гады,*
*Каб плакалі і рагаталі чэрці,*
*А праведнікі верылі заўжды.*

●

*Друг мой тонкі, друг мой звонкі*
*І даўно чужы для жонкі.*
*1996—2000*

## Ліст самому сабе

*Ну, як мне да сябе звярнуцца,*
*Шаноўны, паважаны, дарагі?*
*Ніяк не трэба.*
*Лепей азірнуцца,*
*Каб зразумець, што стаў зусім другі,*
*Самім сабой не надта шанаваны,*
*Не кляты і не хвалены людзьмі,*
*Хоць і не жаліўся на лёс наканаваны*
*З адмецінамі пекла і зімы.*
*Было ўсяго, і ўсё даўно мінула,*
*За квадрай квадра пакідала след:*
*То раптам радасць праімчыцца з гулам,*
*То глушыць цішыня, як запавет,*
*Якім жыву, і што заўсёды помню,*
*І сам сабе, і людзям не хлушу,*
*Каб штучныя не asляпілі промні*
*Наіўную і грэшную душу.*
*Сабе цану я ведаю да грама,*
*Не жыў і не жыву ніколі напавер.*
*Была маім сумленнем толькі Мама.*
*Яе няма, а судзіць і цяпер,*
*Калі пажалюся,*
*што шчасця мала,*
*Што нечага заўсёды не стае.*
*Я ўспамінаю, што б яна сказала,*
*Прасцёршы рукі цёмныя свае*
*У пісягах, у мазалях і ранах,*
*А ў кожнай рысцы — боль і чысціня.*
*Убогіх, жабракоў і пакараных*
*Яна прымала, як радню радня.*
*З усіх навук — адна яе навука,*
*Якою даражу, як даражыў,*
*І каб па ёй заўсёды ўнук унука*
*За нас і за сябе шчасліва жыў.*
*І перадаў наступным пакаленням*
*Навуку Акадэміі сумлення.*
*Дзень набліжаецца апошні*
*ў гэтай хаце,*
*Калі ступлю за незваротную мяжу,*
*Зірнуўшы ў вочы Вечнай Маці,*
*На роднай мове*
*"Я — твой сын", — скажу.*
*Травень, 2000 г.*

ВІНШУЕМ!

# Адольфу ВАРАНОВІЧУ — 60

***Надзіва багатая на таленты нарачанская зямля дала жыццё і пісьменніку, мастаку Адольфу Варановічу. Нарадзіўся Адольф Усцінавіч 15 чэрвеня 1940 года ў вёсцы Мікольцы Мядзельскага раёна ў сялянскай сям'і. У 1957 годзе скончыў Мядзельскую сярэднюю школу і паступіў у Мінскае мастацкае вучылішча. Атрымаўшы ў 1960 годзе дыплом, працаваў у мастацкай майстэрні Аршанскага льнокамбіната мастаком па тканінах, а таксама выкладчыкам у дзіцячай мастацкай школе. З 1989 года жыве ў Мінску. Быў членам сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі Дзяржаўнага камітэта БССР па тэлебачанні і радыёвяшчанні. Цяпер — рэдактар аддзела прозы часопіса "Полымя". Як і многія пісьменнікі, пачынаў з вершаў. Праўда, прапаноўваць іх у друк не спяшаўся і яны былі надрукаваны толькі ў другім нумары часопіса "Першацвет" за 1998 год. А першыя апавяданні апублікаваў яшчэ ў 1970-ым. А. Варановіч — аўтар кніг прозы "Высокі падмурак" (1978), "Агні хат" (1986), "Жывая душа" (1993). У выдавецтва "Юнацтва" здадзены рукапіс зборніка апавяданняў "Патрывожаныя кнігаўкі".***

***Віншуем Адольфа Усцінавіча з юбілеем! Зычым яму далейшых жыццёвых і творчых поспехаў!***

Адольф ВАРАНОВІЧ

# СУТОННЕ АСЕННЯГА ДНЯ



АПАВЯДАННЕ

Позняя восень шапацела пад вокнамі кашлатым пажоўклым лісцем клёнаў, шпокала буйнымі рэдкімі кроплямі дажджу па лужах на асфальце і па бляшаных адлівах пад вокнамі, прыціскала горад беспрасветнымі шэрымі хмарамі. На душы ў Аркадзя было самотна. Ды і чаго весяліцца ці радавацца, калі табе во-во спаўняецца шэсцьдзесят, на пенсію самы час збірацца, бо маладыя падціскаюць, а ты як быў гол-сакол, так і застаўся, нічога не зарабіў у дзяржавы, ні кватэры, ні грошай, хоць стажу, як гавораць, сорак тры гады. Ды што той стаж! Працаваў ён усё жыццё: ужо па заканчэнні пятага класа ў час летніх канікулаў раненька бег на поле, лавіў каня, пасля на ферме запрагаў яго і цэлы дзянёк вазіў то сена, то канюшыну. Накладваць памагалі жанчыны, дзяўчаты, а ён раскладваў сена шырэй, прытоптваў яго, так-сяк уціскаў воз парубнём і, баючыся перакуліцца на калдобінах, ехаў на ферму. А там трэба было падаць сена на торп. З кожным пластом, з кожным рыўком ён рабіўся вышэй і вышэй. Ажно жывот зводзіла ад натугі. Проста дзіўна, як не надарваўся ў маленстве, як кілу не нажыў. Ды што ўспамінаць дарэмна! І сорак тры гады працы — таксама нямала. А цяпер вось чакай, колькі дзяржава "адважыць" табе той пенсіі, на колькі буханак хлеба, які даражэе ледзь не кожны месяц.

Вось жа бывае такая несправядлівасць на свеце: хто-ніхто пражыве жыццё гуляючы, без натугі, без напругі, а глядзіш — усюды паспеў, усюды ўхапіў. І хоць бы вялікім розумам ці здольнасцямі быў адораны Богам — дык не. У школе з двойкі на тройку перабіваўся, у інстытуце, куды ўвапхнулі бацькі за мёд, рыбу, каўбасы, ці ў рэшце рэшт за грошы, якія ўсучылі праз знаёмых таму, каму трэба, ніводнай курсавой работы сам не зрабіў, а праз некалькі гадоў раптам чуеш, што ён ужо вялікі начальнік, людзьмі камандуе, вучыць, ды што — вучыць! — указвае, загадвае, як ім трэба жыць. Можа, таму ў нас і жыццё такое дурное? Бо каб па-разумнаму ўсё рабіць, ці ж так мы павінны жыць! І яшчэ што дзіўна, як дарвецца каторы да ўлады, то ніякімі сродкамі яго адтуль не выкурыш, у дзве рукі за вушы не адцягнеш. Пляваць яму, што людзі стогнуць і плачуць ад галоднага жыцця, ад уціску, ад безнадзейнасці. Яму толькі дай кіраваць. Хоць у прорву, хоць у баздонне, але ўсё роўна ў светлае будучае, бо ён лепш за ўсіх ведае, дзе яно знаходзіцца. Другую работу ён рабіць не можа і не жадае.

Як у тым анекдоце. Ходзіць "тройка" па заводзе: дырэктар, сакратар парткома і старшыня прафкома. Падыходзяць да рабочага, які ля станка стаіць. Дырэктар весела пытае:

— Скажы, Пятроў, а вось як шклянку гарэлкі вып'еш — зможаш працаваць?

— А чаму ж не. Змагу.

— А калі дзве? — падступае сакратар парткома.

— Змагу. Толькі закусіць трэба.

— А калі тры? — дацiскаецца старшыня прафкома.

— Тры? — чухае патыліцу. — Не, працаваць не змагу. Змагу толькі, як вы, кіраваць...

Аркадзь усміхаецца, уявіўшы такую сцэнку, але ўсмешка атрымліваецца бязрадаснай. Ён устае з канапы, адчыняе дзверы на балкон. У шафы знаходзіць прыхаваную пляшку віна, якое і віном цяжка назваць. Раздумвае: выпіць якую шклянку ці не? Можа, палягчэе на душы? А то нешта так сціснула яе, бедную. Жонкі няма дома і, відаць, сёння не паявіцца. Моду ўзяла: ледзь толькі ўчуе гарэлачны смурод — а чуе яна яго за кіламетр — ці што іншае не па-ейнаму, круць — і да маці. І там ужо разам бядуюць-гаруюць, як ёй не пашанцавала з Аркадзем. Маці старая, слабая, памагаць то трэба, але ж не праседжваць там днямі. А яму да каго ісці, каму жаліцца? Бацькі даўно памерлі, браты далёка. Адзін-адзінюткі. Дзіва-дзіўнае: у такім мурашніку, як сталічны горад, яго апошнім часам усё часцей апаноўвае адзінота. У родных мясцінах, асабліва ў лесе, па якім любіў блукаць перадасеннай парой, адзінота яго не гняла. Толькі лёгкі і светлы сум аб пражытым жыцці напаўняў душу.

Калісьці маці расказвала ім, малым, пра сваю маладосць. Адразу са слязьмі, а пасля і з усмешкай прыгадала і такое:

— Бацьку свайго, дзеткі, а вашага дзеда, помню слаба. Сем гадкоў мне было, калі ён загінуў. Капалі студню і наткнуліся на вялізны камень. Да палавіны ўжо выкапалі, ці болып. Не кідаць жа. Бацька падкапаў той валун, надзейна аплёў яго вяроўкамі. Яму б вылезці са студні, а ён не здагадаўся. Мужчыны наверсе сталі цягнуць-падымаць той камень, вяроўкі разышліся, камень сарваўся і прыціснуў бацьку. Тры дні ён памучыўся і памёр. Малады яшчэ. Мяне гадаваў, падымаў на ногі дзядуля. Харошы такі, ласкавы. Любіла я яго моцна. І ён мяне песціў, як мог. Была я ў яго такая ўнучка-пястушка. І замуж ён мяне выдаваў. А выйсці замуж — трэба знаць: позна легчы, рана ўстаць. Цяжка было прывыкаць: чужая вёска, незнаёмыя людзі. Я маладзенькая зусім, пад дзядулевым крылом расла. А тут аднойчы бацька ваш, дзеткі, дужа крута са мной абышоўся. Я ў слёзы і подбегам у сваю вёску кіламетраў за дзесяць. Да дзядулі, пажаліцца. А тут якраз — вось і ён. З двара выязджае ў калёсах. Убачыў мяне, быццам бы і ўсміхнуўся адразу. Я зноў зараўла і з пятага на дзесятае пачала яму расказваць усё. Ён паслухаў, што да чаго, потым злез з калёс і пужкай, якую трымаў у руцэ, па спадніцы мяне, па спадніцы. "А я ж цябе, — кажа, — не для гэтага замуж аддаваў, каб ты сюды бегала жаліцца! Трымайся аднаго парога, тады нейкі толк будзе. У цябе муж ёсць, ёсць каму жаліцца цяпер. Пара сталець!" Я і плакаць перастала. Крутанулася на адной пяце — і назад. Укрыўдзілася моцна: гэта ж трэба, мой любімы дзядуля, які мяне і пальцам ніколі не кранув, мяне — пужкай! Як ад вёскі адышлася, слёзы ракой хлынулі. Цяпер ужо ад крыўды на дзядулю. Апошнія яго словы наўздагон у вушах гучалі: "Прыязджай на брычцы і ўпоплеч з мужам — самай дарагой госцяй будзеш!" Пакуль вярталася назад, слёзы выплакала, супакоілася. За серп — і ў поле. Больш не бегала. Адвучыў...

На зашклёным прасторным балконе шум дажджу чуваць выразней. Аркадзь глянуў уніз. Абмінаючы лужыны, па асфальтаванай дарожцы ішла старэнькая бабуля, цяжка абапіраючыся на кіёк. "Вось маё будучае, — нявесела падумаў Аркадзь. — Адзінота і старасць". Дрыжыкі працялі цела, нават тут, на балконе, веяла сырасцю асенняга дня. У цёплую пару года ён любіў пасядзець тут, пачытаць кнігу ці які артыкул. Афіцыйных газет не выпісваў і не чытаў: прапала цікавасць да іх.

Кароткі асенні дзень згасаў, на зямлю насоўвалася сутонне. Гэтую кватэру, дзе ён адчуваў сябе квартарантам, жонка прыватызавала і перапісала на свайго дарослага сына ад першага шлюбу. Цяпер яна ўсё часцей і часцей намякала Аркадзю, што яму пара перабірацца ў вёску, у старую бацькоўскую хаціну, што ўжо некалькі гадоў пуставала. А ў аднапакаёўцы ўсім будзе цесна, бо ў сына дзеці падраслі, і ён з імі хоча пасяліцца тут. А гэта так трэба разумець: вось Бог, а вось табе парог. Па выхадзе на пенсію можна было б і пераехаць. З вёскі ён выйшаў, у вёску і вернецца, зрабіўшы вялізны круг па жыцці, нічога страшнага. Калісьці ў маладосці ён ад'язджаў з роднай хаты, поўны светлых надзей і спадзяванняў, на вучобу ў сталіцы, і праводзіла яго маці са слязьмі на вачах, пахмурны бацька, незадаволены, што дзеці разлятаюцца з роднага гнязда, і меншы брат, які неўзабаве таксама пакінуў бацькоўскую хату. А хто яго сустрэне цяпер? Ціха там да жудасці, пустая прыземістая будыніна, у якой нікога няма. Адзінота. Сумотная адзінота і старасць. Бо ці паедзе ў вёску з ім жонка, як стане яна разрывацца паміж ім і старой хворай маці з унукамі? Наўрад. Аднойчы ён спытаў яе пра гэта. Яна сказала няпэўна: я буду прыязджаць да цябе. А, можа, у яе якія іншыя планы, пра якія яна пакуль маўчыць? Усё, усё ў гэтым жыцці можа быць. "А што рабіць, — сказала яна, — калі так складваюцца абставіны?"

Аркадзь адчуваў сябе нікому не патрэбным, бачыў, што ён многім замінае: замінае таму маладому і, як сказалі, вельмі таленавітаму і перспектыўнаму чалавеку, якога нядаўна ўзялі на працу. Такое адчуванне, што ты яшчэ жывы, а долакапальнікі — вось яны, ужо тут, глядзяць на цябе з дакорам штодня і чакаюць. Замінае жонцы і яе сыну з унукамі. Пагэтаму і прыдзіркі такія да гарэлачнага паху, які, што граху таіць, апошнім часам нярэдка патыхае ад яго. Вось толькі дзецям сваім зусім не замінае, якія пакінулі яго і забылі пасля таго, як ён развёўся з іх маці. Яму ж не трэба іхняя дапамога, сам як-небудзь будзе ногі перастаўляць. Толькі б ведаць, дзе яны і што з імі. Дык не. А ён жа іх гадаваў, вучыў, на ногі ставіў. Значыць, не навучыў. Адзінота...

Аркадзь акуратна зачыніў балкон, прайшоў на кухню, не запальваючы святла, паставіў пляшку на стол, з шафкі дастаў шклянку, у халадзільніку пашукаў, чым бы закусіць. Тое-сёе знайшоў. Забыўшыся, задумаўшыся, дастаў яшчэ адну шклянку, пасля спахапіўся, але прыбіраць не стаў. Адкаркаваўшы бутэльку, цыркнуў і ў другую, на самае донца.

— Ну што ж, Ніна, — звярнуўся ён да жонкі, быццам яна была тут, а не ў маці, — жыццё ўсё расстаўць на свае месцы. Усіх рассудзіць.

Дзвынкнуў аб край другой шклянкі сваёй, поўнай і выпіў. Пачаў бяздумна жаваць халодную катлету. У кватэры зусім сцямнела, стаяла цішыня, ажно звінела ў вушах. Толькі з вуліцы даносіўся ледзь улоўны шолах. У вокнах дома насупраць запаліліся агні. У незашторавым акне бачна было, як мітусіцца вёрткая кабета па кухні, ставячы на стол талеркі, як прыйшоў з другога пакоя мужчына ў майцы, абхапіў яе за стан і пацалаваў, а яна адхінулася на імгненне і, смеючыся, зашморгнулазанавеску. Аркадзь яшчэ наліў віна, задумліва і сціснана пасядзеў над шклянкай, потым зноў выпіў. Туга сціснула сэрца і не адпускала. Было крыўдна і балюча. "А што калі адным разам, адным, як кажуць, махам узяць і падвесці рысу?" — падумалася знячэўку. Аркадзь паспешліва адагнаў

(Працяг на стар. 14—15)



*Лясная дарога.* Акварэль А. ВАРАНОВІЧА.

## Зямляк Коласа ў Коласавым доме

**Дзверы Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа заўсёды гасцінна адчынены для шматлікіх наведвальнікаў. Часта адбываюцца ў Коласавым доме і**



**сустрэчы з вядомымі беларускімі пісьменнікамі. Гэтым разам ва ўтульнай гасцінай настаўнікі школ Мінскага раёна сабраліся на прэзентацыю гістарычнага рамана-хронікі лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Генрыха Далідовіча "Кліч родага звона", выпушчанага выдавецтвам "Юнацтва" асобнай кнігай. Тым больш прыемна было, што на сустрэчу прыйшоў і сам аўтар, які, як вядома, з'яўляецца галоўным рэдактарам часопіса "Маладосць", шмат робіць па падтрымцы маладых талентаў.**

**Прысутным было цікава паслухаць расказ Генрыха Вацлававіча пра яго жыццёвы і творчы шлях, пра сяброўства і творчае супрацоўніцтва з Міколам Ермаловічам, які, па словах Г. Далідовіча, і блаславіў яго на стварэнне рамана-хронікі "Кліч роднага звона". Генрых Вацлававіч падрабязна пазнаёміў і са шляхам, пройдзеным М. Ермаловічам. Настаўнікам цікава было даведацца, што цяпер Г. Далідовіч збіраецца напісаць кнігу пра сучасны горад, у планах і твор пра Грунвальдскую бітву. А паколькі настаўніцам вельмі спадабалася яго кніга "Жар кахання", паабяцаў працягваць гэты цыкл.**

**Эльвіра ЯРЧАК**

*Фота Сяргея ЛУК'ЯНАВА*

## "Роднае слова", N 4

**У раздзеле "Школа і нацыянальнае Адраджэнне" змешчана выступленне дырэктара Мінскага педагагічнага каледжа імя Максіма Танка М. Палешчука "На Беларусі рэформа адукацыі наспела гістарычна". У сувязі з 60-годдзем У. Мархеля слова прамаўляюць Г. Кісялёў ("Прафесіяналізм, шматграннасць") і І. Базылёнак ("Талент вяртаць з небыцця"). Тут жа змешчаны артыкул самога У. Мархеля "У руху імклівага і неразборлівага часу", у якім расказваецца пра кантакты А. Ельскага з беларускімі пісьменнікамі. Пра паэзію А. Письмянкова ("Трэба капаць крыніцу...") разважае А. Яскевіч. Артыкул дапаўняюць вершы паэта. А. Кіркор як гісторык беларускай літаратуры ў цэнтры ўвагі І. Запрудскага ("Ля вытокаў беларускага літаратуразнаўства"). Паэтыка барока ў прадмовах Льва Сапегі да Статута Вялікага княства Літоўскага 1588 г. зацікавіла Т. Алёхну ("...Абы вольности уживати могли"). А тэма артыкула Т. Старасценкі "...У свеце сонечным і сівым..." — стылістычныя фігуры, заснаваныя на антонімах і сітуацыйна супрацьпастаўленых словах, у паэзіі А. Разанава. Прапануюцца заканчэнне артыкула Л. Тарасюк "Набліжэнне да Багушэвіча", працяг артыкула Р. Стаховіч-Ларчанкі "Буду сніць і днямі і начамі", матэрыялы У. Содаля пра Ф. Багушэвіча "Як я толькі нарадзіўся...", артыкулы Б. Платонава "Як пачалася беларусізацыя", Н. Усавай "Мастак і ўлада: Якаў Кругер — беларускі Жэрар?", В. Нячай "Жанчына — каханне — лёс у беларускім кіно", Т. Шамякінай "Старажытная Палесціна і станаўленне хрысціянства", Л. Масягінай "Драўляная хата — традыцыйнае жыллё беларуса". Вядучы рубрыкі "Літаратурны вятраз" М. Скобла прадстаўляе І. Чыгрына-паэта. Можна пазнаёміцца з песнямі Д. Даўгалёва і У. Пецюкевіча.**

ВІНШУЕМ!

# Ён ёсць

### З НАГОДЫ ЮБІЛЕЮ Валянціна АКУДОВІЧА

МЯНЕ НЯМА — яшчэ нядаўна мог заяўляць ён, мабыць, маючы на ўвазе не толькі філасофскі, але і ўласна творчы аспект некаторых праблем чалавечага жыцця.

І напраўду, у сённяшнім афіцыйна-літарацкім свеце яго як бы й няма. Як, дарэчы, няма сумневу і ў тым, што ён абавязкова будзе ў нашым наступным літаратурным свеце...

Ды й не мог чалавек, нарадзіўшыся ў Свіслачы і скончыўшы там школу імя Кастуся Каліноўскага, абсалютна так запрасці, каб ужо ні ў якім свеце не выплысці і хоць якім чынам не выявіцца. Безумоўна, што праз пэўны час ён "вынырнуў" у той жа Свіслачы, але ўжо ў Мінску...

Аднак да гэтага ўсплыцця было нялёгкае шматгадовае плаванне ў аўтаномным рэжыме...

І сёння ён добра памятае той час, калі ў яго родным мястэчку Свіслач, што на Гродзеншчыне, выпякалі напрыканцы шасцідзесятых вельмі смачны жытнёвы формавы хлеб. Цёплы, свежы, што забіваў пах любога чарніла... Вось яго і развозіў ён па вясковых крамах, працуючы пасля школы экспедытарам. Добра дабраўшы здароўя на тым хлебе, а ўрэшце і адчуўшы яго цяжар на сваіх руках, выправіўся ён "у свет" шукаць "лёгкага хлеба".

Напачатку аббіваў пальцы, працуючы слесарам на Мінскім маторным заводзе... Сышоўшы адтуль на службу ў мірнае на той час савецкае войска, усё ж не даў рады ўхіліцца ад асколкаў разарванай гранаты, за што і быў камісаваны з медалём "За воинскую доблесць" на грудзях і... цёмнымі акулярамі на твары... Ці не з той драматычнай пары свет для яго стаў набываць розныя адценні? Пасля войска — зноў той жа завод, дзе сам чорт нагу зломіць, а чалавек — пераступіць... Жалеза, аднак, — яго галавой не пройме...

Цягнула ўвысь, у горы... І — ён пайшоў... Раз, другі, трэці... — і стаў "майстрам спорту СССР" па турызме. Ведама, што падчас доўгіх пераходаў ды начлегаў на туманных перавалах чалавек мужнее, набіраецца сівой мудрасці і ўзвышаецца не толькі ў чужых, але і ў сваіх уласных вачах. А яшчэ ён пачынае разумець, што туды — НАЙВЫШЭЙ, дзе ўжо ёсць АДЗІН, не дойдзеш, а калі б і дапнуў, то што рабіць двум на адной вяршыні?!

Як там у яго, пасля, пазней напісаных, "Дыялогах з Богам": "На каменных скрыжалях Майсей высек не дамову з Табой, а першую літаратурную містыфікацыю. Ён затлуміў нам галаву універсальнай метафарай, і ніхто не даўмеўся запытацца Майсея: навошта Богу твая пісанка? Цябе самога пытацца дарэмна. Ты — маўчыш. Твой сховах у бязмоўі. Ты — толькі падстава для дыялогу..."

Але, каб весці альбо хоць паспрабаваць пачаць "раўнапраўны" дыялог з Богам, адной прыроджанай кемлівасці і таленту мала. Трэба яшчэ мець вопыт жыцця, досвед у мастацтве ды вышэйшую класічную адукацыю.

Пяць гадоў спасцігаў ён яе ў Літаратурным інстытуце ў Маскве, зваддо адбываючы працоўную рату ў вядомым літаратурна-мастацкім часопісе "Знамя"... Прапаноўвалі, дарэчы, застацца назусім, "сватаючы" чатырохпакаёвую плошчу з прыстойным "пасагам"... Ну чыё парнаскае сэрца тут не дало б збою?! Але — не яго. У тых, хто адужаў не адну гару, сэрца б'ецца роўна.

І ён вярочаецца назад — на радзіму, у Мінск, каб шэсць гадоў запар **працаваць** вартаўніком...

Тут і заспела яго перабудова, якая неўпрыкмет пачала ўносіць свае карэктывы ва ўжо адладжаную, здавалася, у душы і ў сэрцы ўласную светабудову. Згаладалы на той час і ледзь чутны нацыянальны голас: а ці не з'ездзіць мне на "акцябрскія" да мамы па бульбу?, пачаў абрастаць іншымі інтанацыямі, акцэнтамі ды перарухамі, дагукваючыся, у рэшце рэшт, да родавага, крэўнага, і краёвага... (То на кладах у родным мястэчку Свіслач праз столькі гадоў, раптам, **знаходзіцца** магіла старэйшага брата Кастуся Каліноўскага; то **аднекуль** ярка ўзнікае перад ваччу беларуская гістарычная бел-чырвона-белая сімволіка; то сонна варухнуцца ў настылых грудзях, даўно прысланы там, калісьці родныя словы: спадар і гонар...).

Пратэст і нязгода са звыклым ды абрыдлым пачынаюць спакваля перапаўняць яго душу і выплёсквацца вонкі. (Здаецца, яшчэ зусім нядаўна, рэдагуючы "Дзяды" Адама Міцкевіча ў перакладзе Сержука Мінскевіча, зачапіўшыся розумам за даўнюю згадку, ён пачаў **расказваць на памяць** нашы "Дзяды-88-га"... Сваё не забудзеш!..).

Так, ашчадна выкрышталёўваючыся, пачалі вынікаць, выціскацца з яго духовай прасторы **выпарыны** неардынарных тэкстаў. Нібыта пяршак, яны абпальвалі нутро, хмялілі розум, імгненна ўспыхваючы агнём сяброўскай палемікі альбо **затушваліся** едкай пенай крытычнага неўспрымання...

Я ўжо не памятаю ўсіх яговых тэкстаў той пары ды і сам ён намагаецца некаторыя з іх забыць, як чалавек свае самыя патаемныя грахі пасля споведзі ў духоўніка...

Літаратару і мысляру ў гэтым сэнсе цяжэй. Напісаныя, а тым больш выдрукаваныя тэксты "не замоліш" і назад не забярэш. Таму іх "грахоўнасць, мастацкую недасканаласць і слабіну" можна хіба толькі "забыць" альбо "выправіць" новымі, больш дасканалымі тэкстамі. Аднак — няма мяжы дасканаласці... Таму — творца **асуджаны**, прыкладна так, як Сізіф з каменем у яговым вядомым эсэ.

"Вечнае вяртанне непазбежнае, бо ўсе вяршыні занадта нізкія для чалавека, усе адлегласці занадта кароткія — і таму ўсялякі раз, калі чалавек заходзіць так далёка, што наперадзе ўжо нічога няма, яму даводзіцца вяртацца. Так ён вяртаўся, скінуўшы камень егіпецкай цывілізацыі, так будзе вяртацца, скінуўшы крыжападобны камень хрысціянскай цывілізацыі, як толькі перачакае на вяршыні морак страты сэнсу..."

З 1991 года ён актыўна ўключаецца ў літаратурны і культуралагічны беларускі дыскурс. Праца ў тыднёвіку "Культура", дзе не без яго намаганняў пачынае перыядычна з'яўляцца **сшытак ЗНО**, з новымі, нетрадыцыйнымі поглядамі на свет, літаратуру і грамадства...

А хто сёння не ведае постмадэрновай суполкі Бум-Бам-Літ з іх замарочнымі перформансамі і іх барадатага бацьку?!

Ён жа быў *акушэрам* і пры цяжкіх родах новай "Крыніцы", якая, на вялікі жаль, згасае сёння на яговых вачах... Адно з лепшых інтэлектуальных ці, як многія **яшчэ нядаўна казалі**, элітарных выданняў рэспублікі. Колькі сіл тут пакладзена і здароўя! Колькі разумовых звілін выпрасталася і галасавых звязак лопнула?! І вось — фінал...

Не абышлі яго тэксты і штотыднёвік "ЛіМ", з якім ён пэўны час даволі грунтоўна супрацоўнічаў. Асабліва помнае яго эсэ "Архіпелаг Беларусь", перакладзенае за мяжой, назоў якога зрабіўся настолькі ходкім, што з часам забыўся на свайго аўтара.

А між іншым, ён у сваім, вышэйзгаданым, тэксце якраз і рабіў акцэнт на тым, што "менавіта на прасторы грамадска-культурных выданняў і кніг, беларусы сфарміраваліся як нацыя. І сёння мы застаёмся нацыяй не дзякуючы палітычным рухам і фармальна незалежнай дзяржаве, а зноў жа дзякуючы таму, што існуе Беларускі Тэкст. Магчыма, знешне гэтая тэза выглядае залішне радыкальнай, але, я думаю, яна такой не падасца кожнаму, хто заглыбіўся ў яе сутнасць. Вось чаму адказнасць за лёс Беларусі шмат у чым ляжыць на Беларускім Тэксце, а значыць, і на кожным персанальна, хто гэты тэкст фармуе".

Больш таго, жывучы ў гэткай дзяржаве, адстойваючы яе гістарычную прошласць і, па меры магчымасцяў, набліжаючы яе непазбежную будучнасць, мала адно толькі стварыць мастацкія альбо публіцыстычныя тэксты, — іх трэба ўмець прапагандаваць і "даносіць".

"Быць — каб памерці. З гэтай перспектывы выпаўзае гнятлівы смутак — халодная вужака вусцішнасці пасялілася за пазухай еўрапейскага чалавека, і ва ўсёй пагрозлівасці паўстала пытанне: а навошта тады быць? Каб жыць! — пераконваў Камю. Смерць — канец усяму, але так, як канец, яе і трэба ўспрымаць, не губляючы з гэтай акалічнасці мужнасці і адвагі ("Абсурд — гэта ясны розум, які ўсведамляе свае межы"). Яшчэ адна вытрымка з яго эсэ пра Альбера Камю.

Сёння ўжо ніхто не возьмецца аспрэчваць мяне, калі я скажу, што менавіта ён паглыбіў цікавасць беларусаў да нацыянальнае філасофіі, апрацаваў яе "вышэйшалцонай" літаратурнай мовай і аздобіў "гжэчным" стылем, зрабіў больш чытэльнай і даступнай для душы і розуму паспалітага чалавека.

Як я ўяўляю, то ўсяго філасофская **логіка** і **алагічнасць мыслярца** ад супроцьлеглага. Ад вялікага і ўбранзавелага — да бессэнсоўнага і абсурднага. Яго тэксты адносна жыцця і творчасці такіх выбітных мысляроў як Камю, Кіркегар, Ніцшэ, Бахцін, Конан і Стральцоў — палемічныя на корані. Ён не дазваляе сабе слабіні — *мысліць*



малавядомымі альбо малазначнымі асобамі; ён мысліць толькі вялікімі катэгорыямі, каб самому, як той птушцы Фенікс з попелу, паўстаць у свой поўны рост на іх зачытаных і зацёртых **паліпмпсестах**, шукаючы там коснасці альбо няпэўнасці, замшэлага канону альбо растыражаванай афарыстычнасці, каб не толькі знайсці зачэпку для чарговай палемікі, але падчас, нечакана і для самога сябе, прасунуцца на які крок далей за іх, наперад ведаючы, што ўсё адно, як і яны, вернецца да пачатку...

Не застойваючыся сам, ён заадно расварухвае і нашую ментальную застаяласць. Адсюль і вядомая палеміка з хрысціянскай міфалагемай Уладзіміра Конана ў звязку з яго шырока агучанай канцэпцыяй "Сусветнага Дрэва Жыцця".

"Ва ўсе папярэднія часы **дрэва** паслугавала толькі жыццю і само было гэтым жыццём. Калі яно і ссякалася, то каб будаваць хаты, вялічыць ляда, масціць гаці, майстраваць калыскі і вазы — адным словам зноў жа здзяйсняць волю волі да жыцця, якое такім чынам церабіла сцежку ў наступнасць. І толькі хрысціянства, абсекшы **дрэва** на **крыж**, пераварыла яго ў начынне смерці, з чаго Сусветнае Дрэва Жыцця набыло значэнне Дрэва Смерці, пад засеннем якога чалавек чакае раптоўнага поклічу з тамбыцця, каб, перасягнуўшы мяжу патаемнага, атрэсці з сябе жыццё як смерць і далучыцца да смерці як вечнага жыцця".

Такія высновы стамляюць чалавечую плоць і забіваюць духі, пакідаючы нам няпэўны выбар паміж прымітывам (прыродай і традыцыяй) жыцця і яго *разумовым абсурдам*, што, па сутнасці, адно і тое ж...

Ці не адсюль яго сыходы — у горы, увыш, у мройлівую "самастійную" філасофію? Ці не там і знаходзіць ён свой часовы схоў пры віртуальным самазнікненні: МЯНЕ НЯМА?..

У яго адзінай пакуль кніжцы, дзе ён зрабіў такі надпіс на падараваным мне асобніку: **нарадзіцца чалавекам, а памерці пісьменнікам... Якая недарэчная доля!** — можна знайсці дастаткова адказаў на гэтае гіблае пытанне, а сярод іншых і такі: "...персаналізуючы праблему **хто ён, чалавек?**, я пытаўся ў сябе **хто ён, я?**, то ў адказ не чуў нават рэха. Пытанне душыла сябе моўкнасцю. Цяпер я ведаю скуль тая моўкнасць: недарэчна пытацца пра таго, каго няма — **хто ён?** Трэба пакінуць гэтую вэрэду назаўсёды і болей не думаць пра адказ на пытанне **хто я?**, а думаць пра іншае пытанне. Бо, можа, мяне няма не ўвогуле, а толькі ў тых значэннях, у якіх я сябе шукаў?".

Зрэшты, і гэты яго, як мне здаецца, найбольш пэўны адказ засцерагаецца пытальнікам напрыканцы. На ўсялякі выпадак? Як ва ўжо згаданых вышэй "Дыялогах з Богам": "Куды ні абярнуся, Ён заўсёды за спіной. Шалеючы, мармычу скрозь зубы: — Цябе няма. І адразу адчуваю хрыбтом цяжар нябёсаў, і сэрцу робіцца млосна".

Так і ў мяне з **ім**: куды ні павярнуся — ЁН!

Больш за тое, як сведчаць метрыкі, ён ёсць ужо цэлых пяцьдзесят гадоў...

Ведаючы яго, хочацца верыць, што і з гэтай сваёй юбілейнай вечарыны альбо сяброўскіх пасядзелак, як і з усіх іншых у сваім жыцці, ён зноў-такі сыдзе апошнім... Такая ўжо ў яго жыццёвая звычка — пакідаць застолле пасля ўсіх...

І значыць той, хто задумае ўпэўніцца ў яго **сапраўднай адсутнасці**, павінен будзе сысці адтуль толькі пасля яго...

Вось тут і можа паўстаць перад кожным, хто захоча **застацца**, спрадвечнае шэкспіраўскае пытанне: **быць альбо не быць**?

Але пакуль над нашым жыццёвым застоллем стаіць высокі поўдзень — я п'ю за яго творчы і чалавечы талент, застаючыся цвярозым... Так, на ўсякі выпадак. Каб не страціць уласнай самасці...

**Леанід ГАЛУБОВІЧ**

ПАМЯЦЬ

ПЕРАГЛЯДАЮЧЫ СВОЙхатні архіў, натыкнуўся я вось на гэты рукапіс — рэцэнзію Кандрата Крапівы на першую поўнаметражную п'есу Андрэя Макаёнка "На досвітку". Рэцэнзія, як тады казалі, "закрытая", напісана для выдавецтва, якое мела намер даць твору "пуцёўку ў жыццё". Пісьменнікі тады прыносілі ў выдавецтва свае творы пераважна ў рукапісным выглядзе, бо машынкі маглі набыць далёка не ўсе патэнцыяльныя класікі — вайна скончылася нейкіх пяцьшэсць гадоў таму.

Давайце цяпер, амаль праз паўстагоддзя, пачытаем, што пісаў слынны й тады Кандрат Крапіва пра дэбютанта ў драматургіі:

"Малады драматург А. Макаёнак

# Першы — ён часта і галоўны

паставіў сабе пачэсную задачу — адлюстраваць у п'есе тую вострую барацьбу, якая адбываецца ва Францыі паміж лагерам міру і дэмакратыі, з аднаго боку, і лагерам падпальшчыкаў вайны, з другога. Аўтар дасягнуў пэўных вынікаў у вырашэнні пастаўленай задачы. Увогуле ў п'есе даецца правільнае асвятленне гэтай барацьбы. З твора відаць, што сапраўднымі актыўнымі барацьбітамі за мір і дэмакратыю, сапраўднымі патрыётамі Францыі з'яўляюцца простыя людзі, у першую чаргу рабочы клас на чале з Камуністычнай партыяй. Варожы лагер выступае ў асобе амерыканскага дзялка Джонсана, які прыехаў у Францыю рабіць свой бізнес і адчувае тут сябе поўным гаспадаром, у асобе Эжэна Дзюрвіля, які прадае інтарэсы Францыі дзеля свае асабістай нажывы, у асобе аднаго з кіраўнікоў сацыялістычнай партыі Шэвальє, які сваёй дэмагогіяй прыкрывае агідныя справы сваіх гаспадароў і свае ўласныя. Паказаны і хісткія або проста малаактыўныя людзі, якіх логіка змагання нарэшце прыводзіць у лагер актыўных барацьбітоў за мір і дэмакратыю (П'ер Грэнле, Леон).

Што да мастацкіх якасцей п'есы, то і тут аўтар паказаў сябе як здольны драматург. Ім намечаны і ў значнай (не ў аднолькавай) меры раскрыты цікавыя вобразы. Большасць карцін напісаны жыва і маюць пэўныя сцэнічныя якасці. Недахопам з драматургічнага боку з'яўляецца тое, што гэтыя, у большасці добрыя, карціны не пранізаны скразной дзеяй, якая надала б п'есе цэльнасць, драматычную напружанасць і спрыяла б больш глыбокаму раскрыццю вобразаў. Некаторыя сцэны не пасоўваюць дзеі наперад, а напісаны толькі дзеля характарыстыкі паасобных персанажаў (сцэна ў абкоме — для Дзюрана, сцэна ў парку — для Раймона). Аўтар часам і злоўжывае знешнім прыёмам характарыстыкі, падмяняючы ім больш глыбокае раскрыццё вобраза. (Партрэт Жанны д'Арк, персцень Герынга, паўкіло рысу ў Леду для паказу чуласці камуністаў і інш.).

Да недахопаў п'есы трэба аднесці і тое, што рабочыя, і ў тым ліку Леду, паказаны толькі звонку адным сваім бокам — як барацьбіты за мір, у той час як людзі варожага лагеру паказаны больш шматгранна.

Няпэўным з'яўляецца тое месца ў 4-ай карціне, дзе Дзюран чытае ўрывак з "Буревестника". Гэты цудоўны твор Горкага выступае ў няправільным асвятленні: выходзіць, што ён натхняе людзей на няправільныя ўчынкі. Гэта месца неабходна дапрацаваць, каб надаць яму больш дакладнае гучанне.

Ёсць сям-там і моўныя шурпатасці, якія трэба пагладзіць. (У рукапісе яны адзначаны птушкамі.) Няўдалай з'яўляецца прыказка пра пірушку і кружку. Па мове яна не беларуская, па сэнсу — не глыбокая, у ёй няма народнай мудрасці і трапнасці.

Не гледзячы на адзначаныя недахопы, п'еса мае значную каштоўнасць, і яе трэба друкаваць. Аднак, паколькі аўтар яшчэ працуе з тэатрам над яе паляпшэннем, друкаваць п'есу мэтазгодна будзе толькі тады, калі аўтар зробіць усе папраўкі, неабходнасць у якіх выявілася ў выніку абмеркавання п'есы і спектакля.

**К. Крапіва**

*22.11.1952 г.*"

Калі мне колькі гадоў назад трапілі на вока гэтыя старонкі, закарцела сустрэцца з А. Макаёнкам, які ўжо сам стаў на той час народным пісьменнікам Беларусі. Сустрэліся мы ля Купалаўскага тэатра. Быў пахмурны лістападаўскі вечар, гарэлі ліхтары ля парадная ўваход. Андрэй Ягоравіч са сваім палкім па-цыганску тэмпераментам хапіў мяне ў абдымкі, папрасіў:

— Рамане, аддай мне, толькі мне!..

— Добра, — кажу, — толькі, можа, дадзім пачытаць Крапівова слова і яшчэ каму-небудзь?

— Апублікаваць? Згодзен! Але тады давай напросімся ў госці да Кандратавіча. Я сазванюся з ім...

Патэлефанаваць не паспеў: яго паклалі ў бальніцу. А з бальніцы сябра мой не вярнуўся. Пайшоў ад нас Андрэй Ягоравіч. Мужчына быў асілак, ды тромб зрабіў сваё...

Раптоўная смерць добрага прыяцеля выбіла мяне з каляіны, і рукапіс неяк сам па сабе зноў схаваўся ў архіўных паперах.

Прыгадаўся ён мне яшчэ раз праз гадоў пяць, і таксама зусім выпадкова. Захацелася сустрэцца з Кандратам Кандратавічам. Ды — не сустрэўся. Чаму? Патлумачу.

Пазнаёміўся з Кандратам Крапівой у пяцьдзесят другім годзе, якраз у тым, калі была напісана згаданая выдавецкая рэцэнзія. Я скончыў універсітэт і патрапіў на рэдактарскую працу ў Беларускае дзяржаўнае выдавецтва, у рэдакцыю мастацкай літаратуры, дзе тады працавалі Мікола Татур, Алесь Кучар і Леў Салавей. Я, такім чынам, стаўся чацвёртым.

Максім Танк, на той час галоўны рэдактар часопіса "Полымя", што месціўся побач з намі на чацвёртым паверсе Дома друку, часта наведваўся ў нашу рэдакцыю. Вясёлы, жартаўлівы, вельмі гаваркі, ён любіў "перакінуцца" з М. Татурам у шашкі.

Аднаго ж разу завітаў да нас занепакоены.

— Хлопцы, хто з вас ведае Някрасава? Мае архараўцы праспалі дату — сямідзесяціпяцігоддзе з дня смерці паэта — і нікому не заказалі адпаведнага артыкула.

Я нясмела прызнаўся, што ці не тры месяцы таму абараніў дыпломную якраз па творчасці Някрасава.

— Даражэнькі, вас сам Бог нам паслаў! Ратуйце! Старонкі чатыры...

Я "накатаў" у чатыры разы больш.

Яўген Іванавіч ухваліў маё "сачыненне", але гаварыў гэта чамусьці не мне, а Кандрату Крапіве, які ў той жа час здаваў у часопіс свой артыкул пра Петруся Броўку. Максім Танк нас і пазнаёміў: "Паспяхова ўзыходзячы на літаратурныя сцяжыны юнак і абранзавелы класік нашай літаратуры..." Помню, як зусім сур'ёзна пажартаваў у адказ Кандрат Кандратавіч: "Магчыма, ягамосць пан рэдактар і мой артыкул сустрэне таксама ветліва?.."

Нашы артыкулы друкаваліся побач — у першым нумары 1953 года. Я па-хлапечы надта ганарыўся такім суседствам.

З тае пары захоўвалася ўва мне нейкае трапяткое пачуццё, пачуццё асаблівай пачцівасці да нашага жывога класіка. Міналі гады, маімі сябрамі рабіліся пісьменнікі, якія сталелі на маіх вачах, — Іван Мележ, Іван Шамякін, Янка Брыль, Андрэй Макаёнак, а тая трапяткая пачцівасць да Крапівы засталася нязменнай.

Вось і не хапіла ў мяне мужнасці, ці што, звярнуцца да Кандрата Кандратавіча з той ягонай рэцэнзіяй. А тут яшчэ і ягоная хвароба: казалі, што ён траціць зрок, не бачыць...

Пашэнціла спаткацца ажно ў сакавіку восемдзесят восьмага, ды і то выпадкова. Я трапіў у бальніцу. Сустракаю на калідоры Янку Брыля. Слова, другое — і ён цягне мяне ў сваю палату: "Хадзем. Са мной — Крапіва. Ён рады кажнаму знаёмаму галасу, усё спадзяецца, што гаворка прыглыбіць хворасці..."

Наўрад ці дарэчы радавацца такому выпадку (у бальніцы!), але я ўзрадаваўся, шчыра прызнаюся.

Зараз і не ўспомніць, чаму гаворка ці не адразу закруцілася вакол цэнзуры. Іван Антонавіч і Кандрат Кандратавіч неяк дзіўнавата — з жартаўлівым піетэтам — прыгадвалі адну такую цэнзарку, ад якой залежаў лёс і самых выдатных нашых мастакоў слова. Дзіўна, але факт: Крапіва з Брылём успаміналі радкі, абзацы і нават старонкі, якія выкрэсліваліся яе чырвоным алоўкам з паэм і раманаў, з аповесцей і драм. Успаміналі па памяці! Як жа балюча ранілі тады такія цэнзарскія наскокі на таленты ад Бога!

Наступным ранкам Янка Брыль пайшоў на чарговае "спатканне" з хірургам. Я зазірнуў у палату да Кандрата Крапівы, ужо маючы намер спытаць яго наконт тае рэцэнзіі. Аднак гаворка зноў вярнулася да цэнзарскага свавольства. Здаецца, сам жа я тое зачапіў, спытаўшы, як Пiлiп з канапель: маўляў, а вось вы пісалі камедыю "Хто смяецца апошнім" ці не ў самы жахлівы час: арышты "ворагаў народа", паказальныя працэсы... Ці не баяліся, ці не было пачуцця страху?.. Спытаў, а ў адказ — маўчанне. Бы і не чуў таго Кандрат Кандратавіч. Мо недачуў? Грамчэй спытаць, ці што?..

— З пачуццём боязі... пад страхам... камедыі не пішуцца, — узважана, без якой там надакучлівай дыдактыкі патлумачыў ён мне. — Боязь нарадзілася пасля, пазней, калі тэатр прыняў п'есу да пастаноўкі. Але і ў тэатры быў сумнеў — ці выведзе ён яе на сцэну... І чым усё гэта скончыцца для аўтара п'есы, яшчэ невядома...

Шкада, не было са мной дыктафона! Пісьменнік падрабязна распавядаў пра той вір, у які трапіла ягоная камедыя, пра тыя насцярожаныя водгукі, ідэалагічныя падказкі, парады — забраць п'есу, пачакаць з ёю, не вытыркацца...

Не кожны рэжысёр у тую пару асмеліўся б узяць для пастаноўкі такую "крамолу". Асмеліўся выбітны купалавец Леанід Рахленка. Ён і раней прыхільна ставіўся да творчасці Кандрата Крапівы, быў адным з пастаноўшчыкаў яго першай п'есы "Канец дружбы". Цяпер Л. Рахленка з'яўляўся яшчэ і мастацкім кіраўніком тагачаснага Першага БДТ. Ды перад тым, як распачаць рэпетыцыі, ён запісаўся на прыём да першага сакратара ЦК КПБ(б) П. Панамарэнкі. А падчас прыёму ўзяў ды і прачытаў уголас усю камедыю. Ведама, рабіў гэта са звычным акцёрскім узрушэннем, хвалюючыся і... рызыкуючы... Затое пераканаў і нават захапіў першую асобу на Беларусі сапраўды смешнай камедыяй з вострым сатырычным джалам. Ну, а далей — ведама: пасля прэм'еры трыумфальны поспех, у сарakaвым годзе спектакль едзе на дэкаду беларускага мастацтва ў Маскву і там — лаўры поспеху, а затым і Сталінская прэмія...

На маіх вачах хворы Кандрат Кандратавіч здаравеў. Відаць, і сапраўды той поспех даўся яму ў знак — як нешта трывожнае з пераможным фіналам. Па-чалавечы гэта так зразумела!

Тады я і рашыўся спытаць у яго пра рэцэнзію на п'есу Макаёнка: ці не будзе ён пярэчыць, калі прапанаваць яе для друку? Адказ быў адназначны: "Калі тое каго-небудзь зацікавіць..."

Я прызнаюся, што мне падалося, быццам Кандрат Кандратавіч быў надта стрыманым і нават паблажлівым адносна крытычных заўваг у адрас пачаткоўца. "Калі я не памыляюся, дык чым гэта тлумачыцца?"

Ён ціха ўсміхнуўся:

— Мы ўчора і сёння прыгадвалі тую злашчасную цэнзуру. Ды і ваш брат-рэдактар не заўсёды бывае аб'ектыўным. Навошта ж мне было памагаць пільнаму цэнзару? Чагосьці не зразумее альбо зразумее "не так" — а спашлецца на Крапіву. Тое, што я павінен быў сказаць, я сказаў маладому чалавеку — вока ў вока...

Я сказаў:

— П'еса была апублікавана ў пяцьдзесят першым годзе ў часопісе "Полымя", у газеце "Сталинская молодежь", а затым і ў альманаху "Советская Отчизна" ў перакладзе на рускую мову Барыса Бур'яна. Прэм'ера ў тэатры адбылася 25 студзеня, а рэцэнзія ваша мае дату — 22 лютага 1952 года. Не спазніліся вашы заўвагі і парады?

— Я сам свае некаторыя п'есы публікаваў пасля таго, як яны атрымлівалі сцэнічную апрабацыю. Могуць акцёры, рэжысёры, у рэшце рэшт і час тое-сёе ўдакладніць, адкарэкціраваць. Драматург жа жыве п'есай усё жыццё. Давайце маю рэцэнзію будзем лічыць блаславеннем маладому драматургу, га?..

Сведчу: тое крапівоўскае блаславенне Андрэй Макаёнак успрыняў сапраўды патворчы і з вялікай удзячнасцю. Парадам вялікага настаўніка ён быў верны ці не ва ўсіх сваіх творах, напісаных пасля драмы "На досвітку".

Я добра памятаю прэм'еру гэтага спектакля сорак восем гадоў таму. Вялікая цікавасць у гледачоў і тэатральнай грамадскасці. Віншаванні калег. Прызнанне з боку акцёраў-купалаўцаў. Гэта было выклікана не так ідэйна-мастацкімі якасцямі драматургічнай першаасновы, як фактам нараджэння новага сапраўднага таленту ў сцэнічным мастацтве. Творчая індывідуальнасць Андрэя Макаёнка прыцягнула да сябе ўвагу дасведчанага рэжысёра Кастуся Саннікава, які рызыкаваў, выводзячы на падмосткі першага тэатра рэспублікі не зусім дасканалы твор пачаткоўца. Рызыка была высакародная, бо ў тэатральную літаратуру прыйшоў чалавек, які пазней узбагаціў яе бліскучымі і сапраўды дасканалымі п'есамі — ад "Выбачайце, калі ласка" да "Трыбунала". Унутраным імпульсам для творчых смелых адкрыццяў Андрэю Макаёнку быў першы пісьмовы водгук Кандрата Крапівы. Першы — ён часта і галоўны.



*А. Макаёнак і К. Крапіва.*

**Раман ЯРОХІН**

*Фота Ул. КРУКА*

ЛіМ ЧАСАПІС

## Беларускі год на мовах свету

**Папулярызацыя беларускай культуры за межамі краіны — праблема і актуальная, і балючая. Губляецца вера, што нашымі нацыянальнымі каштоўнасцямі могуць захапляцца за мяжой, калі ва ўласнай краіне ўласны народ да іх не мае належнай павагі. Тым не менш любая культура, як каштоўнасць, якая не мае межаў і не падлягае абясцэньванню паводле прыхамацяў асобных людзей, заўсёды знаходзіць зацікаўленне ў любым грамадстве. Ці хоць бы ў пэўнай часткі гэтага грамадства. Беларускую культуру таксама прыхільна сустракаюць у іншых краінах. Важную ролю ў працэсе яе ўвядзення ў сусветны кантэкст адыгрывае дыяспара. Асабліва гэта тычыцца Беласточчыны. Там жывуць і нараджаюцца беларускія паэты, там, нягледзячы на акалічнасці, таксама, мусіць, не заўсёды спрыяльныя, выходзяць кнігі і перыядычныя выданні на беларускай мове... Няхай беларусы лічацца там меншасцю, яны ёсць і знікаць не збіраюцца. І нават здзяйсняюць усё новыя і новыя беларускія праекты...**

**Адным з такіх праектаў з'яўляецца новы часопіс "Год беларуса" пад рэдакцыяй Сакрата Яновіча, амаль легендарнай асобы, вакол якой утварыўся цэлы культурніцкі асяродак, які стварыў у сваіх родных Крынках новую "Вілу Сакрата", якая з'яўляецца своеасаблівым цэнтрам беларускай культуры. У рэдактарскай прадмове гаворыцца, што часопіс "Год беларуса" прысвечаны беларускай літаратуры, але інакш. Не столькі для беларусаў, колькі менавіта для тых, хто цікавіцца ёю. Таму не па-беларуску, а на мовах Еўропы. Выдавецкая канцэпцыя адназначная: пра беларускае не па-беларуску, а па-беларуску небеларускае. Гэта дзеля прыжывання беларускага ў шырокім свеце і таго ж свету прыжывання ў беларускім. Арыентуемся не на шэдэўры, а на пульс літаратурнага жыцця нашага часу. Гэта дае магчымасць жывога ўдзелу ў ім".**

**Новы часопіс уражвае ўжо сваім знешнім выглядам. Ён быццам бы трапіў у двухтысячны год з пачатку дваццатага стагоддзя. Афармленне Лёніка Тарасевіча вытрымана ў стылі мадэрн, старонкі са шчыльнай цёмнай паперы даводзіцца разразаць — як гэта рабілі чытачы сто гадоў таму. У нумары змешчаны артыкул-агляд гісторыі беларускай літаратуры нямецкага даследчыка Норберта Рандава на нямецкай мове. У артыкуле французскай даследчыцы беларускага паходжання Вірджыні Шыманец "Беларуская літаратура ў Францыі: Васіль Быкаў і Святлана Алексіевіч", надрукаваным адпаведна на французскай мове, аналізуецца ваенная проза, адносіны грамадства да "старой" і "новай" войнаў. Англійскі навуковец Арнольд Макмілін даследуе з'яву "грубага лірыцызму" ў прозе Івана Пташнікава. Юрка Трачук, навуковы супрацоўнік секцыі славянскай філалогіі Каталіцкага універсітэта ў Любліне, даследуе творчасць Наталлі Арсенневай. Усе тры апошнія згаданыя артыкулы надрукаваны на англійскай мове. Завяршае полімоўную навуковую частку артыкул Яўгена Кабатца на італьянскай мове, прысвечаны, наколькі можна зразумець, не ведаючы гэтай мовы, польска-беларускім літаратурным сувязям. Раздзел мастацкіх твораў складаюць вершы Яна Чыквіна ў перакладзе на нямецкую мову Норберта Рандава. Апавяданне Ісака Башэвіча Зінгера "Адлюднік" з англійскай на беларускую мову пераклалі Алесь І. Анціпенка і Алесь А. Анціпенка. Верш Томаса Гардзі пераклаў Мікола Раранаўскі. Вершы Уінстана Х'ю Одэна, Уолеса Стывенса, Эмілі Дзікінсан, Уільяма Батлера Йетса і Шарля Бадлера пераклаў на беларускую Андрэй Хадановіч. Апавяданне Б'ёрнсцерне Б'ёрнсана з нарвежскай мовы пераклаў Валеры Буйвал. У перакладзе Юрася Жалезкі друкуюцца вершы Віктара Гюго, Жака Прэвера, Роберта Фроста, Генры Лангфела, Вольфганга Борхерта, Сіва Відэберга, Густава Адольфа Бекера. Твор італьянскай паэткі Крысціяны Мольдзі Равэна, які па форме нагадвае драматычную паэму і мае назву "Першы сад, што размаўляе" пераклаў Лявон Баршчэўскі. Вершы нямецкага паэта Германа Вішната друкуюцца ў перакладзе Сакрата Яновіча. Завяршае нумар часопіса артыкул Янкі Жамойціна "Беларусь — край і народ у жыцці і творчасці Яўгена фон Энгельгарда".**

**Як вынікае ўжо з пераліку надрукаваных матэрыялаў, выданне сапраўды цікавае, змястоўнае і арыгінальнае. Застаецца выказаць спадзеў, што "Год беларуса" будзе паўтарацца з году ў год.**

**Л. ШНІП**

# Чабор паэзіі

*(Працяг. Пачатак на стар. 7)*

"Чырвоная Полаччына", скончыў літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне педагагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта, у 1940 годзе быў прызначаны галоўным рэдактарам часопіса "Полымя".

І шмат друкаваўся. Не адну кнігу да вайны паспеў выдаць. Хапіла ў гэтых зборніках і павярхоўнага, выпадковага, ставала бравурна-рытарычнага, поклічна-лозунгавага. Надзвычай моцнай была прывязанасць да паўсядзённых рэалій, калі абавязкова хацелася пра ўсё сказаць і ўсё апець. Усвядомлена прысутнічала арыентацыя на сацыяльную праблематыку. Ішло гэта ад жадання, якому П. Броўка заставаўся верным і надалей: "Хочацца і ў вершах, і ў прозе па-сапраўднаму расказаць аб вялікім, гераічным жыцці свайго народа". Толькі ўся бяда, што жаданне не заўсёды рэалізоўвалася так, каб твор па-сапраўднаму ўражваў, запамінаўся. Гэта тычыцца не толькі вершаў, а і паэм, якія былі напісаны Петрусём Усцінавічам перад вайной.

Паэзія П. Броўкі набыла якасна новае дыханне ў гады Вялікай Айчыннай вайны. У рэшце рэшт, падобнае назіраецца і ў творчасці іншых аўтараў. І не толькі беларускіх. У час, калі навісла смяротная небяспека над краінай, пачалі нараджацца радкі, якія ішлі з самой душы. Вядома, і тады шмат пісалася па так званым "сацыяльным заказе", але яно не вытрымала выпрабавання часам. Засталося шчырае, непасрэднае, унутрана перажытае. У П. Броўкі — гэта найперш вершы "Будзем сеяць, беларусы", "Кастусь Каліноўскі", "Родны край", "Спатканне". Творы гэтыя датаваны 1942—1943 гадамі. Да завяршэння барацьбы з фашызмам заставалася шмат часу. Але не ў бой заклікаў П. Броўка. Ён проста жыў упэўненасцю, што перамога абавязкова прыйдзе, і гэтая ўпэўненасць сама па сабе станавілася заклікам, па-свойму мабілізуючы на барацьбу з нямецкімі захопнікамі:

***Хутка вызваляцца гоні***
***З-пад уціску, з-пад прымусу,***
***Будзем сеяць, беларусы,***
***На ўсход сонца чыстым зернем...***
***Смерць на захад мы павернем!***

А наколькі ўдала знітавана гераічнае мінулае беларускага народа з яго геранічным ваенным днём у вершы "Кастусь Каліноўскі". Калі ў Савецкім Саюзе, дарэчы, па ўказанні Вярхоўнага Галоўнакамандуючага Сталіна, пачалі вяртаць з небыцця імёны знакамітых людзей Расіі, П. Броўка ўспомніў Кастуся Каліноўскага і "ўваскрэсіў" яго ў вобліку звычайнага беларускага хлапца Каліны:

***На Беларусі***
***Па вёсках ідуць пагалоскі —***
***З'явіўся Кастусь Каліноўскі.***



*П. Броўка з групай пісьменнікаў, 1964 г.*



*У Вязынцы, 1972 г.*

***Чаму так назвалі хлапца — невядома,***
***Ці, можа, што ў світцы***
***ён шэрай знаёмай?***
***Ці, можа, што мае блакітныя вочы?***
***Ці, можа, што тайна з'яўляецца ўночы,***
***Што мужны ён з твару,***
***Што ворагам — кара:***
***Як прыйдзе, успыхнуць у катаў пажары***
***І ляжа, пабітая, ўпокат пачвара.***

Да падзей вайны Пятрусь Усцінавіч будзе неаднаразова вяртацца ў пасляваенны час. І таксама напіша шэраг яркіх, значных твораў, у тым ліку і паэму "Голас сэрца", у якой моцны аўтабіяграфічны момант: паэтава маці была вывезена гітлераўцамі ў канцлагер Асвенцім і сама пайшла ў печ, каб уратаваць дзяўчыну, на якую выпаў такі жрэбій. Праз шмат гадоў П. Броўка наве-

# СУТОННЕ АСЕННЯТА ДНЯ

*(Працяг. Пачатак на стар. 9)*

гэту нечаканую думку, нават перажагнаўся: грэх, вялікі грэх. Успомнілася апошняя сустрэча з бацькам, які моцна пакутаваў ад страшнай хваробы — раку страўніка. Збалелы, схуднелы ад хваробы бацька жаліўся Аркадзю, які сядзеў каля яго ложка:

— Сынок, так грызець, так грызець усё нутро, што няма ніякай сілы цярпець. Здаецца б, рукі на сябе налажыў, дык жа вам за мяне будзе сорамна потым. Буду мучыцца...

"Значыць, і мне трэба цярпець, — расслаблена падумаў Аркадзь. Віно ўсётакі падзейнічала, і ён пачаў хмялець. — Бог цярпеў і нам вялеў".

Няўжо чалавек для таго і нараджаецца, каб памучыцца на зямлі, нарадзіць сабе падобных і пайсці з жыцця? Толькі дзеля гэтага? Сумна ўсё гэта. Але ж былі і ў яго шчаслівыя мінуты, нечага супраць праўды грашыць, можа, і яшчэ будуць. Хто ведае.

Чамусьці ўзышло цяпер на памяць, як аднойчы светлым верасянёўскім днём блукаў ён па ацішлым лесе сярод беластвольных бяроз. З пагорка на пагорак. Злагада і разняволенасць панавалі ў вечна чымсьці ўстрывожанай, незадаволенай душы. У такой разняволенасці раптам прыйшлі словы, якія зліліся ў асэнсаваныя радкі:

***Я адкрыў планету Небыцця,***
***Без паветра, без вады, без неба,***
***Без турботы пра кавалак хлеба.***
***Без жыцця.***

Ён здзівіўся тады: чаму раптам у такім светлым настроі — і такія радкі? Што гэта? Эпітафія на ўласны помнік? І так тады захацелася доўга жыць. Абняць гэты светлы ўзгоркавы абшар зямлі з жоўтай шчоткай іржышча, з сонечнымі стагамі цёплай пахучай саломы, з чырвонымі рабінамі на ўзлеску, з ірдзянымі гронкамі каліны на ўзбалотку. Прыпасці да ўсяго грудзьмі і набірацца сіл на доўгае жыццё. Як хораша было тады і як кепска цяпер! Жыццё наша паласатае. Усё чалавек павінен зведаць у ім. Праз усё прайсці з годнасцю. І галоўнае, не крыўдзіць людзей. Як казаў бацька: сам хочаш вер, хочаш не вер у Бога, а іншым не перашкаджай. Кожны чалавек сам па сабе незалежны. Адзін думае і паводзіць сябе так, другі па-іншаму. Вельмі важна адзін аднаму не перашкаджаць, калі прыйшлося адначасова жыць на зямлі. Не любіў бацька арганізацыі: піянерскія, камсамольскія, партыйныя. У арганізацыі патрэбна думаць і рабіць, як усе. Нават супраць сваёй волі. Поўнае абмежаванне свабоды. Такімі людзьмі, канечне, лягчэй кіраваць. Сказаў: думайце так — і яны будуць думаць. Задзіраць рукі ўгору. У час паслаблення бацька любіў пасміяцца: што такое партыйны сход, пытаўся ён. Гэта калі ўсе разам — усе "за", калі ж разышліся, дык больш палавіны — супраць. Недзе ў дзявятым класе прымалі Аркадзя ў камсамол. А да таго часу ён ужо многа кніг перачытаў, тоесёе разумеў у жыцці. Паклікалі яго ў кабінет сакратара райкома, у якога толькі дзень назад нарадзіўся сын. Гэта ведалі і школьнікі, бо жонка сакратара была настаўніцай. За сталом сядзіць іх класная, яшчэ нейкія людзі, а сакратар радасны, узбуджаны ці то з-за таго, што сын нарадзіўся, ці з-за таго, што ў ягоным "статку" авечак прыбаўляецца, расхаджвае па кабінеце. Спыніўся супраць Аркадзя і весела так пытае:

— У мяне ўчора сын нарадзіўся. Паедзеш яго хрысціць?

І раптам Аркадзя, спакойнага і сарамлівага хлапчука, узарвала. Што ж ён з мяне дурня робіць!

— Хрысціць? Дзе хрысціць? Вы ж цэрквы і касцёлы пазачынялі! Склады і хлявы з іх зрабілі! Вось цяпер у хлявах і хрысціце.

— Вон! — узроў сакратар.

Адступіўшы задам да дзвярэй, Аркадзь выскачыў з будыніны. А праз тыдзень класная прынесла яму камсамольскі білет, кінула на парту і адразу ж сабрала сход, які цалкам быў прысвечаны Аркадзю. Былі сярод школьнікаў і актыўныя выступоўцы, якія ганьбілі яго



# Суфлёр

## ПАДКАЗКІ—АНОНСЫ—ПАРАДЫ АД "ЛіМа"

**На мінулым тыдні ў Першамайскім судзе сталіцы разглядаўся іск тэлежурналіста Яраслава Беклямішава да кіраўніцтва Белтэлерадыёкампаніі. Падставай для судовай скаргі стала, на думку Беклямішава, яго незаконнае звальненне. Журналіста звольнілі з працы 9 сакавіка пасля таго, як госцем вядучага праграмы "Крок" стаў рэжысёр Юрый Хашчавацкі. У фармулёўцы загада цьмяна гаварылася пра быццам бы дапушчаныя парушэнні, неадпаведнасць мікрафоннай папцы. Журналіст вымагаў аднаўлення на працы і грашовай кампенсацыі той сумы, якую ён мог зарабіць, калі б не здарылася вымушанага прастою.**

**Але ў выніку разбіральніцтва паміж Беклямішавым і БТРК скончылася тым, што бакі падпісалі прымірэнчае пагадненне. Кіраўніцтва Беларускага тэлебачання прапанавала такія ўмовы: Беклямішаў піша заяву пра звальненне па ўласным жаданні з 14 чэрвеня, а БТ выплачвае яму сярэдні месячны заробак ад моманту звальнення па гэты дзень. Ён пагадзіўся, бо з прафесійна-маральных прычын сам не жадае больш працаваць на беларускім тэлеканале.**

*1 ліпеня, субота, 16.30* — "Арт-клуб" пра юбілей тэатральнага крытыка Таццяны Арловай.

*3 ліпеня, панядзелак, 14.25* — "Набіваю вершамі абойму", тэленарыс пра ветэрана вайны, паэта Гаўрылу Шутэнку.

*8 ліпеня, субота, 12.35* — "Кнігазбор" пазнаёміць з новымі выданнямі. Пра кнігу "Міфы старажытнасці", прэзентаваную на Міжнародным кніжным кірмашы, раскажа Людміла Ліпіла — галоўны рэдактар выдавецтва "Універсітэцкае", пра мележаўскіх "Людзей на балоце" паразважае актрыса Зінаіда Браварская. Таксама будуць прадстаўлены чытачам кнігі Рычарда Смольскага "На скрыжаванні" з трохтомніка "Гісторыя беларускага тэатра" і зборнік беларускай і шведскай паэзіі "4+4+4".

*9 ліпеня, нядзеля, 15.10* — "Беларускі дом" з такімі тэматычнымі сюжэтамі: 590-годдзе Грунвальдскай бітвы; жыццё і творчасць пісьменніка Аляксея Карпюка; гістарычнае тэлепадарожжа ў Паставы.

Дарэчы, бліжэйшым часам могуць знікнуць многія бэтэшныя перадачы. Справа ў тым, што кіраўніцтва Белтэлерадыёкампаніі павядаміла супрацоўнікам, што на бюджэтным фінансаванні застануцца толькі 14 праграм, па адной ад кожнай рэдакцыі. Для выпуску астатніх іх аўтарам давядзецца шукаць фундатараў, што пры сённяшняй занядбанай сітуацыі ў эканоміцы будзе надзвычай складана. На якія паўтара дзесятка праграм будзе даваць грошы ўласна БТ, пакуль не вызначана, зараз вядомы толькі некалькі "прыярытэтаў" — гэта шоу-праекты апошняга месяца "Будні", "Адысея каманды Кухто", "Нашы песні — наша жыццё".

Што да рэдакцыі літаратурна-мастацкіх праграм, то тут у якасці выйсця гавораць пра зліццё ў адну перадачу, напрыклад, "Арт-клуба", "Кнігазбору" і "Беларускага дома".

### КІНО ФРАНЦЫІ

Амбасада гэтай краіны і асацыяцыя "Кінаклуб" ужо некалькі гадоў стала ладзяць у Беларусі паказы французскіх фільмаў. Гэтым разам стужкі таксама прывезлі выдатныя: "Шэрбурскія парасоны", "Да пабачэння, дзеці" — паказаныя ў кінатэатры "Піянер" учора і пазаўчора.

*23 чэрвеня, пятніца, 19.00* — там жа будзе дэманстравацца яшчэ адзін вядомы фільм "Хірасіма, каханне маё" (1959 г., рэж. Ален Рэнэ).

### КАНЦЭРТЫ

*24 чэрвеня, субота* — у Наваполацкім гарадскім Палацы культуры пройдзе традыцыйны рок-фестываль "Рок-кола". Разам з мясцовымі гуртамі выступяць музыкі з "Млына" і "Склепа", а таксама бард Віктар Шалкевіч.

*28 чэрвеня, серада* — у к/з "Мінск" спяваюць Юрый Шаўчук і ягоны "ДДТ".

### ВЫСТАВЫ

*24 чэрвеня, субота, 17.00* — у галерэі "La Sandr", што каля гасцініцы "Мінск", адбудзецца творчая сустрэча з мастакамі Таццянай і Юрыем Рудзэнкамі.

"Прыватная гісторыя калектыву" — выставу на гэтую тэму можна наведаць у Галерэі візуальных мастацтваў NOVA бібліятэкі імя Я. Купалы. Свае работы прадстаўляюць 11 беларускіх фатографаў.

---

Юрась СВІРКА

# Наскае і парнаскае

### *Родавы дыялог*

*— Чаму ты, дзядулька,*
*Так доўга жывеш?*
*Ужо другі век пачынаеш.*
*— Ды што ты, мой праўнук,*
*Такое пляцеш,*
*На што, дарагі, намякаеш?..*
*Не ведаеш*
*Провадаў ты на той свет.*
*Рахунак іх страшна вялікі.*
*А некалі ты*
*Пасмяешся, што дзед*
*Рабіў пералікі-падлікі.*
*Дакладна, з камп'ютэрам*
*Я рахаваў,*
*Праверыў яшчэ й на паперцы,*
*І вось які, ўнучак, адказ атрымаў:*
*Мне жыць дзешавей,*
*Чым памерці...*

### *Акраіронія*

БЕЗ НАМЁКУ НА МАЙСТРОЎ І ЧАЛЯДНІКАЎ

*Я сніў... Жалеза. Бронза. Цэмент.*
*Сабе хацеў я ўзвесці манумент.*
*Акінуў далеч пільным вокам,*
*Мне падалося, гавару з Пракокам.*
*Прарок маім майстэрствам захапіўся:*
*"О, дойлід! — І мне нізка пакланіўся. —*
*Магчыма, вам патрэбна дапамога?"*
*Не-не, я не магу трывожыць Бога.*
*І сон прапаў... Пад бокам — гразь, цэмент.*
*Калоціць "мент" мяне, як манумент.*

### *Клятва святога грэшніка*

Ці пусціш Ты мяне, Гасподзь, да іх,
Згарбеўшага над вечнымі пытаннямі?!
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
...Я даю клятву. Я ўпэўніў сябе,
што ўсё сваё ўжо выпіў, выкурыў
і зарыфмаваў...

**Леанід Галубовіч**

*Пытанняў у цябе зашмат цяжкіх.*
*Ты імі і бацькоў сваіх трывожыш.*
*Не ўцяміў я: ці задаеш ты іх,*
*Ці толкам адказаць на іх не можаш?..*

*О не! — Не правіцыйны ты рыфмар:*
*"Таемнасцю агню" сабе пярэчыш.*
*Даўно забыты "Прыма", "Сонцадар".*
*І згадваць пра такое недарэчы.*

*Ты спрацаваны, як нявольнік-раб.*
*І не заснеш, бо сны трывожыць зданямі.*
*Пакаяцца б табе, бясонны, каб*
*Не згарбацець над вечнымі пытаннямі.*

*Ты — раб Паэзіі. І волю ты*
*Паказваў. Дык адкуль яны, пралікі?*
*Што з гэтым завязаў, — ты ўжо святы,*
*А што зарокся не пісаць, —*
*То грэх вялікі.*

### *Інкогніта*

ЮБІЛЕЙНАЕ

*У творчасці яго — выдатныя здабыткі.*
*І неслабейшыя,*
*Сваёй вытворчасці "напіткі".*
*(Штурхае на такое наша жытка).*
*Яны, як чары рэдкага сумоўя,*
*Кладуцца на душу і на здароўе.*
*Калі ж у творчасці*
*Рыпяць утулкі,*
*Тады ліюцца грэшныя грамулькі.*
*І веліч вымяраецца з імпэтам*
*Шматграннасцю,*
*Шматграмнасцю банкета.*

### *Лясны мадрыгал*

Міколу КУСЯНКОВУ

*Ты з вёскі Перарастак. Там*
*Твае карэнне радаслоўнай.*
*І гледзячы на лес, рос сам*
*Пад гоман пушчаў векапомных.*

*Увагаю не абышоў,*
*Лесавікоў па-свойму зведаў:*
*І лесаводаў-леснікоў,*
*І браканьераў-караедаў.*

*Табе натхненне лес дарыў,*
*Лесаўпарадчык, не халтурыў.*
*Прасеку сам працерабіў,*
*Каб перайсці ў літаратуру.*

*Прапахлі водарам лясным*
*Твае "Жывіца" і "Дуброва".*
*І ў прозе ты вядомы ўсім*
*Сваёй дзялянкай — Кусянковай.*

*З любоўю ты і да бароў,*
*І да сяброў, ды не па шклянцы.*
*Не наламаў бяздумна дроў*
*На творчай і лясной палянцы.*

*Да лесу хілімся мы ўсе,*
*Як грыбнікі і лесарубы.*
*І молімся яго красе.*
*Спрадвек яго багацці любім.*

*Цень пераносім на прагрэс*
*І паддаемся пустаслоўю...*
*А ты, Мікола, любіш лес*
*Адукаванаю любоўю.*

---

# Беларуская дзяржаўная акадэмія музыкі

## Аб'яўляе прыём на 2000 год у магістратуру з адрывам і без адрыву ад вытворчасці па спецыяльнасцях:

*КАМПАЗІЦЫЯ, ІНСТРУМЕНТАЛЬНАЕ ВЫКАНАЛЬНІЦТВА, ДЫРЫЖЫРАВАННЕ, СПЕВЫ (платнае навучанне)*

У магістратуру Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі прымаюцца асобы, якія маюць вышэйшую адукацыю, акадэмічную ступень бакалаўра і пастаянна пражываюць у Рэспубліцы Беларусь, а таксама грамадзяне Беларусі і беларусы, якія пражываюць за яе межамі, грамадзяне Расійскай Федэрацыі.

Асобы, якія паступаюць у магістратуру, падаюць заяву на імя рэктара акадэміі. Да заявы дадаюцца наступныя дакументы:

— асабісты лісток па ўліку кадраў, аўтабіяграфія і дзве фотакарткі 3х4;

— выпіска з пратакола пасяджэння Савета факультэта для асоб, якія рэкамендаваны для паступлення ў магістратуру непасрэдна пасля заканчэння ВНУ;

— копія дыплома аб вышэйшай адукацыі;

— копія дыплома бакалаўра (для грамадзян Беларусі, якія атрымалі вышэйшую адукацыю пасля 1995 года);

— выпіска з працоўнай кніжкі;

— рэферат па выбранай спецыяльнасці з рэцэнзіяй;

— пашпарт, дыплом аб вышэйшай адукацыі, дыплом бакалаўра прад'яўляюцца асабіста.

Паступаючыя здаюць уступныя экзамены па спецыяльнасці, калёквіуму і замежнай мове ў аб'ёме дзеючай праграмы для ВНУ. Уступны экзамен па спецыяльнасці папярэднічае экзаменам па іншых дысцыплінах. Асобы, якія паспяхова здалі ўступныя экзамены, але не прайшлі па конкурсе, а таксама грамадзяне іншых дзяржаў могуць быць залічаны ў магістратуру па кантракце на ўмовах поўнай кампенсацыі выдаткаў на навучанне.

***Уступныя экзамены — з 22 па 30 чэрвеня.***

***Даведкі па адрасе: г. Мінск, вул. Інтэрнацыянальная, 30. Каб. N 122, тэл. 226-11-76.***

●

## Аб'яўляе прыём на 2000 год у аспірантуру з адрывам і без адрыву ад вытворчасці па спецыяльнасцях:

*МУЗЫЧНАЕ МАСТАЦТВА, ТЭОРЫЯ І МЕТОДЫКА НАВУЧАННЯ (музыка), ЭСТЭТЫКА*

У аспірантуру Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі прымаюцца асобы, якія маюць вышэйшую адукацыю, схільнасць да навукова-даследчай дзейнасці і пастаянна пражываюць у Рэспубліцы Беларусь, а таксама грамадзяне Беларусі і беларусы, якія пражываюць за яе межамі, грамадзяне Расійскай Федэрацыі.

Асобы, якія паступаюць у аспірантуру, падаюць заяву на імя рэктара акадэміі. Да заявы дадаюцца наступныя дакументы:

— асабісты лісток па ўліку кадраў, аўтабіяграфія і чатыры фотакарткі 3х4;

— спіс і копіі апублікаваных навуковых прац; асобы, якія не маюць апублікаваных навуковых прац, прадстаўляюць навуковыя даклады (рэфераты) па выбранай тэме ў адпаведнасці са спецыяльнасцю;

— выпіска з пратакола пасяджэння Савета факультэта для асоб, якія рэкамендаваны для паступлення ў аспірантуру непасрэдна пасля заканчэння ВНУ;

— копія дыплома аб вышэйшай адукацыі;

— копія пасведчання аб здачы кандыдацкіх экзаменаў (пры наяўнасці зданых кандыдацкіх экзаменаў);

— выпіска з працоўнай кніжкі (для працуючых);

— пашпарт, дыплом аб вышэйшай адукацыі і дакументы аб здачы кандыдацкіх экзаменаў прад'яўляюцца асабіста.

Паступаючыя здаюць уступныя экзамены па спецыяльнасці, замежнай мове і філасофіі ў аб'ёме дзеючай праграмы для ВНУ. Уступны экзамен па спецыяльнасці папярэднічае экзаменам па іншых дысцыплінах.

Асобы, якія паспяхова здалі ўступныя экзамены, але не прайшлі па конкурсе, а таксама грамадзяне іншых дзяржаў могуць быць залічаны ў аспірантуру акадэміі па кантракце на ўмовах поўнай кампенсацыі выдаткаў на навучанне.

Прыём дакументаў праводзіцца з 4 па 20 верасня 2000 г.

***Уступныя экзамены — з 2 кастрычніка.***

***Даведкі па адрасе: г. Мінск, вул. Інтэрнацыянальная, 30. Каб. N 122, тэл. 226-11-76.***

---

# Беларуская акадэмія мастацтваў

## аб'яўляе конкурс на замяшчэнне пасад прафесарска-выкладчыцкага складу:

*дацэнт кафедры графікі — 2*

*дацэнт кафедры мадэлявання адзення і мастацкага ткацтва — 1*

*дацэнт кафедры праектавання выставак і рэкламы — 1*

*старшы выкладчык кафедры гуманітарных дысцыплін—2*

Тэрмін падачы заяў — адзін месяц з дня апублікавання аб'явы.

***Заявы і дакументы, згодна ўмове аб конкурсах, падаваць на імя рэктара акадэміі на адрас:***

***220012, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 81, аддзел кадраў; тэл. 232—77—34.***

---

# У Доме літаратара

*28 чэрвеня а 15-й гадзіне* ў бібліятэцы Дома літаратара пройдзе літаратурная сустрэча, прысвечаная 95-годдзю з дня нараджэння Петруся Броўкі.

У сустрэчы бяруць удзел вядомыя беларускія пісьменнікі, артысты.

---





ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**Павел ВЕРАБ'ЁЎ —** ***намеснік галоўнага рэдактара,***
**Алесь ГАЎРОН —** ***адказны сакратар,***
**Мікола ГІЛЬ,**
**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**Яўген РАГІН,**
**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,**
**Віктар ШНІП —** ***першы намеснік галоўнага рэдактара***

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**

| | |
|---|---|
| **прыёмная рэдакцыі —** | **284-8461** |
| **намеснікі галоўнага рэдактара —** | **284-8525, 284-7985** |
| **АДДЗЕЛЫ:** | |
| **публіцыстыкі —** | **284-8204** |
| **пісьмаў і грамадскай думкі —** | **284-7985** |
| **літаратурнага жыцця —** | **284-8462** |
| **крытыкі і бібліяграфіі —** | **284-7985** |
| **паэзіі і прозы —** | **284-8204** |
| **музыкі —** | **284-8153** |
| **тэатра, кіно і тэлебачання —** | **284-8153** |
| **выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў —** | **284-8462** |
| **навін —** | **284-8462** |
| **мастацкага афармлення —** | **284-8204** |
| **фотакарэспандэнт —** | **284-8462** |
| **бухгалтэрыя —** | **284-8462** |

***Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".***
***Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.***
***Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.***

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 3318
Нумар падпісаны ў друк 22.06.2000 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ 3157.

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12